‹ № 37 (309) ‹ 28 верасня ‹ 2012 г.
www.novychas.org

# Новы Час



ДЗІНА І СЯРГЕЙ ШАЎЦОВЫ

Стар. 6

**ВЫБАР МУЖНАГА ЧАЛАВЕКА**

Мы вырашылі распытаць спадарожніцу жыцця, а таксама адну з калегаў і знаёмую Алеся Бяляцкага пра тое, што яны думаюць пра гэтага чалавека. Бо, як вядома, ад жаночага вока нічога не схаваеш

Стар. 5

**РАЙ, ДЗЕ ГІНУЦЬ ЛЮДЗІ**

Паводле ацэнак міжнародных праваабаронцаў, штогод у турмах краіны ад катаванняў памірае каля ста чалавек

Стар. 28

**ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ**

Стар. 9–24

ISSN 2218-2144

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**ТРАГЕДЫЯ 1939-га ПРАЗ ЛЮДСКІЯ ЛЁСЫ**

Нарыс Ігара Мельнікава (працяг)

З НАГОДЫ

# НІ КАЛІВА СПАДЗЕВУ

Вольга ХВОІН

**У выбарчай кампаніі 2012 года можна паставіць кропку. Нарэшце гэтыя бессэнсоўныя дзеі атрымалі свой лагічны фінал. Быццам бы абраныя тыя, хто трэба, быццам бы хадзілі абіраць, але, відавочна, грамадзянам Беларусі на гэта ўжо напляваць. Выбаркаму час задумацца не толькі пра лічбы ў выніковых пратаколах. Але і як запаўняць участкі для галасавання хаця б фантомамі беларусаў.**




«Беларусь набліжаецца да савецкіх стандартаў выбараў, калі людзям абыякава, за каго галасаваць і як праходзяць выбары наогул», — адзначыў намеснік старшыні ПЦ «Вясна» Валянцін Стэфановіч, падводзячы вынікі кампаніі па назіранню «Праваабаронцы за свабодныя выбары. У параўнанні з прэзідэнцкімі выбарамі ў 2010 годзе, сёлета істотна адрозніваюцца паказчыкі па яўцы ў незалежных назіральнікаў і сяброў участковых камісій.

Упершыню назіральнікі заявілі пра тое, што ў Беларусі выкарыстоўваецца механізм «выбарчых каруселяў». Старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына падчас прэс-канферэнцыі аспрэчыла гэты факт. А назіральнікі, якія заявілі пра падобныя маніпуляцыі, патрапілі 23 верасня ў міліцыю. Паводле іх слоў, адны і тыя ж выбаршчыкі галасавалі ў межах адной выбарчай акругі на некалькіх участках, каб яўка ў цэлым была больш высокай.

Апазіцыя прызнаць вынікі выбараў адмовілася. Паводле заявы сямі апазіцыйных структур (Аб'яднаная грамадзянская партыя, «Малады фронт» (Чэхія), аргкамітэты па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» (БХД) і «Беларускі рух», Незалежны прафсаюз работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці, Рада беларускай інтэлігенцыі і грамадзянская кампанія «Еўрапейская Беларусь), цяпер яны распачынаюць кампанію па інфармаванні грамадзян «аб рэальных выніках выбараў».

«Тое, што ў Беларусі адбылося, не можа лічыцца выбарамі, гэта былі псеўдавыбары ў ілжэпарламент», — цытуе лідара АГП Анатоля Лябедзьку БелаПАН. — Па тых дадзеных, што мы атрымалі ад нашых людзей, якія ўдзельнічалі ў розных сетках незалежнага назірання, мы канстатуем: больш за палову выбаршчыкаў Беларусі не прынялі ўдзел у галасаванні. Па Мінску гэтая лічба яшчэ больш страшная для ўлады — дзве трэціны выбаршчыкаў не прыйшлі на ўчасткі. Гэта пацвярджаецца дадзенымі назіральнікаў і тых, хто працаваў у камісіях. Гэта дае нам падставы заявіць, што так званыя «выбары» не адбыліся, яны не могуць мець юрыдычных наступстваў для Беларусі. У нас няма абраных дэпутатаў, няма парламента, на яго месцы ўтварылася чорная дзірка».

Ці можна бліжэйшым часам чакаць кансалідаванай шырокамаштабнай інфармацыйнай кампаніі? Пытанне хіба што рытарычнае, з шэрагу «калі беларуская апазіцыя аб'ядноецца?». Больш верагодна назіраць вялацякучую кампанію, якая быццам бы павінна нагадваць пра жыццяздольнасць апазіцыі, але насамрэч ні на што не будзе ўплываць. Цяпер у лепшым выпадку ад беларускай апазіцыі можна чакаць нейкага «нарошчвання масы» перад галоўным боем пяцігодкі — прэзідэнцкімі выбарамі 2015 года. Але з улікам іх аддаленасці, раздробленага стану апазіцыйных структур і шырокай хвалі эміграцыі палітычных лідараў, якія дыстанцыйна збіраюцца змяняць палітычны рэжым у Беларусі, даводзіцца спадзявацца толькі на татэм усёмагутнага крызісу. Праўда, кіраўніцтва Беларусі выдатна разумее яго сілу, і, адпаведна, будзе ўсімі праведнымі і не толькі шляхамі шукаць абыходы.

Між іншым, назіральнікі Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе заявілі, што парламенцкія выбары не адпавядаюць міжнародным стандартам. Пазіцыю АБСЕ падтрымалі Еўрасаюз і ЗША. «Парламенцкія выбары ўяўляюць сабой яшчэ адну страчаную магчымасць правесці выбары ў адпаведнасці з міжнароднымі стандартамі ў Беларусі», — кранальна сфармулявалі тэзу аб фальсіфікацыях у сумеснай заяве Кэтрын Эштан — высокі прадстаўнік Саюза па замежных справах і палітыцы бяспекі і віцэ-прэзідэнт Еўрапейскай Камісіі, і Штэфан Фюле — камісар па пытаннях пашырэння і Еўрапейскай палітыцы суседства. Гэта азначае, што ніякіх пацяпленняў, вызваленняў палітвязняў бліжэйшым часам чакаць не даводзіцца. Як і рэалізацыі еўрапейскіх праграм, кшталту «Дыялога для мадэрнізацыі». Часы нескарыстаных магчымасцяў і статыкі.

На гэтым тле, канешне, найбольш пытанняў узнікае да лідараў апазіцыйных структур: што далей, чаго чакаць у 2015-м? Але праблема ў тым, што наўрад ці нехта зможа даць уцямны адказ або прапанаваць варыянт, пад якім безагаворачна з пакораю і рэальнай гатоўнасцю да дзеянняў распішуцца астатнія акторы. Калі нават у такой дробязі і нічога не вырашальнай кампаніі (бо што яны значаць!), як парламенцкія выбары, не атрымалася дзейнічаць адзіным сціснутым кулаком, то ў часе прэзідэнцкай кампаніі зноў на поўную хаду папруць асабістыя амбіцыя, і на свет народзіцца чарговы шматасабовы цмок. І выглядае будучыня беспрасветна — ні табе пераменаў, ні нават спадзеву на іх магчымасць. Хіба што паўстане радыкальнае пытанне выжывання, а бегчы не будзе куды. Але ж гэта варварскі варыянт, не будзем пра горшае...

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# ДАШКЕВІЧ ТРЫМАЕ ГАЛАДОЎКУ

**Зміцер Дашкевіч галадае ўжо другі тыдзень.**

Такім чынам ён пратэстуе супраць нечалавечых паводзін адміністрацыі мазырскай калоніі, у тым ліку асабіста яе начальніка Юрыя Багданавіча Збароўскага.

Зміцер перадаў, што спыніць галадоўку толькі тады, калі турэмнае начальства перастане яго цкаваць, а таксама папросіць прабачэнне за ранейшыя абразы.

Мы не даем ацэнку паводзінам адміністрацыі мазырскай калоніі — гэтым няхай займаецца Генпракуратура, у якую будуць скіраваныя скаргі па кожным з абуральных інцыдэнтаў, што адбыліся ў Мазыры. Мы апішам гэтыя сітуацыі, каб вы мелі ўяўленне, у якіх умовах вымушаны адбываць пакаранне Дашкевіч.

Зміцер Дашкевіч прыбыў у Мазыр у ПК–20. Пры першай сустрэчы з кіраўніком калоніі той пацікавіўся, якую веру спавядае Дашкевіч. Пачуўшы спакойнае «пратэстант», ён распавёў Дашкевічу шмат новага пра гэтую канфесію, напрыклад: «Эти ваши секты насаждаются Западом, чтобы разрушить славянскую расу!»

Пасля таго, як Зміцер адмовіўся прыбіраць каранцін (атрад, дзе па прыбыцці ў калонію першыя тыдні находзяцца вязні), атраднік каранціна хадайнічаў пра размову з ім, для чаго была сабраная камісія з 7 чалавек. На пасяджэнні гэтай камісіі Юрый Збароўскі пачаў абражаць Дашкевіча, не адсталі ад яго і астатнія чальцы камісіі. З такой камісіяй Дашкевіч размаўляць адмовіўся. У гэты дзень яго пазбавілі ўсіх доўгіх спатканняў і далі вымову.

У барак, куды толькі-толькі завялі Дашкевіча і дзе жыве блізу 40 чалавек, прыйшоў рэжымны супрацоўнік і знайшоў на стале лязо. Адразу звярнуўшыся да Дашкевіча, ён запытаўся: «Што, ускрыцца вырашыў?»

Павялі да начальніка рэжымнага аддзелу. «Пиши, где взял!» — загадаў ён. «Ды не маё», — адказвае Дашкевіч. — «Было найдено у тебя в личных вещах!» Зміцер замест гэтага перадаў яму заяву пра тое, што ён распачынае галадоўку. Начальнік рэжымнага аддзелу яе змяў і выкінуў, але пры гэтым зноў пачаў пагражаць.

Пасля таго, як Зміцер выказаўся пра парадкі ў калоніі, і гэта пачуў адзін маёр, зноў сабралі камісію і на гэты раз пазбавілі Дашкевіча ўсіх кароткіх спатканняў. Зміцер глядзеў на гэта ўсё і маўчаў... Але кіраўніку і гэтая рэакцыя была не да спадобы: «Так ты молчишь, провоцируешь?! Поставить тебя на профучёт у психолага?» Псіхолаг паддакнула: «Да-да, ещё надо как и суицидника поставить на учёт, он же лезвие прятал!»

Звернем вашу ўвагу, што паставіць чалавека на ўлік як суіцыдніка — гэта фактычна развязаць рукі адміністрацыі калоніі і мець бездакорнае тлумачэнне ў выпадку нейкіх здарэнняў — «ён жа суіцыднік»...

Пасля такіх і многіх іншых інцыдэнтаў Зміцер адмовіўся выконваць любыя загады, яго адправілі зноў на камісію, але там далі новы тэрмін ШЫЗА. Наколькі часу — невядома.

Паколькі Зміцер не быў пэўны, ці далучылі да асабістай справы інфармацыю пра галадоўку, ён вырашыў хадзіць з ШЫЗА два разы на суткі мерадь ціск, каб было сведчанне таго, што ён ад галадоўкі не адмовіўся, і не адмовіцца да таго часу, пакуль стаўленне да яго не зменіцца. Але лекар проста выгнала яго. Зміцер напісаў на гэта скаргу ў мазырскую пракуратуру, але ці выйшла яна па-за межы калоніі, ніхто не ведае.

«Зміцер Дашкевіч у калоніі ўсяго тыдзень. Што можа быць далей — цяжка ўявіць... У размове са мною начальнік рэжымнага аддзелу прыгразіў, што калі нешта выйдзе ў СМІ, — Дашкевічу будзе горш. Але я не бачу іншага варыянта, акрамя агучвання гэтых жудасных рэчаў. Дарэчы, начальнік калоніі спрабаваў выкруціць гэтую гісторыю наадварот — маўляў, Зміцер вар'яцее, лаецца матам на іх, абражае...» — распавяла падрабязнасці Наста Палажанка.

*Напісаць Змітру Дашкевічу лісты падтрымкі можна па адрасе: Мазыр–11, ПК–20, індэкс 247760*

*Таксама вы можаце скіраваць тэлеграму начальніку калоніі Збароўскаму Юрыю Багданавічу па адрасе: Мазыр–11, ПК–20, індэкс 247760*

*P.S.: Тэкст скарочаны ў тых месцах, дзе цытуюцца абразы і мацюкі на адрас Дашкевіча. І без гэтага зразумела, у якіх жудасных умовах знаходзіцца Зміцер.*

**Паводле інфармацыі «Маладога фронту»**

# КАВАЛЕНКУ ВЫЗВАЛІЛІ

**З магілёўскай калоніі 26 верасня каля 20:00 быў вызвалены віцебскі актывіст Кансерватыўна-хрысціянскай партыі — БНФ Сяргей Каваленка.**

Па словах памілаванага, яго пасадзілі на цягнік да Віцебска, дзе яго сустрэлі родныя. Сяргей Каваленка не выключае, што 26 верасня быў вызвалены таксама Павел Сырамалотаў, асуджаны па справе аб нападзе на будынак КДБ у Бабруйску.

Сяргея Каваленку ў траўні 2010 года прысудзілі да трох гадоў пазбаўлення волі ўмоўна за вывешванне бел-чырвона-белага сцяга на галоўнай ёлцы Віцебска.

24 лютага 2012 года суддзя Алена Жук прысудзіла актывіста да двух гадоў і аднаго месяца пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму. У ліпені актывіст КХП — БНФ напісаў прашэнне аб памілаванні.

**Паводле «Еўрарадыё»**

СМІ

# ГЕНЕРАЛЬНАЯ ПРАКУРАТУРА ЎМЫЛА РУКІ Ў СПРАВЕ СУРАПІНА

**ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» атрымала першы адказ на подпісы, сабраныя за спыненне крымінальнай справы супраць журналіста.**



Нагадаем, што падпісная кампанія ў абарону Антона Сурапіна праходзіла па ініцыятыве журналісцкай арганізацыі з 14 жніўня па 13 верасня бягучага года. Напрыканцы кампаніі сабраныя подпісы былі дасланыя ў Камітэт дзяржаўнай бяспекі Беларусі, а таксама Генеральную пракуратуру.

26 верасня ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» атрымала першы адказ на перададзеныя звароты. Генеральная пракуратура Беларусі за подпісам намесніка начальніка аддзела Д.С. Чаркаса паведаміла журналісцкай арганізацыі, што свой экземпляр подпісаў яна таксама перадае ў КДБ.

Такім чынам, рашэнне пра спыненне крымінальнага пераследу журналіста цяпер цалкам знаходзіцца ў руках арганізацыі, якая гэты пераслед распачала.

Падпісная кампанія ў абарону зняволенага Антона Сурапіна ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» ідзе з 14 жніўня. За тры дні ў падтрымку журналіста і стваральніка сайту bnp.by адгукнуліся дзясяткі галоўных рэдактараў беларускіх і замежных выданняў, вядомыя медыяперсоны, сябры ГА «БАЖ», а таксама проста неабыякавыя людзі.

17 жніўня, праз тры дні пасля пачатку кампаніі, следчыя КДБ прынялі рашэнне вызваліць фатографа з СІЗА КДБ пад падпіску аб нявыездзе. Тым не менш, збор подпісаў быў працягнуты — цяпер ужо за спыненне крымінальнага пераследу журналіста.

**Прэс-служба ГА «БАЖ»**

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# ЗА ФОТА З ПЛАКАТАМ «БАЙКОТ» ПАЛАМАЛІ НОС І РУКУ

Тацццяна ШАПУЦЬКА

**Невядомыя напалі на моладзевага актывіста Яўгена Мацулевіча ў цэнтры Маладзечна.**

Для 26-гадовага Яўгена Мацулевіча выбарчая кампанія яшчэ не скончана. Як стала вядома толькі 26 верасня, у мінулую пятніцу (21 верасня) на вуліцы Касманаўтаў у Маладзечне мясцовы жыхар Яўген пабачыў плакат «Байкот» і вырашыў сфатаграфавацца з ім на памяць пра выбарчую кампанію.

Паводле Яўгена, у тую ж хвіліну двое зухаватых мужчынаў падхапілі яго пад рукі і завялі за вугал, дзе збілі. У выніку хлопцу паламалі нос, руку, пад вокам застаўся сіняк.

Як распавёў Яўген «Новаму Часу», ён падаў заяву ў міліцыю. «Скаргу там прынялі. Міліцыянты акрэслілі гэта хуліганствам, не ўлічвалі палітычныя матывы. Я дык не думаю, што гэтых хлопцаў знойдуць», — гаворыць Яўген.

Цяпер хлопец ходзіць у гіпсе, які здымуць не раней, як праз дзесяць дзён.

ЭКАЛОГІЯ

# ЯШЧЭ АДЗІН ЗАВОД

Вольга ХВОІН

**Завод па спальванню глеістых асадкаў будзе пабудаваны ў прамзоне «Шабаны», на тэрыторыі Мінскіх ачышчальных збудаванняў. Цяпер праходзіць грамадскае абмеркаванне гэтага праекта. Заказчыкам плануемай гаспадарчай дзейнасці выступае ДВА «Камунальная гаспадарка Мінгарвыканкама».**

Неабходнасць будаўніцтва завода па спальванню глеістых асадкаў тлумачыцца тым, што ападкі ды іл сцёкавых вод уяўляюць сабой бактэрыялагічную і эпідэміялагічную небяспеку. У іх ёсць усе асноўныя формы бактэрыяльных арганізмаў. З патагенных мікраарганізмаў сустракаюцца ўзбуджальнікі страўнікава-кішачных і іншых захворванняў, вялікая колькасць яек гельмінтаў. Таму традыцыйныя метады апрацоўкі асадкаў — выкарыстанне ў якасці сельскагаспадарчых угнаенняў, скід у прыродныя вадаёмы, кампаставанне ці пахаванне — не заўсёды эфектыўныя і становяцца экалагічна небяспечнымі. Для зніжэння ўздзеяння на стан навакольнага асяроддзя неабходна ўтылізаваць асадак.

Адным з распаўсюджаных спосабаў вырашэння праблемы з'яўляецца тэрмічная ўтылізацыя апрацаванага асадка, то бок яго спальванне. Між іншым, КУП «Мінскводаканал» ад 1976 года ажыццяўляе бесперабойнае забеспячэнне спажыўцоў паслугамі водазабеспячэння, водаадвядзення і ачыстку сцёкавых вод. За гэты час на тэрыторыі ачышчальных збудаванняў былі назапашаныя вялікія аб'ёмы глеістых адходаў.

На новым прадпрыемстве ў якасці газу для спальвання глеістых асадкаў прадугледжана выкарыстанне біягазу, што атрымліваецца ў працэсе зброджвання сырога асадка. Дым будзе, але, як паказваюць разлікі, на межах жылой і бытавой санітарнаахоўнай зоны нарматывы якасці атмасфернага паветра не будуць перавышаныя ні па адным з забруджвальных рэчываў. Попел жа павінен накіроўвацца на захоўванне ў спецыяльную калонуназапашвальнік, разлічаную на пару сутак работы завода.

«Зыходзячы з прадстаўленых праектных рашэнняў, пры правільнай эксплуатацыі і абслугоўванні абсталявання, пры рэалізацыі прадугледжаных прыродаахоўных мерапрыемстваў, пры строгім вытворчым экалагічным кантролі негатыўнае ўздзеянне пры эксплуатацыі завода па спальванню глеістых асадкаў будзе нязначным і не прывядзе да парушэння прыродна-антрапагеннай раўнавагі», — мяркуюць аўтары справаздачы аб ацэнцы ўздзеяння на навакольнае асяроддзе аб'екта. Асноўным мерапрыемствам па ахове падземных вод у гэтым праекце з'яўляецца «бетоннае пакрыццё вакол пляцоўкі, дзе будзе размяшчацца абсталяванне». Бліжэйшая жылая зона знаходзіцца ў кіламетры ад дымавых труб праектуемага завода.

Падчас грамадскага абмеркавання праекта намеснік галоўнага інжынера «Мінскводаканала» Наталля Халадзінская заявіла, што праект будаўніцтва завода па спальванню глеістых асадкаў, які будзе ўзведзены ў чыгуначных Шабанах, правераны на практыцы ў Еўропе.

Праект распрацоўваўся энергетычнай інжынерна-кансалтынгавай кампаніяй ТДА «Прадукты» з прыцягненнем спецыялістаў «Масводаканал». «Схема будаўніцтва апраўдала сябе на шэрагу аб'ектаў у Еўропе. Тэхналогія, якая прымяняецца ў абгрунтаванні інвеставання, прадугледжвае максімальнае прыняцце мер па ачыстцы дымавых газаў. Тэхналогія прадугледжвае папярэднюю сушку глеістых асадкаў і наступнае іх спальванне. Для сушкі будзе выкарыстоўвацца цяпло дымавых газаў. Гэта найбольш рацыянальны варыянт, прынамсі па эканамічнай частцы», — адзначыла спецыяліст.

У кірунку сталічнай прамзоны «Шабаны» знаходзіцца і вялікі гарадскі сметнік, а гэтая ўскраіна Мінска лічыцца кепскай для пражывання акурат з-за насычанасці прылеглых тэрыторый прамысловымі прадпрыемствамі. Цяпер вядуцца размовы пра тое, каб пабудаваць новы смеццеперапрацоўчы завод. Верагодна, ён можа паўстаць акурат у названым раёне, праўда, экологі мяркуюць, што гэтага катэгарычна рабіць нельга. Разам з тым ужо прынятае рашэнне аб пашырэнні палігона цвёрдых бытавых адходаў «Трасцянецкі».

У бліжэйшай перспектыве тут прадугледжана будаўніцтва адразу трох аб'ектаў. Па-першае, смеццеперапрацоўчага сартавальнага завода магутнасцю 100 тысяч тон адходаў у год. Па-другое, комплексу па спальванню трупаў жывёл, медыцынскіх адходаў і іншых відаў паталагічнага матэрыялу. Па-трэцяе, другой чаргі непасрэдна сметніка.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# АПТЫМІСТЫ

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Усе казалі, што пасля выбараў пачнуцца эканамічныя праблемы. Аднак яны памыліліся. Афіцыйна выбары яшчэ не паспелі скончыцца — толькі 28 верасня ЦВК зацвердзіць вынікі выбараў, а людзі ўжо пабеглі ў абменнікі за валютай.**

Прычым валютны ажыятаж прыкметны не толькі сярод звычайнага насельніцтва. Юрыдычныя асобы таксама рэзка нарасцілі аб'ём куплі замежнай валюты. Гэта сведчыць пра тое, што бізнэс таксама вырашыў падстрахавацца і перавесці вялікую частку сваіх актываў з ненадзейнага беларускага рубля ў больш устойлівыя замежныя валюты.

Аналітыкі лічаць, што валютны бум быў справакаваны шэрагам фактараў. Гэта не толькі рост заробкаў напярэдадні выбараў. Нацбанк РБ знізіў стаўку рэфінансавання — да 30,5%, а да канца года гэты паказчык можа ўпасці да 20–23% гадавых, прычым кіраўнік банка Надзея Ермакова не выключае і падзення да 13–15%. То бок, ёсць небяспека, што стаўка па рублёвых укладах таксама будзе зніжацца, а гэта было адзіным прывабным бокам захоўвання збераженняў у рублях.

Але ж на фоне лёгкай панікі насельніцтва наш урад і нашы правадыры ўпэўнена працягваюць крочыць у светлую будучыню, нягледзячы ні на што. Указамі прэзідэнта 25 верасня зацверджаны важнейшыя параметры прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця і Асноўныя кірункі грашова-крэдытнай палітыкі Беларусі на 2013 год. Плануецца, што ў наступным годзе рост валавога ўнутранага прадукту будзе 8,5%, прадукцыйнасць працы (па валавым унутраным прадукце) узрасце на 9,3%, экспарт тавараў і паслуг павялічыцца на 15,2%.

Асабліва цікава, як можна прагназаваць такі паказчык, як «прадукцыйнасць працы». Гэта што, усіх працоўных пазбавіць перакураў? Ці, можа, перайсці на 12-гадзінны працоўны дзень? Альбо рэзка павысіць колькасць кваліфікаваных кадраў? Нейкі нязграбны паказчык у нас…

Сальда знешняга гандлю таварамі і паслугамі чакаецца станоўчае на ўзроўні 0,7% да ВУП, зніжэнне энергаёмістасці ВУП — на 7%. Прыцягненне прамых замежных інвестыцый на чыстай аснове прагназуецца ў аб'ёме 4,5 мільярда долараў ЗША, увод у эксплуатацыю жылля — 6,5 мільёна квадратных метраў.

Ну, гэта ў нас традыцыйна чакаецца. Ладна, увод у эксплуатацыю жылля. А вось інвестыцыі ні Захад, ні Усход ніяк нам даваць не хочуць, трэса на іх! Ці выстаўляюць такія ўмовы, што хоць воўкам вый. Казалі ж ім — «Беларуськалій» каштуе 30 мільярдаў долараў. А яны кажуць — 10 мільярдаў і ні цэнтам болей. Вось звяры!

Тое ж самае з дадатным сальда. Ужо па ўсім свеце бегаем, ужо загадана ў Афрыку беларускія лядоўні прадаваць — не бяруць, сволачы! Бяруць толькі нафтапрадукты, якія нам Расія рэгулярна «абразае».

Наблыталі, здаецца, і з прагнозам росту заробку. Мяркуецца, што рэальныя наяўныя грашовыя даходы насельніцтва ў 2013 годзе павінны скласці 106,5% да ўзроўню гэтага года.

І вось тут варта крыкам крычаць. Якія 106,5%?! Прэзідэнт жа перад выбарамі ясна сказаў: калі зараз 500 долараў, то ў 2013 годзе павінна быць 600! Хіба сто баксаў — гэта 6,5%? Гэта значна вышэй! Як гэта — павелічэнне заробку на 6,5%? Што ж вы нам нахлусілі?

Такія ж аптымісты распрацавалі і беларускі бюджэт. Рэспубліканскі бюджэт на 2013 год будзе бездэфіцытным. Гэта прадугледжана праектам бюджэту, паведаміў журналістам 26 верасня старшыня камісіі па бюджэце, фінансах і падатковай палітыцы Палаты прадстаўнікоў Аляксандр Антоненка.

«Рэальныя даходы бюджэту вырастуць прапарцыянальна росту ВУП і складуць прыкладна 30%», — паведаміў ён. Антоненка таксама распавёў, што бюджэт носіць выразны сацыяльны характар і прадугледжвае апераджальны рост тэмпаў расходаў на ахову здароўя, навуку і адукацыю.

Так, давайце і тут разбярэмся. Даходы бюджэту вырастуць прапарцыйна росту ВУП. Рост ВУП, як казалася ў прагнозе, складзе 8,5%, а даходы бюджэту — 30%. Дзе ж прапарцыйнасць? Калі рэальныя даходы бюджэту складаюць 30%, то гэта не бездэфіцытны, а прафіцытны бюджэт. А вось што такое «апераджальны рост расходаў»? Ён што, апераджае даходы? Які ж гэта «бездэфіцыт»?

Такое магчыма толькі з мыльнымі бурбалкамі. Якога б памеру яны ні былі, у іх усё роўна толькі паветра. Можна казаць, што адна большая за другую, але якасная сутнасць гэтага не зьмяняецца.

Дарэчы, пра мыльныя бурбалкі. Кіраўніцтва кластара інфармацыйных тэхналогій расійскага інавацыйнага фонду «Сколкава» зацікавілася вопытам беларускага Парка высокіх тэхналогій (ПВТ) у фармаванні спрыяльнага асяроддзя для развіцця IT-бізнэсу, паведамляе адміністрацыя Парка высокіх тэхналогій. 21 верасня ў Мінску прайшла сустрэча дырэктара адміністрацыі ПВТ Валерыя Цапкалы і дырэктара па навуцы і даследаваннях кластара інфармацыйных тэхналогій «Сколкава» Мікалая Суэціна. Прадстаўнік расійскага фонду цікавіўся асаблівасцямі працы ПВТ і ўмовамі, створанымі ў ім для IT-кампаній. Бакі таксама вызначылі прыярытэтныя кірункі ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва.

І смех, і грэх. Што Сколкава, што беларускі ПВТ яшчэ нават недабудаваныя. Забудову тэрыторыі Парка высокіх тэхналогій плануецца завяршыць да канца 2013 года. А завяршэнне будаўніцтва першага будынка «Сколкава» — «Гіперкубу» — намечана толькі на восень 2012 года. Аб'екты першай чаргі «Сколкава» будуць уведзены ў эксплуатацыю толькі ў 2014 годзе, цалкам будаўніцтва аб'ектаў будзе завершана да 2020 года. І гэта толькі па планах!

Якія могуць быць «прыярытэтныя кірункі ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва», што ў аднаго недабудаванага праекта, што ў другога? Калі б досведам абменьваліся, скажам, ПВТ і «крэмніевая даліна», тут яшчэ можна было б нешта падумаць. А Сколкава і ПВТ пакуль што могуць абменьвацца толькі адным — досведам «распілу» дзяржаўнага бабла. Таго самага бюджэту, які плануецца ў нас быць ці то бездэфіцытным, ці то прафіцытным, ці то дэфіцытным. З завышанымі чаканнямі і без увагі на неспрыяльныя знешнія і ўнутраныя ўмовы.

Адным словам, спадзяванні ў нас толькі на наш аптымізм. Больш спадзявацца няма на што.




## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### АЛЕСЬ ПУШКІН



Мастака Алеся Пушкіна асудзілі да дзесяці сутак арышту. У турму Пушкін патрапіў за акцыю памяці кіраўніка антыкамуністычнага падполля ў Смаргоні ў пасляваенныя гады Расціслава Лапіцкага.

Паводле праваабаронцы Алеся Дзергачова, які прысутнічаў у залі суда, на відэазапісе добра відаць, што Пушкін не аказваў супраціву міліцыянтам, калі яны прапанавалі яму сесці да іх у машыну.

«У яго была ікона на галаве і партрэт Лапіцкага на грудзях. Ён стаяў і маўчаў. Яму сказалі праследаваць, а ён прасіў паўтарыць загад на беларускай мове. Потым яму сказалі, што прыменяць фізічную сілу, а ён прасіў паўтарыць загад па-беларуску. І потым, калі яго ўжо паклалі ў машыну, ён ляжаў як бервяно, але паўтараў: размаўляйце са мной на дзяржаўнай беларускай мове», — перадае Радыё «Свабода».

На пачатку верасня мастакі Алесь Пушкін, Генадзь Драздоў, Валянцін Варанішча, а таксама грамадскі актывіст Уладзімер Шульжыцкі зладзілі ў Смаргоні акцыю памяці кіраўніка антыкамуністычнага падполля ў пасляваенныя гады Расціслава Лапіцкага.

Усе яны адстаялі ў царкве малебен, які быў заказаны па нявінна забітым Расціславе Лапіцкім, пасля чаго з партрэтамі Лапіцкага, якія самі намалявалі, ішлі па горадзе. На адной з вуліц іх спынілі міліцыянты і даставілі ў пастарунак, дзе на ўсіх склалі пратаколы за правядзенне несанкцыянаванага шэсця. Мастакоў пратрымалі ў пастарунку ўсю ноч.

Пазней суд аштрафаваў Цыркунова, Драздова, Варанішчу і Шульжыцкага. Мастакі вінаватымі сябе не прызналі і заявілі, што будуць абскарджваць рашэнні суда.

22-гадовы кіраўнік антыкамуністычнага падполля Расціслаў Лапіцкі быў расстраляны 28 кастрычніка 1950 года. Моладзевая падпольная арганізацыя, якую ён узначальваў, распаўсюджвала лістоўкі супраць Сталіна і бальшавіцкай улады.

### МІХАІЛ САВАНОВІЧ



Супрацоўнікі камунальнага прадпрыемства склалі скаргу ў Мінскую гарадскую пракуратуру. Яны просяць прыцягнуць да адказнасці старшыню ЖРЭА–1 Фрунзенскага раёна Васіля Шашка. Менавіта ён адказваў за фіктыўнае фарміраванне спісу дэлегатаў, якія нібыта падтрымлівалі кандыдатуру Міхаіла Савановіча на вылучэнне ў дэпутаты. На самай справе ж супрацоўнікі ЖЭС–48 з Савановічам не знаёмыя, пра яго дзейнасць на пасадзе старшыні Мінгарсавета нічога не ведаюць, паведамляе інфармацыйны рэсурс spring96.org.

Па выніках галасавання на Кальварыйскай выбарчай акрузе №104 перамогу атрымаў менавіта Міхаіл Савановіч. Эксперт кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» Уладзімір Лабковіч адзначыў, што калі факты, выкладзеныя Паўлам Спірын, пацвердзяцца, будзе пакараны не толькі старшыня ЖРЭА №1 Фрунзенскага раёна. «У такім выпадку пад сумневам будуць вынікі галасавання на Кальварыйскай выбарчай акрузе №104», — дадаў праваабаронца.

### АЛЕСЬ МІХАЛЕВІЧ



Экс-кандыдата ў прэзідэнты Алеся Міхалевіча Федэральная міграцыйная служба ЗША затрымала ў нью-ёркскім аэрапорце на 12 гадзін.

Алесь Міхалевіч быў запрошаны ў ЗША для ўдзелу ў рабоце Генеральнай Асамблеі ААН, у прыватнасці — яе Камітэта па правах чалавека. Пасля прыбыцця палітык праходзіў стандартны іміграцыйны кантроль, але супрацоўнік, які праводзіў працэдуру, запрасіў яго на дадатковае сумоўе. У выніку Міхалевіча змясцілі ў памяшканне для затрыманых у нью-ёркскім аэрапорце, дзе ён прабыў каля 12 гадзін, паведамляе tut.by.

Пасля прэзідэнцкіх выбараў 19 снежня 2010 года Міхалевіча затрымалі і змясцілі ў СІЗА КДБ. Калі Міхалевіча выпусцілі з КДБ, ён адразу зрабіў заяву, што яго пад катаваннямі прымусілі падпісаць абавязацельства аб супрацоўніцтве з органамі. Неўзабаве пасля гэтага палітык збег з Беларусі і афіцыйна атрымаў палітычны прытулак у Чэхіі. У Беларусі крымінальная справа ў дачыненні да Міхалевіча спынена не была, і ўлады абвясцілі яго ў міжнародны вышук. Тым не менш Інтэрпол нядаўна выступіў з заявай, што выкрасліў Міхалевіча са спісаў асоб, якія могуць быць арыштаваныя па запыце ўладаў Беларусі.

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# ПАВЕТРАНЫЯ БЮЛЕТЭНІ

Аляксей ХАДЫКА

**Калі ЦВК паведамляе грамадзянам, што ў Мінску прагаласавала каля 58% выбарцаў, не трэба ёй верыць. Пра гэта ведае большасць мінчукоў, якая праігнаравала галасаванне. Адкуль жа лічбы — спытаецеся вы. А ніадкуль — з паветра. Магу гэта засведчыць як назіральнік.**

На ўчастку №586 знакамітай 107-й акругі, размешчаным на вуліцы Усходняй, 40 у гімназіі №6, балатаваліся рэкордных 5 кандыдатаў, уключаючы дзейснага дэпутата і кіраўніка камісіі па міжнародных справах Палаты прадстаўнікоў Віталя Бусько. Шосты прэтэндэнт ад БНФ Уладзімір Падгол у акрузе зняўся напярэдадні галасавання.

Сіламі ініцыятывы «Праваабаронцы за свабодныя выбары» працэс галасавання — ад папярэдняга да галасавання па месцы жыхарства і непасрэдна 23 верасня на ўчастку — быў цалкам падкантрольны назіральнікам. Выбаршчыкаў лічылі па галовах і штодня звяраліся па пратаколах участковай камісіі. Лічбы стасаваліся, бо ўсё было навідавоку. Акруга невялікая: 1125 асобаў, надзеленых правам галасаваць.

Вырашалася галоўнае пытанне кампаніі–2012 — ці адбудуцца выбары ўвогуле, калі большасць апазіцыйных сіл заклікала да байкоту галасавання. Працэс ішоў руцінна: папярэдняе галасаванне — 94 чалавекі за 5 дзён, ці 8,35% (а не 19% у сярэднім па сталіцы, як паведамляла ЦВК). З «сярэдняй тэмпературай па шпіталю» карціна не зусім супадала. Падобная сітуацыя назіралася на суседнім участку №588, таксама ахопленым назіральнікамі.

Лічбы ўчастковай камісіяй не аспрэчваліся. Як і лічбы галасавання з вынасной скрыняй па дамах пажылых выбарцаў (абодва вынасы скрыні 23 верасня назіральнікі пракантралявалі — плюс яшчэ 36 галасоў).

Непасрэдна на ўчастку 23 верасня таксама маналюдна — калі бліжэй да 17 гадзін Лідзія Ярмошына пераможна паведаміла, што ў Мінску «ў сярэднім» ужо аддалі свае галасы больш 48% выбарцаў, сумарная колькасць пададзеных галасоў не перавышала 25% ад спісу. І канчаткова спынілася ў 20.00 — у выніку, нагадаем, пагалоўнага падліку — на лічбе 346.

Паўторымся: 94 чалавекі прагаласавалі папярэдне, 36 — у дзень асноўнага галасавання па месцы жыхарства ў вынасную скрыню, 216 — на ўчастку. Усяго 30,75%. Выбары не адбыліся.

Падлік галасоў зрокава не прынёс нічога дзіўнага: з ускрытых скрыняў на сталы выпала, адпаведна, небагатая колькасць бюлетэняў. Лічылі іх даволі дзіўным чынам: 12 сябраў камісіі не складалі іх у стосы, не сартавалі адпаведна абраным у кожным з бюлетэняў кандыдатам (было б 7 стосаў — 5 за кожнага з прэтэндэнтаў, 1 супраць усіх і 1 — сапсаваныя). Сябры камісіі, падсунуўшы да сябе частку агульнай кіпы, лічылі кожны свой кавалак асобна, запісваючы прамежкавы вынік на выдадзеную кожнаму паперку. Затым паперкі збіраліся старшынёй, і лічбы па пазначаных пазіцыях — за кагосьці ці супраць усіх — моўчкі складаліся.



Фальшаванне выбараў у Беларусі перайшло ў нейкую новую, фантасмагарычную фазу. Лічбы — без усялякага сумневу і згрызотаў сумлення — бяруцца папросту з паветра

Вы яшчэ не здагадаліся, да чаго ішла справа? Правільна, ніхто з сябраў камісіі не ведаў агульнай колькасці бюлетэняў. Барацьба ішла не толькі за тое, каб «працягнуць» патрэбнага кандыдата, не агалошваючы ўслых набраны ім працэнт, а яшчэ і за тое, каб «выбары адбыліся».

Фінал наступіў вокамгненна. Старшыня хутка спакавала пагашаныя і прагаласаваныя (сціплы стосік) бюлетэні — і… Нечакана бегма, у суправаджэнні паклікананага ахоўніка — старэйшага лейтэнанта, пакінула ўчастак, выгукнуўшы праз плячо: «Вынікі галасавання абвесціць сакратар і намеснік старшыні камісіі…»

Дзверы за старшынёй камісіі, намеснікам дырэктара гімназіі №6 Раманчук Надзеяй Мікалаеўнай зачыніліся. І толькі тады прагучалі вынікі — у дзень выбараў на ўчастку быццам прагаласавала не 216, а 442 (!) выбарцы. Агулам — 573, ці 50,1%. Зразумела, гэтых бюлетэняў не было ў знесеным стосіку. Гэтыя людзі не распісаліся ў спісах рэгістрацыі ў момант атрымання бюлетэняў — а дапісаць больш за дзвесце фальшывых подпісаў папросту не было часу. 227 галасоў дадалі нахабна, не саромеючыся і не вагаючыся.

Цікава, што сітуацыя паўтарылася на суседнім участку №588 у той жа гімназіі №6. Назіральнікі ўчастка №586 паспелі папярэдзіць сваіх калег на ўчастку №588, дзе колькасць выбарцаў перавышала 2000 і падлік ішоў марудней, пра методыку зносу бюлетэняў. І калі старшыня камісіі бессаромна «дамаляваў» у выніковы пратакол каля 500 галасоў, назіральнікі запатрабавалі пераліку бюлетэняў (колькасць рэальна пададзеных галасоў вагалася каля 30% і без дапіскі выбары б не адбыліся). Адказ быў просты: пераліку колькасці бюлетэняў не будзе: хочаце скардзіцца — скардзіцеся.

Фальшаванне выбараў у Беларусі перайшло ў нейкую новую, фантасмагарычную фазу. Няма патаемнага дакідвання (хаця на ўчастку №588 закід каля 50 бюлетэняў адбыўся ў вынасную скрыню, якую не суправаджаў назіральнік). Дарма палохацца хітрых «каруселяў», калі на ўчастак падвозяць пару аўтобусаў ліпавых галасоўшчыкаў. Гэтага не стае. Лічбы — без усялякага сумневу і згрызотаў сумлення — бяруцца папросту з паветра. Калі кагосьці цікавіць, каму ж дасталася большасць паветраных галасоў на ўчастку №586, паведамляем: дзейнаму дэпутату Віталю Бусько — 324. Калі лічыць ад колькасці рэальных удзельнікаў выбараў — 93,7% (пры чатырох канкурэнтах). Страшна падумаць: папулярнасць, вышэйшая за Лукашэнку…

ЮБІЛЕЙ

# ВЫБАР МУЖНАГА ЧАЛАВЕКА

Вольга ХВОІН

**Вядомы беларускі праваабаронца Алесь Бяляцкі 25 верасня адзначыў свой 50-ы дзень народзінаў. На жаль, у турме, дзе палітвязень знаходзіцца ад 4 жніўня 2011 года. Алесь Бяляцкі — асоба цікавая, нестандартная. Мы вырашылі распытаць спадарожніцу жыцця, а таксама адну з калегаў і знаёмую Алеся Бяляцкага пра тое, што яны думаюць пра гэтага чалавека. Бо, як вядома, ад жаночага вока нічога не ўтоіш.**



На ганку музея Максіма Багдановіча ў Мінску. Дырэктар Алесь Бяляцкі з супрацоўнікамі, пачатак 1990-х

Сёлета ў Алеся Бяляцкага і яго жонкі Наталлі Пінчук было свята — срэбнае вяселле, 25 гадоў сумеснага жыцця. Таму найперш распавесці пра Алеся і яго ўплыў на жыццё мы папрасілі Наталлю.

**Наталля Пінчук, жонка:**

— У віншавальным лісце са «срэбраным вяселлем» Алесь мне напісаў: «Спадзяюся, што гэты час не быў надта сумным і нецікавым. Спадзяюся, што ты моцна не расчаравалася, пражыўшы разам са мною гэтыя 25 гадоў. Я дык згадваю гэтыя гады з сентыментальнай настальгіяй і ўдзячнасцю. Мяркую, што наступныя гады будуць не горшымі, а лепшымі, і яшчэ адзначым разам не адзін юбілей».

Я хачу сказаць, што наша жыццё сапраўды было цікавым ва ўсіх адносінах. Відаць, гэта было першапачаткова вызначальным момантам, як мы пазнаёміліся. Алесь заўсёды быў для мяне асобай, на якую я раўнялася.

Алесь вельмі ўраўнаважаны, і гэта таксама паўплывала на лад нашага жыцця. Для мяне былі вельмі прывабнымі адносіны, мадэль паводзінаў, што мелі месца ў сям’і Алеся. Калі я пазнаёмілася з яго бацькамі, то, памятаю, абсалютна камфортна пачувалася з імі. Алесь ніколі не дэманструе сваё лідарства, яно не заўважнае, але адчувальнае. Першапачаткова гэта, можа, і не вельмі ўспрымалася, але з часам я разумела, што ён меў рацыю. Хаця, як жанчына са сваім характарам, я не заўсёды гэта дэманстравала. Для нашага сына Алесь бясспрэчна ёсць аўтарытэтам.

Для мяне заўсёды было адназначна, што для мужчыны галоўнае — праца, і не як інакш. Таму з гэтай нагоды ніколі не было непаразуменняў. Мне зразумелыя яго імпэт, адданасць сваёй справе.

Бацька мяне вучыў, што нельга ні на каго спадзявацца, ніхто не панясе за цябе тваю ношу — твой шлях, табе і вырашаць праблемы. Я не прывыкла чакаць нечага ад людзей, таму і ў сітуацыі з Алесем я не разлічвала на нешта. Але атрымалася так, што і з боку беларускай грамады, і з боку міжнароднай супольнасці ёсць аграмадная падтрымка. Я магу гэта патлумачыць адданасцю Алеся сваёй справе, ён рабіў усё шчыра, на гэта было пакладзена яго жыццё. І людзі гэта ацанілі.

**Паліна Сцепаненка, працавала разам з Алесем Бяляцкім у Музеі Багдановіча, потым у ПЦ «Вясна»:**

— Я ведаю Бяляцкага з 16-ці гадоў. Мая мама выкладала ў Алеся, ён часам прыходзіў да мамы, і я зацікавілася ім, яго пазіцыяй. Алесь старэй за мяне на шэсць гадоў, калі ён быў у войску, мы ліставаліся. Фактычна, Алесь мяне падштурхнуў да самаразвіцця — ён сказаў мне ісці вучыцца на філфак, а я была на той час не надта старannай вучаніцай. Ён даў мне веру ў сябе, я сапраўды паступіла ва ўніверсітэт на філфак. А ў 1986 годзе я пачала дапамагаць яго легальнай і паўлегальнай грамадскай дзейнасці. Пасля таго, як Алеся абралі дырэктарам Музея Багдановіча, ён узяў да сябе ў каманду на працу Эдуарда Акуліна, Алену Лапцёнак, Сяргея Астраўца. Да іх далучылася і я.

Алесь Бяляцкі — надзвычай надзейны чалавек, мне вельмі падабалася, што ён не такі, як усе навокал. Ён мужчына, за якім сапраўды пачуваешся як за каменнай сцяной. Цяпер я кажу пра Алеся як пра прыклад гендэрна незамутнёнага вобразу.

А хвалю салідарнасці з Бяляцкім можна патлумачыць найперш яго асобаю — ён добры чалавек, нікому не зрабіў брыдасці. Ён не інтрыган, не злодзей, нікога ніколі не падстаўляў. Такіх людзей сапраўды цяпер мала.

**Людвіка Вітушкава (Кардзіс), жонка вядомага грамадскага дзеяча, пісьменніка Сяргея Вітушкі:**

— Мы з Алесем Бяляцкім сустракаліся эпізадычна. Першы раз — у 1989 годзе падчас Другога вольнага сойму моладзевых суполак у Вільні. Алесь пытаўся ў мяне, як я стаўлюся да адраджэння беларускага касцёлу ў Вільні. Канешне, мой адказ быў станоўчым. На другі дзень пасля завяршэння сойму мы пайшлі на сустрэчу ў касцёл Святога Мікалая. Фактычна, гэты быў першы камень у падмурак аднаўлення беларускіх набажэнстваў у Вільні. І заслуга Алеся тут вялікая, бо ён даў першы штуршок. Тады ў мяне было захапленне Алесем як лідарам, як асобаю. Не Вінцуком Вячоркам, не Сяргеем Вітушкам, хаця яны і прамаўлялі да нас палымяна. Пасля мы каротка сустракаліся на розных імпрэзах — нядаўна знайшла сумесны здымак з Курапатаў, дзе Алесь ладзіў экскурсію.

Пасля мы многа гадоў не бачыліся з ім і сустрэліся пасля перапынку, можа, год пяць таму. І гэта быў ужо абсалютна іншы чалавек. Напэўна, я і сама за гэты час змянілася. Бо на пачатку нашага знаёмства Алесь падаваўся мне рамантычным, узнёслым, а цяпер я пабачыла рацыянальнага чалавека. Падкрэслю — я таксама змянілася за гэты час.

Цяпер я пішу лісты не толькі Бяляцкаму ў турму, але і да Змітра Дашкевіча. За яго я найбольш перажываю, хоць мы і гаварылі з гэтым чалавекам толькі адзін раз па тэлефоне, відаць, я стаўлюся да Змітра як да малодшага брата.

Да Алеся Бяляцкага я цяпер пішу не часта, і лісты гэтыя атрымліваюцца як апісанне нейкага адрэзку дня ці нейкай падзеі. Я не пытаюся: «Як ты?», не пішу словаў спачування, мне хочацца, каб з майго ліста хоць нешта выклікала ўсмешку, вырвала думкамі Алеся з яго цяперашняга жыцця.

Чаму ён абраў турму, а не эміграцыю? Перад самым яго арыштам мы коратка бачыліся ў Вільні, пра магчымы арышт не гаварылі ні слова. Думаю, гэта быў ягоны свядомы выбар, выбар мужнага чалавека, верніка, яго крыжовы шлях. Ён сёння б мог гуляць па Швейцарыі, але сваім рашэннем паказаў, што не баіцца ўладаў Беларусі, не баіцца выпрабаванняў. Гэта не пафасныя словы.

Лісты і паштоўкі Алесю Бяляцкаму можна дасылаць на адрас: 213807, Магілёўская вобл., г. Бабруйск, вул. Сікорскага, 1, Папраўчая калонія № 2, атрад №14 — Бяляцкаму Алесю Віктаравічу.

КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

# ЖЫЦЦЁ СПРАЎДЖВАЕ ПРАГНОЗЫ

**Зразумела, ніхто іншага і не чакаў. Новы асабовы склад ніжэйшай палаткі сфарміраваўся ў першым туры як чарговы шыхт мечаносцаў, згодных яшчэ мінімум чатыры гады служыць сваім і прэзідэнцкім інтарэсам. Усё настолькі сур’ёзна, што, як кажуць, хоць святых выносі.**

Нават па Новабеліцкай выбарчай акрузе №36, дзе праўладны кандыдат адмовіўся ад удзелу ў выбарах з нагоды надзвычайнага маральна-палітычнага здарэння, яго апанент з ЛДП, які застаўся сам-насам з выбаршчыкамі, не змог завабіць на ўчастак дастатковай для кворуму колькасці.

Прынамсі, па дадзеных выбаркама. А яны, як было і дагэтуль, у нас лічацца канчатковымі і неаспрэчнымі. Камар носа не падточыць. Сітуацыя дасканала даведзена да абсурду. Нікому, нават сябрам шматлікіх выбаркамаў, немагчыма назваць тое, што адбываецца (і робіцца) выбарамі, але яны са скуры вылузваюцца, каб забяспечыць патрэбныя вынікі галасавання. Міжнародныя назіральнікі з дэмакратычных краін вар’яцеюць ад страты суб’ектнасці, а іх калегі з краін СНД лічаць, што інакш на пераходным этапе і быць не павінна.

Сярод «людзей на балоце», дзе атабарылася большая частка звыклага да аўтарытарных метадаў задавальнення дэмакратычных патрэб асобы і грамадства аўтарытарнай асобай і грамадствам, пануе цішыня. Верагодна, большасці ўжо надакучыла жыццё ва ўмовах перманентнага чакання абяцанай лепшай долі. Да таго ж яны на ўласным досведзе бачаць, як некалі абвешчаныя часовымі цяжкасці з кожнай гадзінай дабаўляюць у жаданні быць вечнымі. І ўжо не толькі пакаленне пенсіянераў, але і тыя, для каго прэзідэнцкая ўлада з’яўляецца адзіным вядомым з асабістага жыцця выразным афармленнем палітычных інтарэсаў, задаюцца пытаннем: навошта яно ўсё было?

Толькі дзеля таго, каб адзін чалавек стаў вечным прэзідэнтам і прызначаў адпаведных сваім патрэбам дэпутатам? Ці не занадта вялікую цану даводзіцца плаціць за такое палкае, але цалкам асабістае жаданне? Сямейнае, групавое, кланавае. Як ні адбудоўвай лагічныя ланцужкі, ні вызначай сувязі прычын і наступстваў, ён ужо даўно і відавочна служыць не краіне і народу, а самому сабе.

Пытанні, як вядома, узнікаюць нават сярод людзей, якія не жадаюць думаць. У асобныя моманты менавіта сярод гэтай (і толькі гэтай) не звыклай да думання большыні ўзнікаюць пытанні, што патрабуюць хуткага і дакладнага адказу. Хто не бачыў знакамітага «Браняносца Пацёмкіна», не чуў на свае вушы напісаны ў цітрах нямы крык — афіцэраў за борт!?

Бачылі ўсе...

Павінны думаць і самі «паны афіцэры». Тыя ж дэпутаты, вялікае ды малое чыноўніцтва, пастаўленае ва ўмовы праўладнага служэння і адпаведнага дасягнутым поспехам асабіста-сямейнага кармлення з «аднаго вакна». Зразумела, большасць з іх непасрэднымі вынікамі галасавання задаволены. Гэта значыць, што адразу пасля палітычных справаздач большасць начальнікаў і адказных выканаўцаў не звольняць з пасад нават па ўласным жаданні.




Бог пакуль ратуе. Таму станоўчыя эмоцыі ёсць, хоць крэатыўнага зместу амаль няма. Над усім і ўсімі загаспадарыла змушаная ідэалагічная лаяльнасць. Прычым такая, як яе разумеў хутчэй Вацлаў Гавел, чым Анатоль Рубінаў. Па Гавелу, гэта рэакцыя носіць мяккі характар і не змушае чалавека да штодзённай дэманстрацыі ідэалагічнай адданасці. А спадар Рубінаў займае тут прыкладна такую ж рыгарыстычную пазіцыю, што і колішні яго калега з Вялікага палітбюро таварыш Суслаў.

Прынамсі, электаральная большасць даўно махнула рукой: рабіце, што хочаце, толькі не лезьце ў душу з маралямі (варыянт — не варыце страву з чарвівага мяса). А сп. Рубінава цягне да рыгарызму вядомага гатунку. Маўляў, кожнаму адданаму барацьбіту можна дараваць не адну з чужых жонак. Калі ж што здрадзіць з варожай ідэяй, то вечная ганьба яму з канфіскацыяй маёмасці.

А гэта ўжо (хто б і што ні казаў) не нейкая там элегантная перамога, а суровая рэчаіснасць з жыцця службоўцаў палітычна-крымінальнага вышуку. Гэта ад іх патрабуюць службу дні і ночы. А зараз — тым больш. Бо ўсім відавочна, што пра чарговую элегантную перамогу гаворкі больш не будзе. Аж пакуль гэты рэжым не сыдзе са сцэны.

Некалі ў падручніку па гісторыі КПСС пра такіх правіцеляў пісалі, што гістарычна яны перажылі самі сябе. Жыццё звычайна праўдзіла такія смелыя прагнозы. І хоць у большасці яны прадказвалі гісторыю, але надышоў час, і яны спраўдзіліся ў самай што ні ёсць паўсядзённай рэчаіснасці.

ТРЭЦІ СЕКТАР

# ДЗІНА І СЯРГЕЙ ШАЎЦОВЫ

Аляксандр ТАМКОВІЧ

**Структуру свайго нарыса я ўбачыў за тыдзень да таго, як сустрэўся з Дзінай Шаўцовай і яе мужам Сяргеем, і нават не ведаў пра іх захапленне рэлігіяй. А падчас размовы зразумеў, чаму былі выбраныя менавіта гэтыя людзі — за шчырасць і дабрыню.**



## Дарога нумар адзін

Для Дзіны Сандыкбаевай усё пачалося 9 жніўня 1965 года ў Мінску. Яе маці — Людміла Ільінічна. Бацьку ж звалі Муслім Есінавіч (у пашпарце — Максум Елеусізавіч). Вучыцца ў беларускі «Палітэх» ён прыехаў з Казахстана. Займаўся меліярацыяй. Калі Дзіне споўнілася 15 гадоў, бацькі скасавалі шлюб. А два з паловай гады таму бацькі на гэтым свеце не стала.

Вучылася Дзіна ў 27-й школе. Яшчэ ў дзявятым класе Дзіна Сандыкбаева вырашыла пайсці на юрфак БДУ, і нават паступіла на адпаведныя падрыхтоўчыя курсы. Але не стала рызыкаваць, калі ў атэстаце з'явілася адна чацвёрка, бо конкурс на юрфаку БДУ быў нават сярод медалістаў. Абрала аддзяленне правазнаўства ў Тэхнікуме савецкага гандлю. Але гэта зусім не азначала марна патрачаны час. Вучоба ў тэхнікуме адметная тым, што дае навыкі, якіх амаль няма ў выпускнікоў ВНУ.

Напрыклад, Дзіна Сандыкбаева праходзіла практыку ў абласным судзе, якім тады кіраваў сённяшні старшыня Вярхоўнага суда Валянцін Сукала. Туды ж яе запрасілі пасля заканчэння вучобы. Нягледзячы на чырвоны дыплом тэхнікума, яна абрала ва ўніверсітэце толькі вячэрнюю форму навучання (апошні набор), аднак праз год зразумела, што для нармальнай вучобы гэта не вельмі добра. Перавялася на стацыянар.

Дзіна скончыла ўніверсітэт у 1989 годзе і атрымала размеркаванне юрысконсультам на завод «Бальшавік», што вырабляе скуры. Зараз яго можна знайсці ў пасёлку Гатава, а тады ён яшчэ месціўся на Кастрычніцкай вуліцы Мінска. Аднак па размеркаванню не працавала, атрымала адмацаванне.

На апошніх універсітэцкіх курсах адзін з яе аднагрупнікаў, які паралельна з вучобай працаваў трэнерам (былы чэмпіён СССР), запрасіў яе ў ваенна-спартыўны клуб «Дзяржынец». Там яна і пазнаёмілася з Сяргеем Шаўцовым, які таксама вучыўся на юрфаку БДУ.

## Дарога нумар два

Сяргей Шаўцоў нарадзіўся 29 ліпеня 1965 года. Адбылося гэта ў вёсцы Забялышына Хоцімскага (раней Клімавіцкага) раёна Магілёўскай вобласці, хаця яго бацькі жылі тады каля мінскага Аўтазавода. Тлумачыцца такая недарэчнасць вельмі проста.

Справа ў тым, што ў той даволі вялікай вёсцы жыла і працавала ўрачом родная сястра маці Сяргея Марыя Мяфодзьеўна. Валянціна Мяфодзьеўна паехала нараджаць да яе. Першыя сем дзён свайго жыцця Сяргей правёў менавіта ў Забялышыне, таму, калі, жонка жартліва называе яго «вясковым хлопцам», у гэтага ёсць пэўныя падставы.

Не буду яшчэ раз узгадваць пра пастаянныя і пакуль не паспяховыя спробы айчынных чыноўнікаў далучыць Беларусь да Балонскага працэсу — прафесіяналы гэта зробяць больш аргументавана. У мяне на гэты конт толькі два пытанні. Калі наша сістэма адукацыі «лепшая ў свеце», то чаму чыноўнікі ўсіх рангаў вучаць уласных дзяцей за мяжой?.. І чаму сёння кар'ерны рост абумоўлены не ўзроўнем адукацыі, а шклоўска-магілёўскай прапіскай і палітычнай лаяльнасцю?..

На мой погляд, моцна прапіяраная рэстаўрацыя ўсяго савецкага (мякка кажучы) мае ў сучаснай Беларусі вельмі своеасаблівы характар. Сёння ствараецца зусім не тое, што было раней. Паперкамі падмяняюцца сапраўды глыбокія веды тых часоў. Прыклад Сяргея Шаўцова ў гэтым сэнсе вельмі паказальны.

Юрыстам ён вырашыў стаць яшчэ ў восьмым класе. Закончыў 117-ю школу на «выдатна» і «добра», але гэтага яму (як і будучай жонцы) не хапіла, каб адразу паступіць на юрфак. Год прапрацаваў слесарам-рамонтнікам на прадпрыемстве калёсных цягачоў. Тады яно ўваходзіла ў склад МАЗа, а потым стала асобным заводам. Адтуль пайшоў служыць у армію.

На другім годзе службы Сяргей папрасіў прыслаць яму падручнікі. Працягнуў падрыхтоўку да паступлення і пасля звальнення ў запас (восень 1985 года). Амаль дзевяць месяцаў займаўся на падрыхтоўчым аддзяленні. Днём — работа, вечарам — вучоба.

Летам 1986 года ён стаў студэнтам юрыдычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

Першы раз сваю будучую жонку ўбачыў у 1987 годзе, калі фармавалі студэнцкі будаўнічы атрад, а пазнаёміліся яны праз год. Як ужо пісалася, у ваенна-патрыятычным клубе «Дзяржынец».

## Перакрыжаванне лёсаў

У клубе студэнты юрфаку вялі правы гурток. А потым разам пачалі займацца каратэ. Дзіна і Сяргей былі спарынг-партнёрамі і нават не думалі, што калісьці дзявочае прозвішча Сандыкбаева зменіцца на Шаўцову, і яны стануць партнёрамі па жыцці.

Дарэчы, менавіта з трэніроўкамі па каратэ звязаны адзін цікавы выпадак. Аднойчы моцны ўдар Дзіны Сяргей так жорстка блакаваў, што на назе дзяўчыны, якую тады апалілі яшчэ і залішняй замарозкай, па гэты дзень застаўся шнар. Гумарысты з такой нагоды, хутчэй за ўсё, сказалі б — памецці.

Нагадаю, што было гэта ў 1989 годзе і нічым большым не працягнулася. Калі, так можна сказаць, для Дзіны і Сяргея пачалося аўтаномнае плаванне. Кожны паасобку стварыў сваю сям'ю, нарадзіў дзяцей, развёўся.

Зноў сустрэліся яны толькі праз сем гадоў. Амаль выпадкова. Дзіна тады працавала юрыстам у прыватнай фірме пры спартыўным клубе «Дынама». Адзін са знаёмых трэнераў (раней разам працавалі) аднойчы расказаў, што сустрэў Сяргея і даў яму яе нумар тэлефона.

У 1995 годзе сустрэліся зноў. Не буду распавядаць усе акалічнасці таго, што было далей, адзначу толькі, што, хаця Дзіна і адчувала рамантычны настрой Сяргея, паўтараць эксперымент з другім шлюбам не хацелася.

Здалася яна толькі пасля таго, як адчула шчырую дапамогу падчас бяды з сынам, які выпаў з акна чацвёртага паверха і трапіў у бальніцу. І яшчэ. За некалькі месяцаў да гэтага жанчына ўбачыла сон, дзе Сяргей быў названы яе мужам. Як кажуць, нічога ў нашым жыцці не бывае выпадковым.

Аднак пераканала не толькі гэта. Як той няверуючы Фама, Дзіна стала прасіць ад Бога нейкі знак. І атрымала — 8 жніўня 1996 года (напярэдадні дня народзінаў) Сяргей Шаўцоў зрабіў Дзіне прапанову стаць яго жонкай.

5 красавіка 1997 года яны распісаліся.

## Шлях да Храма

У пратэстанцкую царкву Поўнага Евангелля Дзіна Шаўцова прыйшла ў 1992 годзе. Цалкам лагічна, што перад вяселлем туды трапіў і яе муж.

У 1999 годзе яны адкрылі сваю юрыдычную фірму, дзе разам з іншымі (яшчэ пяць чалавек) займаліся гаспадарчымі пытаннямі. Паралельна юрыдычна дапамагалі царкве.

Да сумных падзей на Нямізе ніякіх наездаў на вернікаў не галоўнай канфесіі не было. Трагедыя стала каталізатарам прыняцця прэзідэнцкага дэкрэта №36, які падрабязна рэгламентаваў правядзенне «масавых мерапрыемстваў».

Многія кажуць, што гэта было зроблена наўмысна для таго, каб узяць пад кантроль любое іншадумства. Калі раней гэта было не патрэбна, то пачынаючы з верасня 1999 года (больш актыўна з 2000 года) на любое пратэстанцкае набажэнства неабходна было браць дазвол у выканкаме.

З гэтай жа катэгорыі і «Закон аб свабодзе веравызнання», які ўступіў у дзеянне 31 кастрычніка 2002 года. Шмат ужо было сказана, дый гаворыцца зараз, пра тое, што ён, мякка кажучы, унікальны ў сэнсе дамінавання адных прынцыпаў над другімі.

Адзначым іншае: яго нечаканае (выскачыў, як чорт з табакеркі) з'яўленне і вельмі хуткі рух ад праекта да дакумента, які рэгламентуе ўсё рэлігійнае жыццё краіны і прыярытэты адной канфесіі, лагічна выклікалі супраціў усіх іншых. Па прапанове Ірыны Жыхар узнікла новая грамадзянская ініцыятыва, назву для якой прыдумала Дзіна Шаўцова, — «За свабоднае веравызнанне».

Гэта быў прыкметны выклік уладзе. А калі дадаць судовыя спрэчкі паміж нетрадыцыйнымі вернікамі, чые інтарэсы адстойвала Дзіна Шаўцова, і Беларускім тэлебачаннем у асобе Яўгена Новікава, то яе запрашэнне ў юрыдычную службу Белтэлерадыёкампаніі выглядае для нашых часоў, як мінімум, вельмі дзіўна. Ваганні на гэты конт прыпыніў вядомы евангелісткі пастар (дэпартаваны з Беларусі ў 2008 годзе) Веньямін Брук: «А чаму не?».

Пратрымалася там Дзіна Шаўцова да 28 сакавіка 2006 года. У гэты дзень яна нарэшце грукнула дзвярамі. І не толькі таму, што яе мужа абсалютна незаконна адправілі на дзесяць сутак за акрэсцінскія краты. Хаця яна і не мела непасрэднага дачынення да навін, якія тады суправаджалі намётавы гарадок, прынцыпова не хацелася мець нават ускоснага дачынення да БТ, мець адпаведны запіс у працоўнай кніжцы.

У дадзены момант Дзіна Шаўцова займаецца выключна пытаннямі праваабарончага забеспячэння рэлігійнай свабоды. Яе муж — па сутнасці тым жа самым, плюс юрыдычнай падтрымкай (зарабляе на хлеб) у розных гаспадарчых структурах. Напэўна, на гэтым месцы трэба было паставіць кропку, але так зрабіць перашкаджае фраза, якую Сяргей Шаўцоў пачуў у сталічным Ленінскім судзе: у нас ёсць толь толькі адна царква — праваслаўная, усё астатняе — баптысцкія секты…

Каментаваць відавочнае глупства, якое стала амаль дзяржаўнай палітыкай, не буду. Абмяжуюся словамі аднаго кінагероя: гэты шлях не вядзе да Храма…

7

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

TV

## 1 КАСТРЫЧНІКА, ПАНЯДЗЕЛАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.55** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** У цэнтры ўвагі.
**10.05** Клуб рэдактараў.
**10.45** Вакол планеты.
**11.25** Журналісцкае расследаванне.
**12.15** Камедыйны дэтэктыў «Пярсцёнак спадчынніка дынастыі» (Расія).
**13.25** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**14.20** Дакументальны серыял «Майстар вандраванняў» (ЗША).
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Дакументальны фільм «Акадэмік Ігнат Антонаў. Чалавек-легенда».
**16.25** Драма «Містычныя гісторыі».
**17.25** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда « (Украіна).
**18.30** Камандзіроўка.
**18.45, 23.45** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Камедыйны серыял «Суседзі» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Форум.
**22.45** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША-Канада).
**00.10** Дзень спорту.
**00.20** Камедыйны дэтэктыў «Пярсцёнак спадчынніка дынастыі» (Расія).

---

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жыць здарова!».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** АНТ прадстаўляе: «Сардэчна запрашаем у Беларусь».
**12.05** «Сэрца Марыі». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** Прэм'ера сезону «Час абедаць!».
**13.50** «Модны прысуд».
**14.55** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Камедыя «Дзеці панядзелку».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Зваротны адлік».
**19.00** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** АНТ прадстаўляе: «Адкрыты фармат».
**22.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**23.15** Прэм'ера. «Алег Яфрэмаў. Голас унутры мяне».
**00.20** «Вячэрні Ургант».
**00.50** «Без сведак».
**01.20** Начныя навіны.

---

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**09.35** «Вялікі сняданак».
**10.10** «Зялёны агурок. Карысная перадача».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.35** «Прошаная вячэра». Лепшае.
**12.35** «Барадзін. Вяртанне генерала». Серыял. Заключная серыя.
**13.50** «Цэнтральны рэгіён».
**14.25** «Жыць будзеце».
**14.40** Канцэрт М.Задорнава.
**16.50** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**17.10** «Наша справа».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Палата № 6». Расія, 2009 г.
**22.20** «Гарады, што спяваюць».
**22.55** Прэм'ера: «Пагаворым». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**23.05** «СТБ-спорт».
**23.10** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**00.05** «Пякельная кухня».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Беларусь.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Ды Вінчы» (Канада). 1-я серыя.
**10.10** Навіны надвор'я.
**10.40** Бітва экстрасэнсаў.
**11.50** «Лясныя арэлі» («Беларусьфільм»).
**13.15** Школа рамонту.
**14.20** Пад грыфам «Вядомыя».
**14.55** Камедыйна-фантастычны серыял «Гуманоіды ў Каралёве» (Расія).
**15.30** Беларуская часіна.
**16.35** Меладраматычны дэтэктыў «Вялікае зло і дробныя поскудзі». 1-я серыя.
**17.50** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Прыгодніцкі баявік «Атрад» (Расія).
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Авертайм.
**22.00** Меладраматычны дэтэктыў «Вялікае зло і дробныя поскудзі». 1-я серыя.
**23.05** Камедыйна-фантастычны серыял «Гуманоіды ў Каралёве» (Расія).
**23.40** Футбол. Прэм'ер-ліга. Агляд тура.

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Карціна свету».
**10.55** Надвор'е на тыдзень.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Ранішняя@пошта».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** «Кахаю, не магу!».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** «Шукальнікі».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.45** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Апошні кардон».
**22.20** Тэлесерыял «Скліфасоўскі».
**00.10** Навіны - Беларусь.
**00.20** «Дзяжурны па краіне».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.35** «Праграма Максімум».
**09.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**10.00** Сёння.
**10.20** «Рускія сенсацыі». Інфармацыйны дэтэктыў.
**11.10** «Да суду».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** Серыял «Марскія д'яблы».
**15.10** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**21.25** Дэтэктыўны серыял «Карпаў».
**23.15** Сёння. Вынікі.
**23.40** Вострасюжэтны серыял «Дзікі».

### EUROSPORT

**00.28** Аўтагонкі: Auto GP. Сан-Францыска - Гонка №2.
**01.22** Суперспорт: Чэмпіянат свету. Партугалія.
**01.56** Скачкі на лыжах з трампліна: Летні Гран-пры - HS 140.
**09.32** Мотаспартыўны часопіс.
**09.45** Тэніс: Турнір WTA. Токіо - Дзень 1.
**11.01** Тэніс: Турнір WTA. Токіо - Дзень 1.
**12.46** Тэніс: Турнір WTA. Токіо - Дзень 1.
**14.45** Снукер: Мастэрс. Шанхай - Фінал.
**17.00** Веласпорт: Чэмпіянат свету па гонках Нідэрланды - Мужчыны Шаша.
**18.30** Футбол: Еўрагалы.
**19.34** Тэніс: Турнір WTA. Токіо - Дзень 1.
**20.30** Снукер: Мастэрс. Шанхай - Фінал.
**21.45** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**21.59** Усе віды спорту.
**22.01** Пра рэстлінг.
**22.34** Усе віды спорту.
**22.45** Пра рэстлінг.
**23.30** Баявыя мастацтвы.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**07.15** Зона «Свабоды».
**07.45** Навігатар.
**08.00** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**08.25** Дакументальная гадзіна: «Мінск ад золку да змяркання», дак. фільм, 2011 г., Польшча.
**09.10** Два на два (тэледыскусія).
**09.35** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.00** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**18.05** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**18.15** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Цюхця, што ты за стварэнне?!».
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.35** «Апантаныя», дак. цыкл.
**19.50** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл.
**20.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**20.30** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Не прапусці! (параднік гледача).
**21.45** Фільматэка майстроў: «Джэйн Остэн», маст. фільм, 2007 г., Вялікабрытанія.
**23.45** Аб'ектыў.
**00.10** Маю права (юрыдычная праграма).
**00.30** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

## 2 КАСТРЫЧНІКА, АЎТОРАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.10** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Камедыйны серыял «Суседзі» (Расія).
**10.15** Камандзіроўка.
**10.30** Таямніцы следства.
**11.00** Крымінальны серыял «Знахар-2. Паляванне без правіл» (Расія).
**12.15** Камедыйны дэтэктыў «Пярсцёнак спадчынніка дынастыі» (Расія).
**13.25** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**14.20** Дакументальны серыял «Будзь у тонусе!» (Аўстралія).
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад».
**16.20** Медычныя таямніцы.
**16.45** Дакументальны серыял «Неверагодныя гісторыі кахання» (Украіна).
**17.30** Меладраматычны серыял «Маруся. Вяртанне» (Украіна).
**18.25** Сфера інтарэсаў.
**18.45, 00.00** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Камедыйны серыял «Суседзі» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55** Крымінальны серыял «Знахар-2. Паляванне без правіл» (Расія).
**23.05** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад».
**00.25** Дзень спорту.
**00.35** Камедыйны дэтэктыў «Пярсцёнак спадчынніка дынастыі» (Расія).

---

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.20** «Зразумець. Прабачыць».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фурцава». Шматсерыйны фільм.
**12.05** «Сэрца Марыі». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** Прэм'ера сезону «Час абедаць!».
**13.50** «Модны прысуд».
**14.55** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Кантрольны закуп».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Смеху дзеля».
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Адзіны мой грэх». Шматсерыйны фільм. Заключная серыя.
**22.15** АНТ прадстаўляе: «Тэма дня».
**22.25** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**23.35** «Народная медыцына».
**00.40** «Вячэрні Ургант».
**01.10** «Без сведак».
**01.40** Начныя навіны.

---

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «100 адсоткаў».
**08.55** Фільм «Палата № 6». Расія, 2009 г.
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.35** «Прошаная вячэра». Лепшае.
**12.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**13.50** Фільм «Светлячкі ў садзе». ЗША, 2008 г.
**15.35** «Ваенная таямніца».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Балада пра доблеснага рыцара Айвенга». СССР, 1982 г.
**22.20** «Гарады, што спяваюць».
**22.55** Прэм'ера: «Пагаворым». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**23.05** «СТБ-спорт».
**23.10** «Аўтапанарама».
**23.30** «Доктар Тырса». Серыял.
**00.25** «Механічны апельсін».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Беларусь.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Ды Вінчы» (Канада). 2-я серыя.
**10.10** Футбол. Прэм'ер-ліга. Агляд тура.
**11.05** Авертайм.
**11.40** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**12.55** Прыгодніцкі баявік «Атрад» (Расія).
**14.55** Камедыйна-фантастычны серыял «Гуманоіды ў Каралёве» (Расія).
**15.30** Беларуская часіна.
**16.35** Меладраматычны дэтэктыў «Вялікае зло і дробныя поскудзі». 2-я серыя.
**17.50** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Хакей. КХЛ. Прамая трансляцыя.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Футбол. Ліга Чэмпіёнаў УЕФА. Прамая трансляцыя.
**23.40** Меладраматычны дэтэктыў «Вялікае зло і дробныя поскудзі». 2-я серыя.
**00.35** Футбол. Ліга Чэмпіёнаў УЕФА. Агляд дня.
**01.40** Камедыйна-фантастычны серыял «Гуманоіды ў Каралёве» (Расія).

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Кахаю, не магу!».
**11.00** Весткі.
**11.30** «Сумленны дэтэктыў». Аўтарская праграма.
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Аператыўнікі. Хронікі забойнага аддзела».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Зоннентау».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.45** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Апошні кардон».
**22.20** Тэлесерыял «Скліфасоўскі».
**00.10** Навіны - Беларусь.
**00.20** «Адмысловы карэспандэнт».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.35** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**09.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**10.00** Сёння.
**10.20** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**11.05** «Да суду».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** Серыял «Марскія д'яблы».
**15.10** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Вострасюжэтны серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**21.25** Дэтэктыўны серыял «Карпаў».
**23.15** Сёння. Вынікі.
**23.40** Вострасюжэтны серыял «Дзікі».
**00.40** Цэнтр дапамогі «Анастасія».

### EUROSPORT

**00.30** Футбол: Еўрагалы.
**01.15** Мотаспартыўны часопіс.
**01.30** Тэніс: Турнір WTA. Пекін - Дзень 1.
**09.30** Тэніс: Турнір WTA. Пекін - Дзень 1.
**10.00** Тэніс: Турнір WTA. Пекін - Дзень 2.
**16.00** Футбол: Еўрагалы.
**16.45** Футбол: Кубак свету да 17 гадоў. Азербайджан - Групавы этап:Новая Зеландыя - Бразілія.
**17.30** Футбол: Кубак свету да 17 гадоў. Азербайджан - Групавы этап:Германія - Уругвай.
**18.30** Скачкі на лыжах з трампліна: Летні Гран-пры.
**19.30** Скачкі на лыжах з трампліна: Летні Гран-пры - Кваліфікацыйны раўнд.
**20.30** Тэніс: Турнір WTA. Пекін - Дзень 2.
**22.00** Бокс: Міжнародны паядынак. Германія.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.30** «Апантаныя», дак. цыкл.
**07.40** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл.
**07.50** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**08.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Эксперт.
**09.00** Аб'ектыў.
**09.25** Не прапусці! (параднік гледача).
**09.40** Еўропа сёння.
**18.00** «Апантаныя», дак. цыкл.
**18.10** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл.
**18.15** На колах.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Фільм са страшнаю назваю».
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.30** Відзьмо-невідзьмо.
**20.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**20.30** Асабісты капітал.
**20.50** Вагон.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**21.40** «Глыбокая вада», серыял: 4 серыя.
**22.30** Форум (ток-шоў).
**23.15** Аб'ектыў.
**23.40** Невядомая Беларусь: «Найвышэйшая мера», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**00.15** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ



## 3 КАСТРЫЧНІКА, СЕРАДА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.10** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Камедыйны серыял «Суседзі» (Расія).
**10.10** Сфера інтарэсаў.
**10.30** Патрабуецца.
**10.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**11.00** Крымінальны серыял «Знахар-2. Паляванне без правіл» (Расія).
**12.15** Эксцэнтрычная камедыя «Закон зайца» (Расія). 1-я серыя.
**13.25** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**14.20** Дакументальны серыял «Самабытныя культуры» (Чэхія-Вялікабрытанія).
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША- Канада).
**16.25** Каробка перадач.
**17.00** Заўтра - гэта мы!
**17.30** Прэм'ера. Меладраматычны серыял «Маруся. Выпрабаванні» (Расія-Украіна). 1-я серыя.
**18.30** Адмысловы рэпартаж.
**18.45, 00.00** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Камедыйны серыял «Суседзі» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55** Крымінальны серыял «Знахар-2. Паляванне без правіл» (Расія).
**23.05** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад».
**00.25** Дзень спорту.
**00.35** Эксцэнтрычная камедыя «Закон зайца» (Расія). 1-я серыя.

### АНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.20** «Эразумець. Прабачыць».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фурцава». Шматсерыйны фільм.
**12.05** «Сэрца Марыі». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** Прэм'ера сезону «Час абедаць!».
**13.50** «Модны прысуд».
**14.55** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Кантрольны закуп».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Смеху дзеля».
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. «Чкалаў». Шматсерыйны фільм.
**22.15** АНТ прадстаўляе: «Тэма дня».
**22.25** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**23.35** Асяроддзе пасялення.
**00.40** «Вячэрні Ургант».
**01.10** «Без сведак».
**01.40** Начныя навіны.

### СТБ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Аўтапанарама».
**08.50** Фільм «Балада пра доблеснага рыцара Айвенга». СССР, 1982 г.
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.35** «Прошаная вячэра». Лепшае.
**12.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**13.50** «Медыкі». Серыял.
**14.40** «Доктар Тырса». Серыял.
**15.30** «Гадзіна суду».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Мінщчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Каханне Аўроры». Украіна, 2007 г.
**22.20** «Гарады, што спяваюць».
**22.55** Прэм'ера: «Пагаворым». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**23.05** «СТБ-спорт».
**23.10** «Дабро пажаліцца».
**23.30** «Доктар Тырса». Серыял.
**00.25** «Дзіўная справа».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Беларусь.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Ды Вінчы» (Канада). 3-я серыя.
**10.10** Наперад у мінулае.
**10.55** Містычная драма «Дзікае паляванне караля Стаха». 1-я серыя.
**12.20** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**14.20** Еш і худзей.
**15.55** Камедыйна-фантастычны серыял «Гуманоіды ў Каралёве» (Расія).
**15.30** Беларуская часіна.
**16.35** Меладраматычны дэтэктыў «Вялікае зло і дробныя поскудзі». 3-я серыя.
**17.50** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Гандбол. Жанчыны. Адборачны раўнд. Беларусь – Літва. Прамая трансляцыя.
**20.45** Пад грыфам «Вядомыя».
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Прамая трансляцыя.
**23.40** Меладраматычны дэтэктыў «Вялікае зло і дробныя поскудзі». 3-я серыя.
**00.35** Футбол. Ліга Чэмпіёнаў УЕФА. Агляд дня.
**01.40** Камедыйна-фантастычны серыял «Гуманоіды ў Каралёве» (Расія).

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Кахаю, не магу!».
**11.00** Весткі.
**11.30** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Аператыўнікі. Хронікі забойнага аддзела».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Зоннентау».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.45** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Апошні кардон».
**22.20** Тэлесерыял «Скліфасоўскі».
**00.10** Навіны - Беларусь.
**00.20** «Аперацыя «Эдэльвейс». Апошняя таямніца».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.35** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**09.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**10.00** Сёння.
**10.20** «Развод па-руску».
**11.10** «Да суду».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** Вострасюжэтны серыял «Марскія д'яблы. Лёсы».
**15.10** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.45** Фільм «Гонар».
**21.35** Дэтэктыўны серыял «Карпаў».
**23.25** Сёння. Вынікі.
**23.50** Вострасюжэтны серыял «Дзікі».
**00.50** Цэнтр дапамогі «Анастасія».

### EUROSPORT

**00.00** Аўта і Матаспорт.
**00.15** Аўтагонкі Сусветная серыя Рэно Францыя - Агляд.
**00.45** Ралі.
**01.15** Аўтагонкі: Бахрэйн.
**02.15** Матаспартыўны часопіс.
**09.30** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**09.45** Аўта і Матаспорт.
**10.00** Тэніс: Турнір WTA. Пекін - Дзень 3.
**16.00** Скачкі на лыжах з трампліна: Летні Гран-пры - Кваліфікацыйны раўнд.
**16.45** Скачкі на лыжах з трампліна: Летні Гран-пры - HS 140.
**18.30** Футбол.
**20.30** Усе віды спорту: Абранае па серадах.
**20.35** Конны спорт.
**21.35** Пола: Залаты кубак.
**22.35** Конны спорт: Навіны коннага спорту.
**22.40** Гольф: Еўрапейскі тур сярод жанчын.
**23.35** Гольф: Гольф Клуб.
**23.40** Ветразевы спорт: Яхт клуб.
**23.45** Усе віды спорту: Абранае па серадах.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.30** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**08.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**08.50** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**09.00** Аб'ектыў.
**09.25** Студыя «Белсат».
**09.40** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.00** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**18.15** Праект «Будучыня» (навукова-папулярны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Таямніца шыфру Марабу».
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар.
**19.30** Беларусы ў Польшчы.
**19.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**20.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар.
**20.30** Маю права (юрыдычная праграма).
**20.50** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**21.45** «Праведнікі», тэлесерыял: 3 серыя.
**22.30** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**22.55** Аб'ектыў.
**23.25** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**23.50** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

## 4 КАСТРЫЧНІКА, ЧАЦВЕР

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.10** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Камедыйны серыял «Суседзі» (Расія).
**10.15** Адмысловы рэпартаж.
**10.25** Патрабуецца.
**10.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**10.55** Крымінальны серыял «Знахар-2. Паляванне без правіл» (Расія).
**12.10** Эксцэнтрычная камедыя «Закон зайца» (Расія). 2-я серыя.
**13.15** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**14.10** Культурныя людзі +.
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША- Канада).
**16.20** Перазагрузка.
**17.05** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**17.30** Меладраматычны серыял «Маруся. Выпрабаванні» (Расія-Украіна).
**18.25** Сфера інтарэсаў.
**18.45, 00.00** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Камедыйны серыял «Суседзі» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55** Крымінальны серыял «Знахар-2. Паляванне без правіл» (Расія).
**23.05** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад».
**00.25** Дзень спорту.
**00.35** Эксцэнтрычная камедыя «Закон зайца» (Расія). 2-я серыя.

### АНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.20** «Эразумець. Прабачыць».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фурцава». Шматсерыйны фільм.
**12.05** «Сэрца Марыі». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** Прэм'ера сезону «Час абедаць!».
**13.50** «Модны прысуд».
**14.55** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Кантрольны закуп».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Смеху дзеля».
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. «Чкалаў». Шматсерыйны фільм.
**22.15** АНТ прадстаўляе: «Тэма дня».
**22.25** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**23.35** АНТ прадстаўляе: Гандбол. Ліга чэмпіёнаў.
**01.00** «Без сведак».
**01.30** Начныя навіны.

### СТБ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Дабро пажаліцца».
**08.50** Фільм «Каханне Аўроры». Украіна, 2007 г.
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.35** «Прошаная вячэра». Лепшае.
**12.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**13.50** «Медыкі». Серыял.
**14.40** «Доктар Тырса». Серыял.
**15.30** «Гадзіна суду».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Мінщчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Дзе хаваецца праўда». Канада- Вялікабрытанія, 2005г.
**22.20** «Гарады, што спяваюць».
**22.55** Прэм'ера: «Пагаворым». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**23.05** «СТБ-спорт».
**23.10** «Аўтапанарама».
**23.30** «Доктар Тырса». Серыял.
**00.25** «Яшчэ не вечар».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Беларусь.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Ды Вінчы» (Канада). 4-я серыя.
**10.25** Еш і худзей.
**11.00** Містычная драма «Дзікае паляванне караля Стаха». 2-я серыя.
**12.25** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**14.25** Еш і худзей. Заключны выпуск.
**14.55** Камедыйна-фантастычны серыял «Гуманоіды ў Каралёве» (Расія).
**15.30** Беларуская часіна.
**16.35** Меладраматычны дэтэктыў «Вялікае зло і дробныя поскудзі». 4-я серыя, закл.
**17.50** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Хакей. КХЛ. Прамая трансляцыя.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Камедыйна-фантастычны серыял «Гуманоіды ў Каралёве» (Расія).
**22.00** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Прамая трансляцыя.
**00.00** Час футболу.
**00.40** Меладраматычны дэтэктыў «Вялікае зло і дробныя поскудзі». 4-я серыя, закл.

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Кахаю, не магу!».
**11.00** Весткі.
**11.30** «Мая планета».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Аператыўнікі. Хронікі забойнага аддзела».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Зоннентау».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.45** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Апошні кардон».
**22.20** Тэлесерыял «Скліфасоўскі».
**00.10** Навіны - Беларусь.
**00.20** «Паядынак».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.35** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**09.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**10.00** Сёння.
**10.20** Следства вялі.
**11.10** «Да суду».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** Серыял «Марскія д'яблы. Лёсы».
**15.10** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.50** Фільм «Адстаўнік».
**21.35** Дэтэктыўны серыял «Карпаў».
**23.25** Сёння. Вынікі.
**23.50** Вострасюжэтны серыял «Дзікі».
**00.45** Цэнтр дапамогі «Анастасія».

### EUROSPORT

**00.00** Покер.
**01.00** Алімпійскія гульні: Алімпійскі часопіс.
**01.30** Аўтагонкі Сусветная серыя Рэно Францыя - Агляд.
**02.00** Скачкі на лыжах з трампліна: Летні Гран-пры - HS 140.
**09.30** Аўтагонкі: Сусветная серыя Рэно Францыя - Агляд.
**10.00** Тэніс: Турнір WTA. Пекін - 1/8 фіналу.
**16.00** Футбол: Кубак свету да 17 гадоў. Азербайджан - 1/4 фіналу.
**17.00** Футбол: Кубак свету да 17 гадоў. Азербайджан - Групавы этап:Германія - Уругвай.
**18.00** Футбол: Кубак свету да 17 гадоў. Азербайджан - 1/4 фіналу.
**20.00** Футбол: Жаночая Ліга Чэмпіёнаў.
**20.55** Покер: - Фінал.
**21.00** Баявыя мастацтвы.: Байцоўскі клуб.
**23.00** Покер: - Фінал.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.30** Беларусы ў Польшчы.
**07.45** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**08.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Маю права (юрыдычная праграма).
**08.50** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**09.00** Аб'ектыў.
**09.25** Студыя «Белсат».
**09.40** Праект «Будучыня».
**17.55** Маю права (юрыдычная праграма).
**18.15** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Аблавушак».
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.30** «Пераемнікі», дакументальна-публіцыстычны цыкл.
**19.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**20.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**20.30** Рэпартэр.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**21.40** «Дом ля поплаву», тэлесерыял: 4 серыя.
**22.30** «CIA: таемныя войны», 2008 г., Францыя: фільм 3, «Вайна спараджае вайну (1990–2001)».
**23.20** Аб'ектыў.
**23.45** Два на два (тэледыскусія).
**00.15** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

# ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ

**Выпуск №9 (73) (верасень)**

www.lit-bel.org www. novychas. org

Культурна-асветніцкі праект Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага часу»


**Анонс**



**ЗГАДКІ**

# «СВЕТЛЫ СМУТАК ПА ВЕЧНАЙ РАДЗІМЕ»

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

50 гадоў — зеніт чалавечага жыцця. Час падводзіць вынікі.

Хаця ў кожнага чалавека — па-рознаму. Некалі паўвека чалавечага жыцця былі ўжо старасцю. Так вось Яна Баршчэўскага, аўтара «Шляхціца Завальні», Рамуальд Падбярэзскі называе «дзядком». І Янка Купала, якому не было яшчэ і сарака пяці гадоў, перадае паходню беларускасці наступнаму, маладому пакаленню…

Чаму я пачаў свае нататкі з такіх развагаў? Ды таму, што пяцьдзясят гадоў спаўняецца і мне. Мае сябрукі і прыяцелі, мае аднагодкі, маё пакаленне адзін за другім бяруць гэты рубеж: Сяргей Дубавец, Віктар Івашкевіч, Барыс Пятровіч, Язэп Янушкевіч, Вінцук Вячорка, Славамір Адамовіч, Анатоль і Васіль Дэбішы і іншыя.

50-ці гадовы юбілей адзначыў і мой стары, можна сказаць, старажытны сябра Сяржук Сыс. Да ягонага юбілею выйшла першая кніжка ягонай паэзіі «Стрэмка», якая ўвабрала ў сябе выбраныя вершы. Ішоў да гэтай кніжкі ён доўга. Дасюль у яго магло быць ужо і некалькі кніжак, прынамсі, напісаных Сержуком вершаў хапіла б на іх. Але магло быць і так, што і гэтая кніжка не з'явілася б. Чаму? Дзеля гэтага трэба ведаць характар, натуру майго сябра. А натура і тэмперамент у яго — о-го-го! Яшчэ той.



Пазнаёміліся мы з ім тады, калі паступалі на гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага ўніверсітэта. Лета далёкага 1979-га года было гарачым. Мы пасля 10-ці класаў, ён — заспенскай вясковай школы, я — светлагорскай гарадской. Нам па 17 гадоў. Мы абодва кучаравыя з даўгаватымі валасамі па тагачаснай маладзевай модзе. Ён — чарнавалосы, смуглявы, каравокі, як цыган, я — блакітнавокі, беласкуры з попельнымі кудзерамі. Была яшчэ і трэцяя шатэністая галава сярод абітурыентаў — Едруся Акуліна. Мы кучаравыя сябравалі ўтрох.

Пісаць пра чалавека, з якім мы сябруем з 17-ці гадоў, гэта ў значнай ступені пісаць пра самога сябе. І яшчэ адное, што апрача ўзросту і кучаравых галоваў і паступлення аб'ядноўвала нас — любоў да прыгожага пісьменства. Едрусь ужо бачыў сябе паэтам. Ён друкаваўся ў «Бярозцы» і нават твор на ўступных іспытах па беларускай літаратуры ва ўніверсітэт напісаў у выглядзе зрыфмаванай паэмы. Сяржук і я таксама пісалі вершы. Ён па-беларуску, а я яшчэ па-расейску, але з цвёрдым намерам перайсці на беларускую. Дзеля беларускай мовы, якую я хацеў дасканала вывучыць, уласна я і паступаў на беларускую філалогію.

Якое адчуванне ў мяне было пасля знаёмства з Сяржуком Сысом, гэтым страшэнна жвавым хлопцам? Як быццам бы я сустрэў родную душу. Напачатку верасня мы з сваіх хатаў і кватэраў прыехалі ў Гомель вучыцца. Інтэрнат першакурснікам не давалі. Едрусь уладкаваўся на кватэры ў роднай цёткі, а мы з Сержуком ліхаманкава шукалі кут, каб прытуліцца. Першыя ночы я ўвогуле начаваў на гарадскім аўтавакзале. Урэшце Сяржук усё ж такі неяк уплішчыўся ў інтэрнат на вуліцы Кірава, а я зняў прахадны пакойчык у прыватнай хаце, варыў на абед штодня бульбу з лупінамі і паліў торфабрыкетам грубку.

Не сказаў бы, што нашыя стасункі былі заўсёды роўнымі. Сяржук быў неверагодным жэўжыкам, энергія з яго валіла цераз край. Яму ні хвіліны не сядзелася на месцы, ён увесь час шукаў прыгодаў, а часта і самі прыгоды знаходзілі яго. З ім немагчыма было штосьці планаваць напэўна, сустракацца штодня і размаўляць на гарачыя тэмы ці абмяркоўваць прачытаныя кніжкі. Ён то з'яўляўся (і тады можна было размаўляць гадзінамі), то знікаў на дні, а то і на тыдні па нейкіх сваіх пільных справах. Тым не менш, менавіта з ім мы здзейснілі свой першы грамадзянскі ўчынак, першы свой вопыт спазнання беларушчыны. Скончыўшы першы семестр і паздаваўшы іспыты, атрымаўшы стыпендыі, у лютым 1980-га на зімовыя вакацыі мы з Сержуком купілі квіткі на цягнік у агульны вагон і паехалі ў Крым, у Ялту, пакланіцца магіле Максіма Багдановіча. Мы былі ў захапленні ад ягонай паэзіі. Дабраўшыся з Сімферопаля да Ялты па горнай дарозе на тралейбусе, мы пайшлі ў першы гатэль, які трапіўся на вочы — «Крым». Было ўжо цёмна, імжыла. На дзіва, былі вольныя месцы, мабыць, таму, што ўсё ж гэта быў далёка не сезон. Мы засяліліся, заплацілі не такія ўжо вялікія грошы. Памятаю гэтае ўнутранае задавальненне, што вось — задумалі і зрабілі! А назаўтра быў сум, навеяны старымі магілкамі, шэрым сутонлівым надвор'ем, расшуканаю намі сціплаю магілкай паэта з невялікай шэрай пірамідкай з пабітага імхом і часам пясчаніку, з надпісам на ім, зробленым «няправільнаю тарашкевіцаю». І высокія чорныя змрочныя кіпарысы, і дзіўныя пальмы на гарбатых вуліцах Ялты, і царква, дзе адпявалі Максіма Багдановіча, і набярэжная, дзе няспешна прагульваліся адпачывальцы… Тая нашая паездка ў Ялту была вынаходкаю Сержука Сыса дзеля ўсведамлення сваёй індывідуальнасці, для станаўлення свайго асабістага творчага я.

Улетку 1980-га, пасля летняй сесіі, зборнай камандаю гісторыкаў, філолагаў і матэматыкаў мы паехалі ў будатрад у Хойніцкі раён, у вёску Бабчын, будаваць цагляныя дамкі. З гэтага будатрада захаваўся ў мяне адзін памятны фотаздымак, дзе мы ўтрох: Толік Сыс, Едрусь Акулін і я — нахілілі жалезную бочку і выліваем з яе бетонны раствор у падмурак аднаго з гэтых дамкоў. Дзесьці побач працаваў і Сяржук Сыс. Мы жылі ў актавай зале сярэдняй школы, на якой вісела шыльда ў гонар Станкевіча-Палескага, партыйнага чыноўніка і пісьменніка, які быў родам з Бабчына і, хутчэй за ўсё, дапамагаў пабудаваць гэтую школу. Побач стаяў будынак старой, яшчэ дарэвалюцыйнай школкі з чырвонае цэглы, у якім месціўся вучнёўскі інтэрнат. Натуральна, мы тады не ведалі, што тут, у педтэхнікуме, вучыўся прэм'ер Беларускай Народнай Рэспублікі ў эміграцыі, сталінскі вязень, літаратар і гісторык Яўген Калубовіч, якога разам з іншымі хлапчукамі-студэнтамі арыштавалі яшчэ напачатку 30-ых гадоў за антысавецкую беларускую дзейнасць. Таксама мы не ведалі, што адсюль родам паэт Мікола Мятліцкі, які ў гэты час у Менску пачынаў масціць сваю літаратурную кар'еру. А вось з ягоным стрыечным братам, як потым аказалася, мы пазнаёміліся аднойчы ўвечары, калі Сяржук, Едрусь і я сядзелі каля цяпельца разам з бабчынскімі дзяўчатамі і гаманілі пра штосьці. І раптам узнік гэты стрыечнік Мятліцкага Міколы, які абурыўся такой ідылічнай карцінай: як так — чужыя хлопцы і тутэйшыя дзяўчаты! У выніку ён раскідаў нашае цяпельца, схапіў за руку і звёў адну з дзяўчат, за што літаральна праз некалькі хвілінаў быў дагнаны і крыху павалтужаны. Запомніў ён, як самага прыкметнага, Сержука Сыса, і хутка разгарэлася супрацьстаянне паміж мясцовымі хлопцамі і будатрадаўцамі. Быў набег тутэйшых на наш лагер у школе. Шукалі Сержука. І, каб прыхаваць яго, палова будатрада, у тым ліку і Анатоль Сыс, і Едрусь, і я, і, натуральна, сам Сяржук, калі паехалі мыцца ў Хойніцкую лазню, заадно і пастрыгліся налыса…

І яшчэ згадваецца: ва ўніверсітэце мы хадзім разам ва ўніверсітэцкі гурток на Ярцаўскую «Крынічку». І вось там я ўпершыню чую гэты верш, які распачынае Сержукоў зборнік вершаў:

*У горадзе шэрым,*
*квадратна-кубічным,*
*усцяж паралельным*
*і скрозь сіметрычным,*
*дзе сціплае сонца*
*з-за гмахаў звісае*
*і промні, што дзіды,*
*туман прабіваюць,*
*дзе коміны неба*
*паранілі дымам,*
*дзе пахне мазутам,*
*іржой і бензінам,*
*скрозь панцыр асфальту,*
*праз тоўшчу бетону,*
*прабіўся да сонца*
*парастак*
*клёна.*

Віктар Ярац хваліць і падтрымлівае Сержука: пішы далей. Толік Сыс крытыкуе. Ад тога дабіцца пахвалы амаль немагчыма. А верш, між іншым, атрымаўся праграмным. Таму, мабыць, і змясціў Сяржук Сыс яго ў сваю «Стрэмку». Гэта ж мы — тыя самыя парасткі клёну, прабіўся ў чужым горадзе. У зрусіфікаваным і наскрозь савецкім тагачасным Гомелі. А ці моцна ён змяніўся з тых часоў? Горад, ані Гомель, ані Менск затым, так і не стаў для Сержука чымсьці прымальным, камфортным і ўтульным. І чым даўжэй ён жыў у горадзе, тым больш разумеў гэта: «Са мной, нібыта стрэмка пад скураю, падарожнічаў Смутак… Мой светлы Смутак па маёй вечнай Радзіме»…

На першым курсе мы патрапілі на фальклорную практыку ў Жыткавіцкі раён. Пасля яе я вельмі палюбіў беларускую народную песню. Праз нейкі час, пазычыўшы на кафедры пераносны стужкавы магнітафон, паехаў у вёску да маёй бабулі па маці Соні (Сафіі) у вёску Будніцкі Двор Нараўлянскага раёна. Са мною за кампанію паехаў Сяржук Сыс.

**Працяг на стар. 20–21 (12–13)** ▸

▸ КІНО

# ФІЛЬМЫ БЫКАВА

**У Расіі экранізуюць аповесць Васіля Быкава «Афганец», паведаміў «Беларускі партызан».**

Аповесць пра няспраўджанага тыраназабойцу — «афганца» Ступака, які лічыць вінаватым ва ўсіх бедах Беларусі яе кіраўніка і вырашае пакласці гэтаму канец...

«Афганец» — рэч моцная, і яна яшчэ і нечакана актуальная: разгон дэманстрацый, АМАП, пошукі ўнутраных і знешніх ворагаў. Можна нават падумаць, што Улад Фурман (Уладзіслаў Фурманаў) вырашыў зняць антыпуцінскае кіно, але ён сам кажа пра тое, што паспрабуе адысці ад палітыкі ў фільме.

«У мяне шлях да Быкава пачаўся праз працу над экранізацыяй яго аповесці «Бліндаж». А перад гэтым мы здымалі ў Беларусі ваенную карціну «Наркамаўскі абоз». Здымкі былі складаныя і вельмі з'ядналі здымачную групу. І неяк беларускі прадзюсар карціны даслаў мне спасылку на аповесць Быкава «Афганец»... Мяне цікавіць творчасць Быкава як пісьменніка, як мастака, як сумленнага, прыстойнага грамадзяніна», — адзначыў рэжысёр.

Між тым стала вядома, што зняты па іншай аповесці В. Быкава фільм рэжысёра Сяргея Лазніцы «У тумане» ўвайшоў у спіс карцін, якія будуць прэтэндаваць на галоўную ўзнагароду 25-й цырымоніі ўручэння European Film Awards.

Увогуле, за ўзнагароду будуць змагацца 47 карцін з 31 еўрапейскай краіны. Намінантаў у розных катэгорыях вызначаць 2 тыс. 700 членаў Еўрапейскай кінаакадэміі.

Спісы намінантаў будуць аб'яўлены 3 лістапада ў час кінафестывалю ў іспанскай Севільі. Галоўная цырымонія адбудзецца 1 снежня на Мальце.

▸ ІМПРЭЗА

# «БАБІНА ЛЕТА-2012»: НЕБА НІНЫ МАЦЯШ

**Ужо трэці год запар у Белаазёрску прайшло свята «Бабіна лета», прысвечанае дню народзінаў знакамітай паэтэсы Беларусі Ніны Мацяш.**

20 верасня у горад, дзе жыла і працавала паэтэса, традыцыйна прыязджаюць калегі-літаратары з усёй краіны, каб пабываць у яе кватэры, на якой усталяваная мемарыяльная шыльда, у бацькоўскім доме, ускласці кветкі на магілу Ніны Язэпаўны.

Дзякуючы арганізатаркам фестывалю — выкладчыцы Галіне Скарыне і дырэктарцы мясцовай бібліятэкі Тамары Кузняцовай — праграма была надзвычай насычанай. Многія шанавальнікі памяці Ніны Мацяш (апрача белаазёрцаў прыехалі госці з Мінска (старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч, намеснікі Алесь Пашкевіч і Эдуард Акулін, а таксама Анатоль Вярцінскі, Васіль Жуковіч і Анатоль Івашчанка), з Брэста (паэт і мастак Лявон Валасюк, выкладчыкі БрДУ Святлана Варонік і Марыя Новік), з Гродна (прафесар Аляксей Пяткевіч і паэтка Данута Бічэль), барды Тацццяна Матафонава і Таццяна Беланогая) наведалі сядзібу Мацяшоў у вёсцы Нівы, месца яе апошняга спачыну на гарадскіх могілках.

У памяць паэтэсы ў царкве адбылася ліція. І па традыцыі прайшлі літаратурныя чытанні — пры амаль паўтысячным аншлагу ў Палацы культуры Белаазёрска. Гучалі праніклёныя прамовы, успаміны, вершы, прысвечаныя Ніне Мацяш, і вершы самой паэтэсы, песні, а таксама дэманстраваліся відэёматэрыялы з колішніх вечарыны Ніны Мацяш у мінскім Доме літаратара.

Ад імя кампаніі «Будзьма беларусамі!» у Белаазёрскую бібліятэку імя Ніны Мацяш Міхась Скобла падараваў кніжную бібліятэчку, прачытаўшы са сцэны экспромт:

*Вам кніжак добрых дару*
*дзве горбы.*
*Да кніг яшчэ —*
*дзве прыгожых торбы.*
*Бо ўсе, хто кнігі чытае стусамі,*
*і ёсць сапраўднымі беларусамі!*

▸ КАСТРЫЧНІЦКІЯ ЮБІЛЯРЫ

**У наступным месяцы адзначаюць юбілеі сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў:**



07.10.1932 — Пташнікаў Іван Мікалаевіч
10.10.1957 — Дранько-Майсюк Леанід Васільевіч
13.10.1932 — Кобец-Філімонава Алена Рыгораўна
15.10.1947 — Мельчанка Таіса Васільеўна
17.10.1972 — Бохан (Салаўёва) Вікторыя Віктараўна
20.10.1947 — Голуб Юрка (Юрый) Уладзіміравіч
20.10.1967 — Андрыеўскі Васіль Рыгоравіч
25.10.1932 — Аніськовіч Уладзімір Ігнатавіч
26.10.1952 — Казакоў Валерый Мікалаевіч
31.10.1967 — Жылко Вадзім Вітальевіч

Жадаем усім радасці, натхнення і дабрабыту!

▸ САЮЗ

# СУСТРЭЧА СА СВАЯКАМІ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

**3 верасня ў сядзібе Саюза беларускіх пісьменнікаў адбылася сустрэча са сваякамі Максіма Багдановіча: Наталляй Уладзіміраўнай Сарокай (Грaзновай-Валасовіч) і Мікалаем Георгіевічам Хільтавым.**



Мікалай Хільтаў і Наталля Сарока

Наталля Уладзіміраўна, унучка стрыечнай сястры Максіма Багдановіча Ганны Кіпрыянаўны Валасовіч-Грaзновай, жыве ў Краснадары (Расія). Не гледзячы на тое, што яе прафесія не звязана з літаратурай (Наталля Уладзіміраўна — медык), яна сур'ёзна цікавіцца радаводам сям'і і зрабіла шмат у даследванні генеалагічнага дрэва сваякоў Багдановіча. У Наталлі Уладзіміраўны — трое дачок, растуць унукі.

Ганна Кіпрыянаўна Валасовіч-Грaзнова падтрымлівала добрыя адносіны з Максімавым бацькам Адамам Ягоравічам Багдановічам, які прышчапляў ёй любоў да беларускай літаратуры. З вершамі Максіма пазнаёмілася, калі выйшаў зборнік «Вянок». Кнігу ёй падпісаў бацька Максіма, потым гэты асобнік першага выдання «Вянка» яна падарыла Янку Брылю, з якім перапісвалася. Ганна Кіпрыянаўна была знаёмай з М. Танкам, У. Караткевічам, П. Панчанкам, А. Лойкам, М. Стральцовым.

Унучка Ганны Кіпрыянаўны Валасовіч-Грaзновай Наталля часта прыязджае ў Беларусь, у 1991 годзе прысутнічала на адкрыцці музея Максіма Багдановіча ў Мінску — разам са старэйшымі сваякамі.



Барыс Пятровіч і Алесь Пашкевіч — ля радаводнага дрэва са сваякамі Максіма

# ПІСЬМЕННІКІ Ў ГВАРДЗЕЙЦАЎ

**У 188-й гвардзейскай Ноўгарадскай ордэнаў Суворава і Хмяльніцкага інжынерна-сапёрнай брыгадзе, што месціцца ў Магілёве, адбылася літаратурна-музычная вечарына, прысвечаная 130-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа.**

Вечарыну арганізавала Магілёўская гарадская бібліятэка. Прысутныя ўважліва агледзелі кніжную выставу, праслухалі прапанаваную кампазіцыю пра жыццёвыя шляхі беларускіх песняроў, а таксама вершы ў выкананні артыстаў народнага тэатра Палаца культуры вобласці і песні на вершы Я. Купалы ў выкананні кампазітара Міколы Яцкова.

Заключным акордам вечарыны стала выступленне паэта Эдуарда Акуліна. Знаходзячыся сярод вайскоўцаў, Э. Акулін распавёў пра асаблівасці лёсу сваіх сваякоў, якія прайшлі праз полымя Афганістана, і прачытаў сваю баладу, прысвечаную афганскім падзеям. А потым загучалі звонкія струны акулінскай гітары, і прысутныя з задавальненнем паслухалі некалькі песен, у тым ліку і знакамітую «Янка Купала ідзе...».

**Ул. інф.**



# У МАГІЛЁЎСКАЙ ФІЛІІ

**2 верасня 2012 г. адбылося чарговае пасяджэнне Магілёўскага аддзялення ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**



Выступае Ф. Шкірманкоў

Старшыня аддзялення Мікола Яцкоў зрабіў справаздачу аб тым, што было зроблена за мінулыя чатыры месяцы. Абмяркоўвалася дзейнасць літаратурна-інфармацыйнага выдання аддзялення — бюлетэня «Дняпроўская страма», выказваліся пажаданні па яго далейшым развіцці.

Прысутныя заслухалі выступленне Таццяны Барысік, якае мае жаданне ўступіць у шэрагі Саюза беларускіх пісьменнікаў. Пасля абмеркавання яе творчасці адзінагалосна рэкамендавалі пісьменніцу для ўступлення ў СБП.

У пасяджэнні прыняў удзел намеснік старшыні СБП Эдуард Акулін.

**Прэсавая служба СБП**

▸ АСОБА

# «…І З ПАШАНАЙ І ЛЮБОЎЮ АБ НАС УСПАМІНАЦЬ»

## ДА 120-ГОДДЗЯ ЗОСЬКІ ВЕРАС

Сяргей ПАНІЗЬНІК

**«Так, я сваімі юбілеямі ўжо надакучыла…» — пісала аднаго разу мне Зоська Верас (яна нарадзілася 30 верасня 1892 года ў мястэчку Мяджыбаж Хмяльніцкай вобласці Украіны). А па праўдзе была ўсцешана нашай увагай і цікаўнасцю, частымі наездамі ў яе лясную хатку пад Вільняю. На ўзгорыстыя тыя Панары прабіраліся госці амаль з усіх куткоў Беларусі. І кожнаму, хто звяртаўся да яе на вочы ці лістоўна, хапала змогі дапамагчы. Тысячы пісьмаў прыходзілі штогод да Людвікі Сівіцкай, па мужу Войцік, да легендарнай Зоські Верас. Ад даўніх і новых знаёмых, ад энцыклапедыстаў і пачынаючых літаратуразнаўцаў, пісьменнікаў і школьнікаў — усіх, хто хацеў узбагаціцца захаванымі ў яе памяці, яе архівах ведамі пра Айчыну, гісторыю, хто хацеў спасцігнуць скрыжальную моц Бацькаўшчыны.**



95-гадовы юбілей: Вольга Іпатава, Сяргей Панізьнік, Зоська Верас, Галіна Войцік (дачка), Віталь Скалабан, Уладзімір Содаль

### Я НЕ БАЮСЯ

Зоська ВЕРАС

*Я не баюся жыццёвай буры,*
*хоць добра знаю яе шум пануры,*
*і змрочнага не баюся ценю*
*без ласкі цёплай сонка праменю,*
*і не баюся працаў мазольных*
*для рук бяздольных…*
*Але ж баюся я ўтраты веры,*
*траты энергіі баюся без меры,*
*баюся жыці без ідэалу,*
*бо ў чорнай пустцы сэрца б сканала…*
*Больш чым цялеснай баюся смерці —*
*душой памерці…*

**1915 год**

Зоська Верас лучыла сабою стагоддзі, эпохі, радаводныя карані. І мы разам з ёю, відушчай і памятушчай, пераходзілі праз хісткія masткі часу, запаўняючы сябе і прастору энергіяй продкаў.

Чытаю ліст Зоські Верас ад 18.09.1981. «Цяпер у мяне сапраўды нічога не засталося ў запасе. Але вас асабіста з прыемнасцю ў сябе пабачу. Так шмат хацелася б Вам паказаць са старых, старых часоў».

У кнізе Язэпа Лёсіка «Творы» ёсць фотаздымак: «Другая сесія Цэнтральнай Рады беларускіх арганізацый 15.10.1917 г.», дзе можна ўбачыць і воблік Л. Сівіцкай (Зоські Верас). А я ў падарунак ад яе атрымаў аднаго разу ўлётку Беларускага камітэта, які ў тым жа 1917 годзе месціўся ў Менску на Захараўскай вуліцы ў доме №18. Ці не сама спадарыня Людвіка складала словы адозвы: «Дык страпяніся, Народ Беларускі! Больш ні закуюць Цябе ў путы жалезныя, бо сам будзеш саёй доляю кіраваць. Твае выбарныя людзі завядуць такі парадак, які Табе будзе патрэбны — толькі ведай, каго выбіраць. Выбірай тых, каторыя пастаяць за родную зямельку, за свабодную Беларусь». І далей зноў жа лацінкаю: «Грамадзяне Беларусі! Будзем тварыць народнае шчасьце, яно цяпер у нашых руках. Дзеці нашыя



На пачатку дарог

будуць дзякаваць нам за свабоду Бацькаўшчыны і з пашанай і любоўю аб нас успамінаць. Клічце вялікі кліч волі па ўсіх кутках свабоднай Беларусі!».

Па сканчэнні тэксту — пазначка: «Прачытаўшы — аддай суседу». Што я і раблю гэтым разам.

Аднадумцы Л. Сівіцкай, апантаныя адраджэнцы, і нас прыклікаюць з стогадовай далечы: «Браты! Будуйце сваю сьветлую будучыню. Пакажэце ўсяму сьвету, што жыве Беларусь…». То як жа могуць «надакучыць» юбілеі Зоські Верас, якія кожны раз дапамагаюць згадаць светлае імя падзвіжніцы, апантанае змагаркі за «вялікае сьвята свабоды».

Тым больш, што ў сёлетняе 120-годдзе ўліваюцца і такія юбілейныя даты яе доўгага, пакручастагга жыцця:105-годдзе першай публікацыі ў часопісе кіеўскага жаночага камерцыйнага вучылішча «Подснежник» (а пачала пісаць «наіўныя, дзяцінныя» апавяданні і вершы ў 9–10 гадовым узросце), 95-годдзе з таго часу, як Л. Сівіцкая пачала падпісваць псеўданімам Зоська Верас свае допісы ў менскую газету «Вольная Беларусь» (публікацыі ў «Нашай Ніве» падпісвала псеўданімам Мірко), 85-годдзе ад пачатку заснавання ёю дзіцячай часопісі «Заранка», 45-годдзе ад пачатку новага этапа літаратурна-грамадскага жыцця пасля «духовага летаргічнага сна». У сваёй «Аўтабіяграфіі»Зоська Верас згадвала: «Разбудзіў мяне Арсень Сяргеевіч Ліс. Ён і намовіў пісаць успаміны».

Дастасуецца да пакручастых жыццёвых сцежак Зоські Верас і яшчэ адна дата. Сёлета споўнілася 125 гадоў з дня нараджэння Фабіяна Шантыра (1887—1920) — першага мужа людвікі Антонаўны Сівіцкай, сябра Беларускай сацыялістычнай грамады, аўтара «Нашай Нівы», «Вольнай Беларусі», «Дзянніцы», сябра першага ўрада Савецкай Беларусі. 33-гадовы Шантыр загінуў «пры нявысветленых абставінах». Недзе мне давялося прачытаць, быццам Шантыр быў арыштаваны разам з Цішкам Гартным. Апошняму нібыта ўдалося выбавіцца з расстрэльнай камеры чырвонаармейцаў і пераслаць паратоўную тэлеграму ў Маскву…

Пра пісьменніцу Зоську Верас (а яна была прынята ў саюз пісьменнікаў з рэкамендацыі незабыўнага Генадзя Каханоўскага ў 1982-м — трыццаць гадоў таму), пра дзяячку на грамадскай і культурнай ніве пісалі Сяргей Новік-Пяюн, Янка Саламевіч, Уладзімір Содаль, Зянон Пазьняк, Фёдар Янкоўскі, Вольга Іпатава, Уладзімір Ягоўдзік, Валянціна Аколава, Дзіяна Чаркасава, Алесь Бачыла і многія, многія іншыя.

Толькі эпісталярная спадчына Зоські Верас (лісты, цыдулкі ад яе і да яе) змяшчае каля 10 000 адзінак! Пасля яе смерці ў 1991 годзе прысутнасць гэтага творцы ў розных дзяржаўных і недзяржаўных выданнях даволі значная. Але найбольш поўнае выданне твораў Зоські Верас «пад адной стрэшкай» адбылося яшчэ пры жыцці пісьменніцы. Гэта кніга «Каласкі» («Юнацтва», 1985 год) з прадмовай Ніла Гілевіча і пасляслоўем Янкі Саламевіча.

У 1992 годзе Галіна і Лявон Луцкевічы (дачка і зяць Людвікі Антонаўны) пісалі мне: «У сувязі са 100-гадовым юбілеем Зоські Верас мелі быць выдадзены яе ўспаміны. Ініцыятарам быў Янка Саламевіч. Нам стала вядома, што гэтая ініцыятыва, мабыць, ня будзе рэалізаваная…».

Яна, гэтая магчымасць, не спраўджана і па сённяшні дзень… Самы час цяпер для творцы з віленскага краю. І неабавязкова чакаць чарговага юбілею. Хаця сваімі напамінальнымі датамі Зоська Верас нам, па праўдзе, не надакучыла.

У Яе вянок — мае наступныя два вершы…

### Дзесь пад Вільняю

***«З дому не рухаюся… Так што калі Вам хочацца мяне адведаць, не адкладайце: чым хутчэй, тым лепш. Зразумела, вясной у нас прыгажэй і дарога больш прыемная. Але мушу вытлумачыць, як да мяне дабрацца, бо жыву даслоўна ў лесе…»***

***З ліста Людвікі Антонаўны Войцік***

*А дарога — дзе золь, дзе верас —*
*у пажухлым зімой лісці…*
*Маладзенькая Зоська Верас,*
*як нялёгка да Вас дайсці.*
*І не бор той густы пад Вільняй,*
*не падростачкі-сасs някі, —*
*замінаюць гадоў узвівы,*
*нашы звілістыя вякі…*
*І самім Вам пад дзевяноста.*
*Столькі жыцінак у вязьму!*
*Ды з-за лесу, з-за бору —*
*постаць:*
*— Добрых летаў яшчэ вазьму!*
*Баравая, уся лясная,*
*уся памятлівая на здзіў…*
*Не пытаюся я, бо знаю:*
*колькі*
*верас*
*людзей вадзіў…*
*Паспяшаюся — і паверу:*
*з Даўгалеццем расце Любоў.*
*…Дзесь пад Вільняю Зоська Верас*
*прыручае нам галубоў.*

**1981**

***

*Колькі ж Вам?*
*Дзевяноста пяты?*

*Лік у клопаце маладзы:*
*толькі б гудзевіцкія дзяўчаты*
*чулі водар жывой вады;*
*каб у дальніх*
*школьных музеях*
*хлопцы бачылі,*
*што для іх*
*столькі ўзведзена калізеяў*
*беларускіх, значыць — сваіх.*

*Колькі ж пісем*
*пайшло ў школы?*
*Чый такі непамерклы дух?*
*Хто за самых рупнейшых*
*молад*
*дзецюкоў, дзядзькоў, маладух?*

*Зоська Верас… Ах, Зоська Верас!*
*Вы ўтрымалі зямную вось.*
*…Я расказваю — мне не верыць*
*найпрыхільнейшы ягамосць,*
*што пад Вільняю —*
*клён з ляшчынаю,*
*а навокал — дубы, дубкі…*
*Тут ёсць клад.*
*Да яго лагчынаю*
*прабіраюцца дзівакі.*
*Клад, адкрыты для ўсіх;*
*праменнямі*
*надзяляецца, хто ахвоч.*
*Сам я браў тут арэхі жменямі,*
*каб не білася ў сэрцы ноч.*

*Зоська Верас. Ах, Зоська Верас!*
*Столькі думана ў цішыні…*
*Беларусы жывучы верай*
*з птушкай феніксам у радні.*
*Цераз просекі і павалы*
*прабіваліся да відна.*
*Пакаленні ішлі ў правалы:*
*меч і голад,*
*мор і вайна…*

*Вам нялёгка, калі ў рабоце*
*годы, нервы, сумленне, слых.*
*Жыць нялёгка, бо на выгодзе*
*абыякавых многа, злых…*
*Над Панорамі[1] пісьмы кружацца.*
*Беражэ Зоську Верас бор.*
*Хай Вам доўга Радзіме служыцца*
*на узгорку сівых Панор.*

[1] Паноры (Панярай) – лясны масіў на паўднёва-заходняй ускраіне Вільні.

▸ 100 ГАДОЎ

# МАКСІМ ТАНК

## РАЗДЗЕЛ З КНІГІ «У ВІЛЬНІ І БОЛЬШ НІДЗЕ»

*Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК*

***Ахвярую майму цудоўнаму сябру Сігітасу Саладжынскасу і яго дзівоснай жонцы спадарыні Паліне***



Максім Танк. Пачатак 30-х

Я бачыў Максіма Танка ў старасці, але заўсёды хацеў убачыць яго маладым, віленскім, дваццацігадовым, якім ён быў у першую сваю турэмную палову 1930-х.

Як мог, уяўляў той час, пра які паэт напісаў: «…я працаваў у падполлі і за ўдзел у рэвалюцыйна-вызваленчым руху быў арыштаваны і сядзеў у вядомай віленскай турме Лукішкі…».

Яго пашпартнае імя — Яўген Скурко — узнікала тады ў паліцэйскіх, пракурорскіх і судовых паперах, а перш за ўсё — у канфіскаваных матэрыялах, з якімі можна пазнаёміцца ў Летувіскім Цэнтральным Дзяржаўным Архіве (LCVA): фонд 129, вопіс 2, справа 2034 і фонд 129, вопіс 2, справа 2227…

11 жніўня 1933 года віцэ-пракурор XIII Віленскага раёна Дамінік Пятроўскі ў сваім абвінаваўчым акце (13 друкаваных старонак!) заяўляў, што жыхар вёскі Пількаўшчына Мядзельскай гміны Пастаўскага павета, сын Яна і Дамінікі Яўген Скурко, якому 21 год, абвінавачваецца ў тым, што з 1930-га па 27 траўня 1933 года ў Вільні, у Пастаўскім і Дзісенскім паветах Віленскага ваяводства, а таксама ў Навагрудскім ваяводстве, маючы намер гвалтоўна змяніць дзяржаўны лад Польшчы і адарваць частку яе тэрыторыі, узяў удзел у Камуністычнай Партыі Заходняй Беларусі (КПЗБ), ведаючы, што гэта партыя складаецца з асоб, якія імкнуцца да азначанай вышэй мэты…

Што й казаць, абвінавачанне вельмі сур'ёзнае!

Віцэ-пракурор падкрэсліў: такое злачынства караецца згодна артыкулаў 97 (параграф 1 і 93) крымінальнага кодэкса міжваеннай Польшчы (злачынствы супраць дзяржавы. — Л. Д.-М.), і аднатаваў: калі 5 лютага 1931 года ў Тчэве арыштавалі Браніслава Тарашкевіча, то ў яговых блакнотных нататках была знойдзена характарыстыка на нейкага Скурко: «Смелы хлопец, вучань беларускай гімназіі, адзін раз ездзіў у Слонімскі павет, дзе жыве брат Дварчаніна…».

Д. Пятроўскі асаблівую ўвагу звяртаў на тое, што згаданы Скурко ўваходзіў у шэраг актывістаў, якія непасрэдна праводзілі ў Польшчы дырэктывы кампартыі.

Блакнотныя нататкі Тарашкевіча ў Вільні пераклалі з беларускай мовы на польскую, перадрукавалі — і атрымалася 22 старонкі. З 1-га і ажно па 23 красавіка 1931 года іх падрабязна вывучыў суддзя Язэп Булгак.

На 6 і 7 старонках даваліся кароткія характарыстыкі на кур'ераў; дык вось, на 7 старонцы ў 24 пункце і паведамлялася пра «нейкага Скурко».

У кнізе Міколы Мікуліча «Максім Танк: на скразняках стагоддзя» змешчана паэтава згадка пра той выпадак: «…у мяне пачынаўся акт абвінавачання, што… пры пераездзе граніцы ў Тчэве быў арыштаваны Браніслаў Тарашкевіч, у запісной кніжцы якога было пазначана: «Скурко (толькі імя не было) — хлопец дзельны, вазіў літаратуру». А я тады, сапраўды, вазіў літаратуру брату аўтара хрэстаматыі Дварчаніна…».

Лідару «Грамады» паэт прысвяціў твор «Б. А. Тарашкевіч»:

*Лукішкі.*
*Ключоў турэмных звон.*
*Год 1932, здаецца.*
*Першы павільён.*
*Паверх трэці.*

*Калі выводзілі нас*
*На астрожны двор праклятаы,*
*Мы бачылі яго,*
*Прыніклага да кратаў,*
*З рукой у прывітанні*
*Ўзнятай…*

У 1983 годзе я рэдагаваў кнігу Максіма Танка «За маім сталом» і памятаю: гэты верш уразіў мяне сваім турэмным рытмам…

Праясню сітуацыю з першым арыштам паэта.

Уладзімір Калеснік у кнізе «Паэзія змагання» гаворыць: «Летам (?) 1932 г. яго арыштавалі…», а ў кнізе «Зорны спеў» цытуе інфармацыйны камунікат паліцыі № 142: «…дня 2.04.1932 г. зволены з-пад арышту з турмы на Лукішках».

Тут нехта відавочна памыліўся — ці даследчык, ці пісар, які складаў камунікат, бо атрымалася дзіўная перастаноўка: арыштавалі паэта летам, а выпусцілі вясной, 2 красавіка, усё таго ж 1932 года!

Пазней у кнізе «Максім Танк. Нарыс жыцця і творчасці» У. Калеснік напэўна ўдакладніў: «…паэта арыштавалі ў сакавіку 1932 года, а ў красавіку звольнілі».

У новых публікацыях даследчыка замест 2 красавіка з'явілася 11 красавіка, як дзень выхаду з вязніцы, аднак жа і гэтая дата сумнiўная.

У лісце У. Калесніку (ліст напісаны ў студзені 1978 года, але недапраўлены) Максім Танк далікатна тлумачыць: «…па нейчай віне… укралася памылка, што я звольнены з турмы 11.04.1932 года. Я тады напярэдадні Першага мая быў арыштаваны. Аб звальненні ў гэты час не магло быць і гутаркі…».

Дзмітрый Бугаёў у кнізе «Паэзія Максіма Танка» даводзіць: будучага аўтара «Нарачы» арыштавалі ў красавіку 1932 года.

Мікола Арочка ж у даследаванні «Максім Танк. Жыццё ў паэзіі», мусіць, каб не памыліцца, наогул не называе ні дзень, ні месяц, ні год першага арышту, а проста кажа пра свайго героя: «…упершыню трапіўшы на Лукішкі…» і г.д.

Аднак жа павінна быць дакладная дата, і яна ёсць; у абвінаваўчым акце, падпісаным Д. Пятроўскім, знаходжу: 27 красавіка 1932 года Яўгена Скурко затрымалі, а 29 красавіка рашэннем суда 1-й інстанцыі зняволілі. Сапраўды ж, «…напярэдадні Першага мая быў арыштаваны…».

Прыкладна праз месяц, 24 траўня, арышт замянілі закладам у суме 200 злотых — пра гэтыя 200 злотых, дарэчы, напісалі ці не ўсе танкаўскія даследчыкі. Калі грошы былі ўнесены (пэўна ж, з партыйнай касы), то 11 чэрвеня 1932 года паэт выйшаў на волю. У неадпраўленым лісце У. Калесніку Максім Танк паведамляе, што выйшаў з Лукішак толькі ў ліпені.

У чэрвені ці ў ліпені, але, як бы там не было, — паэт не стаў чакаць суда, схаваўся ад паліцыі (некалькі тыдняў знаходзіўся ў БССР), таму былі разасланы гончыя лісты — так зваліся аб'явы пра пошук злачынцаў.

Надышоў 1933 год…

27 студзеня і 16 лютага акруговы следчы суддзя 2-й Віленскай акругі выпісаў паведамленні аб новых гончых лістах на Максіма Танка. Натуральна, яны былі скасаваны, калі 24 траўня 1933 года паэта затрымалі ў Глыбокім, а праз тры дні, 27 траўня, арыштавалі (другі раз!) і змясцілі на Лукішках, у 1-м турэмным корпусе, у камеры 189.

16 ліпеня паэт падаў заяву на імя следчага суддзі 1-й Віленскай акругі з просьбай дазволіць яму выпісаць газету «Глос Віленскі». На першай старонцы заявы — авальная пячатка турэмнай канцылярыі: «Атрымана 17 ліпеня 1933 г.», а на адвароце начальнік Лукішак 20 ліпеня прыпісаў: «Вязень Скурко салідарызуецца з вязнямі камуністамі і паводзіць сябе нездавальняюча».

Атрымаўшы з такой выразнай прыпіскай заяву, следчы суддзя 26 ліпеня пераслаў яе віцэ-пракурору 13-га Віленскага раёна — тобок, Д. Пятроўскаму. 27 ліпеня заява легла на ягоны стол, аднак на гэтым дакуменце — палова аркушыка з вучнёўскага сшытка ў клетку — Д. Пятроўскі ніякай рэзалюцыі не пакінуў. Мусіць жа, пракурорская думка была такая: раз Яўген Скурко салідарызуецца з камуністамі, то не варта патурацьяму, скажам, дазваляць падпісвацца на тую ж газету…

На другі дзень пасля напісання гэтай заявы, 17 ліпеня, паэта выклікалі на допыт да следчага акруговага суддзі.

31 жніўня ў 3-ці крымінальны аддзел Віленскага акруговага суда быў дасланы абвінаваўчы акт. 2 верасня завялі крымінальную справу — Яўгена Скурко абвінавачвалі паводле артыкула 97 (параграф 1) у звязку з артыкулам 93. 8 верасня старшыня суда даў справе ход.

Праз чатыры дні, 12 верасня, кіраўнік сакратарыята 3-га крымінальнага аддзела адправіў на Лукішкі копію абвінаваўчага акта і тлумачэнне аб парадку падачы скаргаў.

13-га чысла паэт атрымаў гэтыя дакументы, а 18-га падаў заяву — зноў палова аркушыка ў клетку — у акруговы суд з просьбай дазволіць прачытаць акты сваёй справы.

На тытуле заявы — авальная пячатка: «Атрымана 18 верасня 1933 г.», а на адвароце пазнака — 19 верасня начальнік турмы (ужо без ніякіх прыпісак!) перадаў заяву па прызначэнні, і 20 верасня яна была зарэгістравана ў судовай канцылярыі.

У выніку на тытуле заявы з'явіліся дзве рэзалюцыі — верхняя: «Выклікаць. 25.09.1933 г.» і ніжняя, відаць, больш пэўная: «Выклікаць на 27.09.1933 г.».

Тым часам разаслалі й позвы на судовы разбор, прызначаны на 6 лістапада…

На разбор выклікаўся сам абвінавачаны Яўген Скурко і сведкі Ян Касяк (таксама на той час лукішскі вязень), Апалінары Мальчэўскі (чыноўнік следчага аддзела) і выдавец доктар Усевалад Шыран (позву яму ўручылі 21 верасня ў мястэчку Лужкі Дзісенскага павета).

У якасці сведкаў прапанавалі з'явіцца ў суд будучай жонцы паэта Любові Асевіч і яе сястры Соф'і. Выклікі ў суд ім былі дастаўлены па адрасе: Вільня, вуліца Букавая, 14.

Трэба думаць, сёстраў не было дома, таму 20 верасня пасланец уручыў позвы іхнай непісьменнай маці — у графе «подпіс» жанчына двойчы паставіла алоўкам тры крыжыкі…

Паводле Д. Пятроўскага, Яўген Скурко жыў на вуліцы Букавай у доме 14 з 1929 года; у розныя часы там з ім перабывалі Мікалай Сіцько, Сяргей Скурко, Ян Гарэлічонак…

Ноччу з 11 на 12 красавіка 1932 года паліцыя абшукала дом і ў пакоі Соф'і… Пад шафай паліцыя знайшла два паасобнікі адбітага на шапірографе часопіса «Пралом», № 2 з датай «Люты 1932 г.», а таксама рукапісы:

1. Верш «Заштрайкавалі гіганты-коміны», падпісаны: «Максім Танк»;
2. Верш «Гаротнікі абудзіліся», датаваны 20.01.1932 г. і падпісаны: «Арсень Граніт» (адзін з ранніх псеўданімаў паэта. — Л. Д.- М.);
3. Артыкул «Замест прадмовы», змест якога падобны на змест артыкула «Ад рэдакцыі», змешчанага ў 2-ім нумары «Праломy»;
4. Апавяданне пра перажыванні беспрацоўнай Манькі…

Соф'я заявіла, што не ведае, хто ў яе пакоі хаваў часопіс «Пралом», аднак заўважыла: да яе часта заходзілі кватаранты Яўген Скурко і Мікалай Сіцько…

На адной з вокладак «Пралому» быў надпіс па-беларуску: «На памяць ад рэдакцыйнай калегіі «Пралому» 2 красавіка 1932 г.», і пазней каліграфічная экспертыза паказала, што гэта рука Яўгена Скурко.

27 красавіка 1932 года пшадоўнік Леан Гансяроўскі зноў перагрос дом на Букавай, асабліва пакой Яўгена Скурко і Мікалая Сіцько.

Немагчыма не здзівіцца: за два тыдні хлопцы нічога не схавалі! Зусім нядбалыя былі, ці што?!

Гансяроўскі выявіў шмат выданняў і камсамольскіх цыркуляраў, вершаваныя рукапісы камуністычнага зместу, а таксама ведамасці-справаздачы, багатыя на лічбы, даты, падрахункі і скарачэнні — напрыклад, «Док» (Докшыцы), «Дун» (Дунілавічы), «См-нь» (Смаргонь), «Гр» (Гродна), «Ві» (Вільня) і г.д. Усё гаварыла аб тым, што Яўген Скурко і Мікалай Сіцько — актыўныя камсамольцы!

Крамольныя паперы, напісаныя (зноў жа на думку Д. Пятроўскага!) Яўгенам Скурко, сведчылі

пра час і колькасць разасланых адозваў, як і сведчылі пра тое, што Яўген Скурко разам з Серафімам Лаворам з сярэдзіны снежня 1931 года кіраваў выпускам падпольных матэрыялаў…

3-і крымінальны аддзел Віленскага акруговага суда (старшыня — Сянкевіч, суддзі — Жанеўскі і Драц, пратакаліст — Гжымкоўскі ў прысутнасці віцэ-пракурора Д. Пятроўскага) засядаў два дні — 6 і 7 лістапада 1933 года.

На лаве падсудных апынуліся: Серафім Лавор (21 год), Ян Гарэлічонак (27 гадоў), Сяргей Скурко (22 гады), Уладзімір Хвалько (30 гадоў), яго брат Міхал Хвалько (28 гадоў), Мікалай Сіцько (19 гадоў) і Яўген Скурко (21 год).

Маладых беларусаў судзілі за ўдзел у змове пад назвай «Камуністычная Партыя Заходняй Беларусі».

Абвінавачанне па тым часе, можна сказаць, трафарэтнае!

Віну самага старэйшага Уладзіміра Хвалько суд прызнаў недаказанай.

Астатніх засудзілі на розныя тэрміны турэмнага зняволення, на восем гадоў пазбавілі публічных і грамадзянскіх правоў, а таксама ж кожны мусіў быў заплаціць 320 злотых судовых выдаткаў.

Суд за так не судзіў!

Праўда, суд адзначыў: хто без грошай (а без грошай, трэба думаць, былі ўсе!), за таго можа заплаціць са свайго скарбу дзяржава!

Яўген Скурко дастаў шэсць гадоў турмы…

Даследчыкі не раз адзначалі: на Лукішках Максім Танк выпускаў часопіс «Краты» і складаў рыфмаваныя творы. Нядаўні вучань меліярацыйных тэхнічных курсаў, ён меў добры почырк і ўмеў карыстацца рознымі шрыфтамі, таму турэмны камітэт неаднойчы даручаў яму перапісваць грыпсы.

Паэт называў грыпсамі астрожныя вершы, У. Калеснік — тайную перапіску палітвязняў, а даследчыкі Т. Барысюк і М. Барташэвіч даюць сваё тлумачэнне: гэта запіскі з турмы ці ў турму.

Слова «грыпсы» паўплывала на лёс і творчасць Максіма Танка істотным чынам!

У «Зорным спеве» У. Калесніка чытаю: «…чацвёртага лютага 1934 года… лукішскі наглядчык Аляксандр Трухан знайшоў у вентыляцыйных люках 175 камеры тайную перапіску палітвязняў, так званыя «грыпсы». Там былі перапісаныя песні «Мы пожара всемирного пламя», «Слезами залит мир безбрежный», і фрагмент паэмы «Як бог гуляў на ігрышчы»…».

А вось як пра гэты выпадак напісаў Максіму Танку 4 лістапада 1961 года летувіскі журналіст Ёнас Каросас: «…1934.2.17 тюремный сторож Трухан Александр в камере 175, в которой сидели студент Фейгенберг Давид и Фейгельман Ицек, в вентиляции под парашкой нашли (так у лісце; вядома ж, трэба чытаць не «нашли», а «нашел». — Л. Д.- М.) грипсы…».

У прыведзеных урыўках супадае нумар камеры, імя і прозвішча наглядчыка, і тое, што ён знайшоў, а менавіта — грыпсы, і дзе знайшоў — у вентыляцыі; урэшце, супадае год — 1934-ты, супадае месяц — люты, аднак жа не супадае дзень.

У. Калеснік піша пра 4-га, Ё. Каросас пра 17-га, а грыпсы былі знойдзены 14-га чысла.

Цяжка сказаць, на якія дакументы абапіраўся У. Калеснік, калі пісаў пра 4-га лютага; лягчэй растлумачыць, чаму памыліўся Ё. Каросас. Ён, пэўна ж, чытаў рапарт начальніка турмы, накіраваны 17 (!) лютага пракурору Віленскага акруговага суда.

Між тым, у рапарце цвёрда гаварылася: грыпсы (усяго пяць) Трухан знайшоў менавіта 14 лютага, за што вязняў камеры 175 на чатыры тыдні пазбавілі права атрымліваць харчовыя пасылкі.

Сведка Аляксандр Трухан 12 красавіка з'явіўся да старшага пастарунковага следчай службы Тадэвуша Пладоўскага. Карэнны віленчук, трыццацігадовы А. Трухан жыў на вуліцы Вітольдавай, у 42-ім доме, займаў 9-ю кватэру; пісаўся палякам, хадзіў да касцёла і ніколі не быў пад судом…

Чалавек яшчэ малады, але забыўлівы, і гэта акалічнасць вельмі важная для ўсёй справы!

Дазорац паказаў: у лютым 1934 года аднаго (?) дня ён праводзіў агляд камеры 175…

Заўважу: мінула ўсяго два месяцы, а ён ужо не мог успомніць, што аглядаў названую камеру менавіта 14 лютага…

Паводле А. Трухана: вязняў у камеры не было; Давыд Фейгенберг знаходзіўся ў судзе (запомнім гэта!), а Іцак Фейгельман на шпацыры (таксама запомнім!).

Дык вось, у пустой кутузцы турэмны вартаўнік выпараў з вентыляцыйнай продухі жмут папер і сярод іх знайшоў пяць грыпсаў, а таксама ж картку з надпісам «Давыд Фейгенберг» (такія карткі з прозвішчамі вязняў звычайна ўкладваліся ў кошык з харчамі, якія прыносілі ў турму родныя зняволеных).

У сваім пратаколе Т. Пладоўскі адзначыў, што ў час допыту, каб спраўдзіць — тая картка ці не, ён не паказаў А. Трухану картку з надпісам «Давыд Фейгенберг», бо яна недзе згубілася!

Камічная дэталька!

На паказаныя ж пяць грыпсаў А. Трухан сказаў, што гэта менавіта тыя грыпсы, якія ён выявіў у лютым (!) 1934 года ў камеры Іцка Фейгельмана і Давыда Фейгенберга…

Тады ж, 12 красавіка, узялі ўзор почырку і дапыталі ў якасці падазроных вязняў 175 камеры…

Студэнт Універсітэта Стэфана Баторыя, сын Гірша і Рахілі Давыд Фейгенберг нарадзіўся ў Вільні ў 1910 годзе, жыў на вуліцы Вакзальнай дом 11, кватэра 10, з'яўляўся памочнікам дырыжора, а ў турме апынуўся згодна знакамітага артыкула 97 (параграф 1)…

Пра пяць грыпсаў, якія ляжалі на стале Т. Пладоўскага, вязень сказаў, што бачыць іх першы раз! Даў яшчэ і такое тлумачэнне: гэта сам Трухан паведаміў яму, што знайшоў менавіта ў вентыляцыі нейкія паперы і, хаваючы іх за спінай, спытаўся ў яго: «Гэтыя грыпсы ты пісаў?» — а ён, вязень, адказаў, што ніякіх грыпсаў не пісаў і наогул не мог бачыць, што канкрэтна хавае ад яго дазорац…

Гэта паказанне якраз і выяўляе «арыгінальнасць» памяці Трухана. Аказваецца, падчас ператрусу вязень Д. Фейгенберг знаходзіўся не ў судзе, як сведчыў Трухан, а ў сваёй камеры…

І з І. Фейгельманам Трухан памыліўся!

Пра гэтага вязня даводзіў, што знаходзіўся ён (памятаем!) на шпацыры, аднак жа І. Фейгельман у той час, калі ў камеры быў ператрус, чытаў у судзе акты сваёй справы…

Як і яго таварыш па няшчасці, Іцак Фейгельман таксама ж заявіў Т. Пладоўскаму, што згаданыя пяць грыпсаў не пісаў і не ведае, хто іх напісаў і схаваў у вентылятары…

Чалавек веры Майсеевай, сын Лейбы і Сары Іцак Фейгельман жыў у мястэчку Лужкі Дзісенскага павета — дарэчы, як і доктар Усевалад Шыран.

У пратаколе ўзору почырку вязень вельмі прастадушна аднатаваў: «…был под судом за коммунистическую деятельность… Отсидел до сих пор семь месяцев и… сидеть еще три года и пять месяцев. Отец умер в 1927 году в лесу от болезни склероза сердца. Находясь в тюрьме, никакой деятельности не совершаю… Попольски писать не умею…».

Вядома ж, узяўшы пад увагу, што Фейгельман па-польску не піша, графолаг Ігнацы-Леан Другаль, а 12 красавіка ён быў і пратакалістам, папрасіў вязня накрэсліць у пратаколе ўсе літары расійскага алфавіта, прычым двойчы (вялікія і малыя), а таксама ж усе арабскія лічбы (рымскія лічбы чамусьці не трэ было!), і нават накрэсліць габрэйскія літары (іхні пісьмовы варыянт)…

Выконваючы пракурорскае распараджэнне, 27 красавіка супрацоўнікі следчага аддзела дзяржаўнай паліцыі места Вільні ўжо вядомы нам Т. Пладоўскі і пратакалістка-машыністка старшы пшадоўнік Яніна Падгайская зрабілі агляд рэчавых доказаў са справы І. Фейгельмана і Д. Фейгенберга, пераклалі грыпсы на польскую мову, падрабязна іх апісалі і склалі пратакол (тры поўныя друкаваныя старонкі і 13 радкоў на 4-й старонцы).

Змест апошняга грыпса падрабязна не апісаны, сказана толькі, што накрэслены ён алоўкам ад рукі на папяроснай гільзе з двух бакоў. Калі ўчытацца, то можна даведацца, што на Лукішках у нядзелю кармілі фасоллю і заціркай, у панядзелак — капустай і крупамі, у аўторак — гарохам і морквай, у сераду — гарохам і, здаецца, макаронай, у чацвер — фасоллю і крупамі, у пятніцу — крупамі і капустай, у суботу — гарохам і бручкай.

У наборы страў наступнага тыдня, акрамя вышэй названага, былі яшчэ буракі, селядцы і грэчка. Але чамусьці нідзе не называлася бульба, і нічога не гаварылася пра мяса і хлеб?!

Праўда, не ўсе словы ў невялічкім рукапісе ясныя, нават лупа не памагла разабраць іх, таму, трэба думаць, у нечытэльных радках пісалася якраз пра бульбу, мяса і хлеб…

А тым часам лукішская служба не спала.

У лісце Ё. Каросаса (тым самым, ад 4 лістапада 1961 года) ёсць абзац: «…1934.4.30 во время обыска в связи с 1 Майем у Лагуна Бр. в кармане был наден грипс…».

Сапраўды, 30 красавіка 1934 года аспірант турэмнай аховы Тадэвуш Бараноўскі, абшукваючы 162 камеру, знайшоў у вязня Браніслава Лагуна грыпс на польскай мове.

Засуджаны на пяць гадоў згодна артыкулаў 97 і 93 Б. Лагун чакаў перагляду сваёй справы ў апеляцыйным судзе…

5 траўня начальнік турмы Ян Чакала паведаміў пра знаходку пракурору Віленскага акруговага суда, адзначыўшы: вязня Б. Лагуна за хаванне грыпса на тры тыдні пазбавілі права мець харчовыя пасылкі…

Параўнаю: за гэткую ж правінку вязняў 175 камеры пакінулі без хатняй яды на чатыры тыдні.

Пэўна, так сталася таму, што ў 175 камеры знайшлі ажно пяць грыпсаў.

А вось раней за такое каралі слабей: так, 20 лютага 1926 года за напісанне трох старонак у справе стварэння турэмнага камітэта вязень Ісер Мільнер быў пазбаўлены спатканняў і хатняга харчу ўсяго толькі на сем дзён…

Б. Лагун сядзеў у адной камеры з Яўгенам Скурко і Янам Гарэлічонкам, а грыпс, выяўлены Бараноўскім (дарэчы, імя і прозвішча аспіранта нехта накрэсліў алоўкам наўскос на рапарце Чакалы), — дык вось, грыпс, выяўлены аспірантам Бараноўскім, заклікаў да гвалтоўнай змены палітычнага ладу ў Польшчы і называўся «1-га Мая».

Цікава, менавіта 1 мая (1 траўня) была перагледжана справа Серафіма Лавора, Яна Гарэлічонка, Сяргея Скурко, Міхала Хвалько, Мікалая Сіцько і Яўгена Скурко.

Паводле У. Калесніка: «…Віленскі апеляцыйны суд… перагледзеў справу. Танку далі два гады турмы ўмоўна… Праседзеўшы год на Лукішках, 1 мая 1934 года Максім Танк выйшаў на волю…».

Разам з ім выпусцілі і Мікалая Сіцько, які, як высветлілася, быў канфідэнтам!

Аналізуючы гэты факт, Анатоль Сідарэвіч сказаў, што такая была практыка: канфідэнта заўсёды выпускалі разам з падпольшчыкам, каб у вачах падполля цень недаверу падаў на іх вызваленага таварыша…

А гісторыя з канфідэнтам вартая асобнага апавядання!

Сын Антона і Марыі Мікалай Сіцько з'яўляўся жыхаром вёскі Малыя Эйсмонты Мала-Бераставіцкай гміны Гродзенскага павета.

У выраку акруговага суда сказана: Сіцько арыштавалі 12 траўня 1933 года, а ў выраку апеляцыйнага суда — 12 траўня 1932 года.

Памылка — ці гаворка пра два розныя арышты?

Магло быць і два!

Напрыклад, яго суседа па кватэры на Букавай Яўгена Скурко за гэты час двойчы арыштоўвалі; нагадаю: 29 красавіка 1932 года і 27 траўня 1933 года!

Аднак жа калі паверыць у версію, што Сіцько арыштоўвалі два разы, то выходзіць, што другі раз яго ўзялі роўна праз год (ну, проста дзень у дзень!) — 12 траўня!

Такое магчыма?

Магчыма.

Аднак жа дакумента, з якога вынікала б, што так і было, у мяне няма, таму думаю: Сіцько арыштоўвалі ўсё ж такі адзін раз і менавіта 12 траўня 1933 года.

Тут хутчэй за ўсё памыліўся пратакаліст апеляцыйнага суда (нейкі стажор Дабкус), бо інакш выходзіць: канфідэнт паўтара года чакаў у камеры разгляду сваёй «справы» ў акруговым судзе, а калі ўзяць пад увагу разбор у апеляцыйнай інстанцыі, то бедны памочнік паліцыі цярпеў усе два гады!

Нешта не верыцца ў гэта, а больш верыцца ў тое, што па загаду свайго камісара Сіцько адседзеў без двух тыдняў год.

Але як бы там ні было, усё адно шкада яго, дзевятнаццацігадовага…

Кажучы тагачаснай судовай мовай, са студзеня 1932-га і Сіцько ўзяў (!) удзел у змове пад назвай «Камуністычная Партыя Заходняй Беларусі», за што й быў пакараны 7 лістапада 1933 года акруговым судом на тры гады турмы.

У сваёй апеляцыйнай скарзе прасіў, каб яго апраўдалі, і прызнаўся, што быў функцыянерам следчага аддзела ў Навагрудку і меў заданне ад камісара Лабяка ўвайсці ў давер да камуністаў, а калі атрымаецца, то ўступіць і ў кампартыю.

— У акруговым судзе я пра гэта не заяўляў, — тлумачыў бедны Сіцько, — бо тады на разбор не з'явіўся камісар Лабяк!

Адносна камісара, які не з'явіўся на разбор, — тлумачэнне наіўнае!

Сіцько ў сваю абарону нічога не заяўляў, бо хутчэй за ўсё меў цвёрды загад маўчаць; меў загад у якасці інфарматара заставацца за кратамі.

А калі зрабіў сваю работу і, мусіць жа, удала, тады яго паказвалі, — дазволілі ў судзе вышэйшай інстанцыі «прызнацца».

Вось тады й камісар Антоні Лабяк прыйшоў у гэтую інстанцыю і, як сведка, паказаў: сапраўды, Мікалай Сіцько дапамагаў навагрудскай следчай управе; звесткі, якія здабываў ён, былі каштоўныя; самога ж яго не назавеш заўзятым камуністам (велікадушна тлумачыў камісар!), бо Сіцько ўвайшоў у кампартыю з ведама паліцыі, і ў такім сваім званні мог мець і нелегальную літаратуру, якую да свайго арышту проста не паспеў перадаць уладзе…

Мусіць жа, гаворка тут і пра тыя камсамольскія цыркуляры, якія 27 красавіка 1932 года выявіў пшадоўнік Леан Гансяроўскі…

І нейкі Бітнер (таксама сведка) далажыў апеляцыйнаму суду, што Сіцько пачаў супрацоўнічаць з паліцыяй прыблізна з канца 1930 года, і для яго, Бітнера, няма нічога дзіўнага ў тым, што Сіцько, як інфарматар, належаў да КПЗБ…

А калі так, калі прыналежнасць да КПЗБ несапраўдная, калі няма доказаў адносна ідэйнай далучанасці да партыі камуністаў, то суд пастанавіў: Мікалая Сіцько апраўдаць!

Тут яшчэ цікава і тое, што пасяджэнне вялося адкрыта, і ўсе такім чынам даведаліся, хто ён такі — Мікалай Сіцько!

Але няўжо дэфензіва не магла нішкам вызваліць свайго агента, каб і надалей скарыстоўваць яго ў аператыўнай рабоце?

Вядома ж, магла, але мэту мела іншую, а менавіта: выставіць з недобрага боку Яўгена Скурко — тобок, апраўдаць яго разам са сваім памагатым і разам выпусціць з турмы ў адзін і той жа дзень!

Няхай зласліўцы паціраюць рукі: ага, дык жа выпусцілі разам з дэфензіўшчыкам!

Тады, 1 траўня 1934 года, 1-шы крымінальны аддзел Віленскага апеляцыйнага суда засядаў у такім складзе: старшыня — Ядзевіч, суддзі — Ільін і Матусевіч, а пратакаліст, імя якога ўжо згадвалася, — стажор-юрыст Дабкус. Пасяджэнне адбывалася ў прысутнасці віцэ-пракурора Гвірыні…

Удакладню пастанову ў дачыненні да Яўгена Скурко: два гады турмы з адтэрміноўкай выканання прысуду на пяць гадоў і 120 злотых судовых выдаткаў.

**Цалкам кнігу можна будзе прачытаць у часопісе «Дзеяслоў».**

АПАВЯДАННІ

# ХТО БЫКУЕ АПОШНІМ…

Зміцер ДЗЯДЗЕНКА



## Ars Amandi

Рэдактар недзяржаўнай газеты Андрэй Шмаравідла сядзеў за працоўным сталом і думаў. Яго думкі былі пра будучыню Радзімы і пра тое, ці складзецца пасьянс «Павук». Шмаравідла, без сумневу, быў таленавітым чалавекам: ён мог думаць абедзьве гэтыя думкі адначасова.

Нечакана ў яго кабінет закаціўся невысокі рудаваты наведнік, відавочна чымсьці ўсхваляваны.

— Дарагі рэдактару! — у голасе рудаватага чулася непадробнае хваляванне. — Вы рызыкуеце будучыняй газеты!

— Мы заўжды рызыкуем, але ўсё адно працягнем гаварыць праўду, — паспрабаваў супакоіць рэдактар незнаёмца. — А што, уласна, вас так устурбавала?

— Вашая новая рубрыка, — госць сутаргава зглынуў сліну. — Вы надалі ёй для канспірацыі назву «Каханне і сэкс». Але ж усім відаць, што гэта рубрыка палітычная! Нездарма яна ўзнікла напярэдадні выбараў…

Рэдактар памкнуўся нешта сказаць, але госць не даў яму такой магчымасці.

— Вось гэтая фраза, што ад трэння ў прэзерватыве могуць узнікнуць мікрарасколіны, — ён тыцнуў некуды ў сярэдзіну газетнай старонкі, — усім жа зразумела, што яна азначае разлад у шэрагах улады. Гэтым вы даяце зразумець, што шчыльныя кантакты з прадстаўнікамі рэжыму дазволяць раскалоць іх шэрагі.

Ён крыху перавёў дыханне і працягваў з ранейшым запалам:

— А вось гэты артыкул «Перавагі і заганы мастурбацыі». Вы думаеце, не заўважна, што ў гэтым тэксце абмяркоўваецца выбар адзінага кандыдата ад апазіцыі?.. Я ўсё разумею! Гэта занадта сур'ёзная тэма, каб гаварыць пра яе адкрыта, таму даводзіцца карыстацца палітычнымі метафарамі. Мне імпануе тое, як элегантна вы пазначылі тэму. Але ж гэта ўсё шытае белымі ніткамі! Аналогія паміж мастурбацыяй і выбарам адзінага — занадта відавочная! Гэтаксама, як паміж гаворкамі пра кандом і байкот.

Госць распаляўся ўсё больш. Рэдактар ужо кінуў марныя спробы ўклініцца ў ягоны маналог.

— Я ўжо не кажу пра артыкул «Восем спосабаў кахацца даўжэй». Нават я зразумеў, што ў гэтым артыкуле гаворыцца пра выхад на Плошчу і адстойванне свайго выбару. «Кахацца даўжэй»… І папугаю зразумела, што тут гаворыцца пра неабходнасць стаяць да канца! Вы думаеце, у органах дурні сядзяць? Думаеце, яны не зразумеюць вашых алюзіяў? Дарагі спадар Шмаравідла! Вы вельмі рызыкуеце, друкуючы такія тэксты. Гэта можа пагражаць закрыццём такой дарагой нам усім газеты…

Наведнік прыклаў руку да сэрца:

— Я прашу вас быць больш абачлівым і больш канспіравацць такія смелыя палітычныя заклікі.

Нарэшце рэдактар мог вымавіць слова:

— Вы трохі памыляецеся. У нас не проста грамадска-палітычнае выданне, а газета для ўсёй сям'і. Таму мы і падымаем розныя тэмы…

— Вядома! — рудаваты перапыніў яго, гледзячы з вясёлай хітрынкай у вачах. — Менавіта так вы можаце адказваць разнастайным праваральшчыкам! Але ж я не праваральшчык, а даўні чытач выдання. Пагатоў, што і праваральшчыкі будуць да вас чапляцца хутчэй за ўсё па іншых, надуманых нагодах. А вось тое, што вы называеце сябе газетай для ўсёй сям'і, можа нават пашкодзіць. Ну няўжо вы, спадар Шмаравідла, чытаеце сваім дзецям артыкулы пра перавагі мастурбацыі або анальнага сэксу? Усе ж зразумеюць, што гаворка тут можа ісці толькі пра палітычнае выхаванне!

Ён яшчэ раз цяжка ўздыхнуў. Пры наступным пытанні ў яго голасе прарэзалася непадробная цікаўнасць:

— А які будзе наступны артыкул у нашай рубрыцы?

— «Восем жэстаў, якія выдаюць пажаду».

Рудаваты задаволена паківаў галавой:

— Абавязкова прачытаю, каб ведаць, каго з кандыдатаў выбіраць. Але паабяцайце, калі ласка, што гэта будзе апошні з вашых рызыкоўных артыкулаў…

## Хто быкуе апошнім…

— Ну што ж, сябры мае, сённяшняя планёрка ў нас лёсавызначальная, можна сказаць…

Галоўны рэдактар абвёў позіркам прысутных.

Рэдакцыя нярвова ўздыхнула: пасля такога пачатку спадзявацца на далейшую літасць было бессэнсоўна.

— Усе вы, без сумневу, памятаеце выказванне нашых славутых папярэднікаў, што беларуская мова пераможа тады, калі на ёй загавораць гопнікі і прасталыткі. Калі ўлічыць, які складаны перыяд беларушчына перажывала ў мінулае стагоддзе, гэтую мару нашыя папярэднікі маглі выказваць толькі як нязбыўную. Але цяпер на нашую долю выпала ажыццявіць яе!

З вачэй Галоўнага струменіў магутны фантан аптымізму й энергіі. Эканамічны Аглядальнік нярвова ўцягнуў паветра і паспрабаваў неўпрыкмет збіць з рукава пырскі гэтага фантану, якія далятаў ад Галоўнага.

— Мы вызначаем нашую новую стратэгію на бліжэйшы час — заваяваць моладзь і сярэдні клас. Найперш, вядома, моладзь, бо за ёй будучыня… І таму фраза пра беларускамоўных гопнікаў для нас набывае новае гучанне і актуальнасць. У сувязі з гэтым у нас адбыліся кадравыя змены: знаёмцеся з новым намеснікам галоўнага рэдактара і палітычным аглядальнікам!

Рукаво замшавага пінжака паднялося і паказала на кароткастрыжанага квадратнага чалавечка, шырыней ілба падобнага да маладога бычка.

— Менавіта ён прынясе змены ў нашую працу і зробіць нашае выданне па-сапраўднаму блізкім для народа, — крыніца натхнення ў Галоўнага была невычарпальнай, як Вялейскае вадасховішча.

Новы Намеснік абвёў усіх пагрозлівым позіркам і падцягнуў чырвоныя трэнікі. Галоўны між тым працягваў:

> І папугаю зразумела, што тут гаворыцца пра неабходнасць стаяць да канца! Вы думаеце, у органах дурні сядзяць? Думаеце, яны не зразумеюць вашых алюзіяў?

— З наступнага нумара мы ствараем кантэнт беларускіх гопнікаў і такім чынам ангажуем моладзь у шэрагі беларушчыны. І сачыць за гэтым будзе мой новы намеснік!

«Бычок» павярнуўся да шэфа і абвёў рукой прысутных:

— Чо?! За кім з гэтых сачыць трэба?

Хтосьці падавіўся смяшком, які адразу ж сціх, як толькі Намеснік вярнуўся позіркам да рэдакцыі.

— Пакуль ні за кім, — рэдактар абаяльна пасміхнуўся. — Я табе ўжо тлумачыў твае задачы: яны не мяняюцца пакуль што. А астатняе я табе потым патлумачу.

— Няма базару! — пагадзіўся «бычок».

***

Планёрка, якая адбылася праз месяц пасля з'яўлення новага намесніка, мала нагадвала ранейшыя рэдакцыйныя сходы.

Галоўны падцягнуў зялёныя трэнікі:

— Ну што, пабазарым пра мінулы нумар і ператрэм тэмкі для наступнага?

— Я…ць-капаць! — падтрымаў Намеснік.

— Найперш пра эканамічны артыкул нумара. Адзначу, што за месяц эканамічны аддзел так і не здолеў стаць бліжэй да народа. «Мыты», «афшоры», ПДВ, ВУП — хто гэта разбярэ? Кожны артыкул даводзіцца перапісваць! Я ж неаднойчы прасіў асвоіць новую эканамічную тэрміналогію нашага выдання! Вы паглядзіце, як мы перарабілі ваш агляд: «раздзерыбанілі бабло», «лахаўё ў пралёце»… Вось як трэба пісаць! Тады ўсім будзе цікава чытаць эканамічныя артыкулы. Я разумею, што перарабіць сябе цяжка. Як вы заўважылі, я й сам яшчэ не дужа добра авалодаў нашым новым стылем у кантактах з вамі. Але мы ўсе павінны працаваць над ім, у чым нам і дапамагае мой Намеснік.

Эканамічны аглядальнік ўздрыгнуў, паглядзеў на маўклівага Намесніка і паправіў чорныя акуляры, якімі прыкрываў падбітае вока.

— З палітычнымі аглядамі ў нас усё ў парадку. Думаю, тэмай наступнага палітычнага агляду трэба даваць нашыя адносіны з суседзямі. Працоўная назва артыкула будзе «Самі вы підары гнойныя!». Ім як заўжды зоймецца наш галоўны спецыяліст у галіне міжнародных сувязяў, палітыкі, палітэсу й іншых мудрагелістых тонкасцяў.

Намеснік нахіліў кароткую шыю, зірнуў спадылба на Галоўнага:

— Чо?! А я?

— Ну не быкуй! Я ж пра цябе і казаў!.. Далей — аддзел культуры. У нас нямерана тэмак, якія варта асвятляць. З кім спяць славутыя пісьменнікі, колькі выпіваюць рок-спевакі, чым розняцца надпісы ў сарцірах Нацбібліятэкі і КЗ «Мінск» — усё гэта вельмі цікава і варта асвятлення на нашых старонках!

У гутарку ўмяшаўся Вэб-рэдактар:

— Нашыя інтэрнэт-форумы поўняцца пытаннямі ад чытачоў. Кажуць, што мы «зжаўцелі» ды скаціліся вельмі нізка…

Галоўны паглядзеў на Вэба як на малое неразумнае дзіця:

— Запамінай — потым адказаш ім. Пакуль мы застаемся адзінай незалежнай беларускай газетай, мы павінны быць даступнымі для ўсіх. І пісаць павінны для ўсіх. А паколькі галоўнай нашай аўдыторыяй застаецца моладзь і сярэдні клас, то мы й пішам для іх. Аднак усялякіх яйкагаловых мы таксама не адкідаем! Для іх ёсць апошняя старонка — самая каштоўная, бо — з абвесткамі! Я й сам туды часам зазіраю, каб узняць свой культурны ўзровень…

Галоўны задумена паглядзеў на апошнюю старонку, памаўчаў. Цяжка ўздыхнуў. Потым працягнуў з ранейшым энтузіязмам:

— І пры канцы яшчэ адна клёвая навіна. На медыйным рынку заўважылі, як хутка мы заваёўваем моладзь апошнім часам. У звязку з гэтым нам прапанавалі фінансавую дапамогу ў заваяванні сярэдняга класа. І тут я магу вам з гонарам заявіць: «У чым нашая сіла? У прадбачанні й прагнозе!». Бо — што цікавіць сярэдні клас? Правільна! Прастытуткі! І мы будзем цяпер актыўна працаваць над з'яўленнем беларускамоўных прастытутак. Пакуль што нам прапанавалі рабіць гэта ў палітычнай сферы, але ж заўжды трэба з нечага пачынаць!



ІМПРЭСІЯ

# ЯК ДЗІКАЯ АРХІДЭЯ

Святлана МОРА

Дзяўчына ішла купляць антыкварыят...

Колькі было ужо ў свеце такіх дзяўчат? Сумных, задуменных, з няясным позіркам услед транспарту, які збег... Колькі было іх? Навошта ў кожным паўнюткім горадзе весь гэта? Паслухай. Так напісаў пра яе адзін патрыёт.

«Наколькі хмара не ведае, куды плыве, настолькі цяпер няважна было, куды ісці... Ніколі і ніхто не ўздыхаў яшчэ абсягам гэтых грудзей, і ніколі лёд і асфальт не былі такімі роднымі. Шэрасць часоў была адзінай памылкай таго вечару і, здавалася б, магла выправіць усе недарэчнасці гэтых часоў. Але. Наколькі хмара не ведае, куды плыве, настолькі цяпер няважна было, куды ісці.

Жоўтыя тульпаны прывідам спачувалі нейкай асобе, якая прадавала іх штовечар, але нешта галоўнае ў гэтых тульпанах і гэтых грошах у пераходзе насцярожвала і давала надзею на болей дакладныя мары, болей дакладныя кветкі, на новы дзень, зрэшты...»

Так напісаў пра яе адзін паэт. Патрыёт.

Дзяўчына была маладой. Ніхто не пазбег бы спакусы затрымацца на яе чорным шаліку ды чырвоным бярэце, стракатае паліто й наогул давала падставы азірнуцца на гэтую істоту не выпадкова. Але шэрасць часоў рабіла сваё. І ёй было ўсё роўна. Ёю дыхаў кожны асфальт, кожны слуп, кожны дах — кожнай раніцы.

Дзяўчыне было ўжо намнога за трынаццаць, але нікому ў галаву б не прыйшло — размаўляць з ёй пра ўзрост. Хутчэй пра антыкварыят. Ды яшчэ пра мастацтва. Ці не мастак яе сябра, ці не знаёмы ён...

«Волі. Не было даўно Волі». Пра гэта яна думала, калі ішла хутчэй за ўсіх асцярожных і незнаёмых па шэрым асфальце.

Мала хто ведаў, што насамрэч ёй было за трыццаць. Яе хударлявасць пра гэта маўчала. Яе сябра-паліглот зацікавіўся гэтым, калі трэба было выйсці ды нешта сказаць «гэтым свінням у штацкім».

Яе звычкі пакуль не хварэлі. Яна ела, колькі хацела, секла дровы, калі даводзілася, і была ўсё яшчэ маленькага росту.

Калі патрэбны быў антыкварыят, яна яго купляла.

Яна не была горш за іншых, але распавесці пра яе кашачыя рухі было б тут занадта.

Ёй часта было прыемна. Прыемна ісці, прыемна гуляць, прыемна ісці па антыкварыят асабліва.

Дарэчы — яна ніколі не хварэла. Наколькі можна ўявіць сабе дзяўчыну з праблемамі, якая ніколі не хварэе, — дык вось, гэта была яна.

Колькі было такіх прахожых, якія адзначалі яе ў натоўпе, чорт яго ведае, але факт застаецца фактам: яна амаль ніколі не глядзела ў вочы.

Яе антыкварыят быў падобны на музу — самадастатковы і незалежны. Заблытацца на дарозе па антыкварыят было для яе гэтак жа немагчыма, як згубіцца ў цэнтры мегаполіса. Яна проста ведала.

Пахам, анёлам, лёдам, — невядома як. Па антыкварыят трэба было ісці.

Штомесяц прывозілі нешта новае. Гэта было заўсёды неяк загадкава.

Антыкварыят ёй дарылі. Гэта была зусім іншая справа.

Побач з ёю часам быў мамант. Гэта быў сябра з дзіцячых сноў, і ён прыходзіў тады, калі здаралася нешта дрэннае, яна за гэта атрымлівала свежыя думкі.

У каго не было ў дзяцінстве маманта?..

Хто не хацеў лятаць?

Яна магла ўсё. Калі трэба — прадаваць семкі. Але хадзіла ў срэбраных пальчатках і любіла эспрэса. Ром. Міндаль. Калі трэба — усё.

У яе гісторыях было шмат кніг. Кнігі ў яе былі чамусьці часцей за ўсё ў зялёных вокладках ды звязвалі мары з асяроддзем.

Гэтага ёй не даравеў першы сябра.

Дарога па антыкварыят зімой займала хвілін на дваццаць болей, але нязменна дарыла задуменнасць...

Дарыць антыкварыят яна не ўмела. Слухаць музыку таксама.

Даравяць каму-небудзь не было спрыяльнасці.

Да яе не вярталіся. Ёй было дрэнна. Яна прыгожа напівалася ды гэтак жа прыгожа пра гэта не думала.

З антыкварыята ёй падабаліся рамы. «Яны прыўзносілі ў яе жыццё побыт».

Ёй было калі гатаваць. Але ў стылі «ром і міндаль»... Рыба ў яе была смачная.

У яе была прыемная маці. Яна гатавала зусім іншыя стравы і была шчаслівая. Незалежна адно ад другога...

Лекар дзяўчыны быў бы вусатым. Але яна яго не мела.

Яна наогул шмат чаго не мела.

Яе хацелася абняць. Большасці тых, хто яе бачыў.



Прадаўцу антыкварных гадзіннікаў яна не тое каб не падабалася — насцярожвала. У яе рухах была выверанасць, дакладнасць, якую яна, здавалася б, не заўважала, але кожны механізм ведае сутнасць. Прынамсі, у прасторы аднаго кабінета.

Яна была там аднойчы з кавай у руцэ — па папярэдняй дамоўленасці. Што ёй патрэбна было — заўсёды брала... Замова была канкрэтная, гадзіннік — з лепшых.

Кава тады састыла ў тым кабінеце. Яна паабяцала не губляць той гадзіннік.

Ёй было чатырнаццаць, калі яна набыла сваю першую антыкварную рэч. Гэта быў ланцужок, срэбра, 925. У яго былі даволі вялікія кольцы ды яўна выпадковае паходжанне. Яго шмат хто бачыў. Колькі магло быць іншага ў яе жыцці (ды і чаго?) без гэтага ланцужка, — так пытанне нават ніколі не ўзнімалася.

«Антыкварыят ратуе», — так яна заўсёды казала.

З усмешкай.

Напіцца жанчыне адной? Гэта было не зусім пра яе.

Хаця...

Яна ішла зімой па антыкварыят і ўспамінала свой сон. Сон быў прыемным, з гатычным храмам на ўзгорку, узгорак над ракой. Раку не было бачна, але яна, відавочна, была.

Дзень быў паскудны... Але быў антыкварыят.

Яна любіла бранзалеты. Каб зіхацелі ды звісалі — кропелькамі ў промнях.

А было ёй трыццаць чатыры.

— Неверагоднае сумленне ў багоў, не думаеш? — сказаў кдб-шнік адной даме. — Міця я, Міця...

— Міцечка, я не цалуюся... — адказвала дама.

— Цалуйся, калі ласка, цалуйся, — адказваў кдб-шнік адной знаёмай даме.

— Не, не цалуюся.

**З нататніка адной беларускай дамы:**

«Як дзікая архідэя, спявала вясна. Спявала і прытанцоўвала.

Яе чакаў антыкварыят. Мой антыкварыят.

Я ніколі не зараблю столькі грошай, каб купляць дарагія пацалункі. Разумееце мяне? Мне не трэба проста».

ВЕРШЫ

# АСОТ І КРАПІВА

Вера БУЛАНДА

## Паэзія

*Паэзія — мая гаспода і мой храм,*
*Мая дзявочая святая летуценнасць,*
*Даверлівасць прагнозам і вятрам,*
*Што сталі назаўжды няўлоўным ценем.*

*Паэзія, мне без цябе не жыць,*
*Не існаваць, не плыць ва ўласным лёсе,*
*Як мытнік строгі рыфмы на мяжы*
*Радкоў спантаных, літасці не просіш.*

*Паэзія, я да цябе ішла*
*Праз перавалы, рытвіны і холад,*
*І толькі мройны твой глыток цяпла*
*Спатоліў смагу і суцішыў голад.*

*І дапамог у гвалце перашкод*
*Асіліць вал дзяўяты неадноўчы,*
*Забыцца на хваробы і ўзрост…*
*І нас ужо нікому не сурочыць.*

*Паэзія — мая гаспода і мой храм,*
*Адзіны мой прытулак і збавенне,*
*Маё пітво — чароўны дурнап’ян,*
*Якому не разліцца без натхнення.*

## Прыстасаванцы

*Мяне расстрэльвалі ў вайну*
*І спальвалі з аднавяскоўцамі,*
*І лёс Сібіры закрануў —*
*Лесапавал і пах ядлоўцавы.*

*Я чула шэпты за сцяной,*
*Лёд пісталетны ля патыліцы,*
*Эксперыменты ўсе са мной*
*Раптоўна ў смех вар’яцкі выльюцца.*

*Ці ў гнеў, ці ў крык, ці ў вечны страх*
*За свет, сябе, нашчадкаў, музыку,*
*Якая цепліцца ў грудзях,*
*Шукаючы ў надзеі публіку.*

*Хаця б адзін свой чалавек —*
*З тваімі марамі і песнямі…*
*Расстрэл не скончыўся, і здзек*
*Прыстасаванцамі акрэслены.*

## Я вярнуся

***Я знайду дарогу назад,***
***пакуль вы будзеце***
***любіць мяне.***
***(В. Моцарт)***

*Як час на месцы не стаіць,*
*Як круціцца зямля у скрусе,*
*Пакуль вы будзеце любіць,*
*Я ад сябе да вас вярнуся.*

*Каб толькі сонцу не астыць —*
*Я кожнай тканкаю малюся.*
*Пакуль вы будзеце любіць,*
*І я пад сонцам застануся.*



*Пакуль вы будзеце любіць,*
*Ад шчасця я не адракуся,*
*Бо як без вас на свеце жыць?*
*Вы пачакайце — я вярнуся.*

## Адкуль?

*Вякамі не спазнаць той яснасці,*
*Перад якой пытанне ставяць:*
*Пасля сяброўскае адданасці*
*Адкуль гарачая нянавісць?*

## Асот і крапіва

*Дзе ягады маліны —*
*Заўсёды крапіва.*
*Там зайздрасць, здзекі, кпіны,*
*Дзе пекная ўдава.*

*Дзе залатыя ружы —*
*Расце густы асот.*
*Жыве з нікчэмным мужам*
*Пяшчота з года ў год.*

*А дарагі пярсцёнак*
*На пальцы пустальгі.*
*Гарыць шчаслівы золак —*
*Дзе холад і снягі.*

*І так па лёсе кружаць,*
*Нібыта двойчы два,*
*Маліна дзе і ружа —*
*Асот і крапіва.*

* * *

*Я размаўляю з нематой:*
*З нямымі сценамі і столлю,*
*З крыштальнай вазаю пустой,*
*Напоўненаю звонкім болем.*

*Я размаўляю не з табой,*
*Калі ўтрапёная, нямая.*
*Мне не патрэбны звонкі боль*
*І ваза на стале пустая.*

*Адмоўлюся ад нематы*
*І стану шчыраю з табою,*
*Як толькі вазу ўквеціш ты*
*І сэрца вызваліш ад болю.*

П'ЕСА

# КАШТОЎНАСЦЬ З АНТЫКВАРЫЯТУ

## КАМЕДЫЯ Ў ТРОХ ДЗЕЯХ

Ніл ГІЛЕВІЧ



*Дзейныя асобы*
Малей, Сцяпан.
Аліна, жонка Малея.
Бацян, Павел, сябар Малея.
Ганна, жонка Бацяна.
Шчэрба, Іван, сябра Малея.
Юзэфа, жонка Шчэрбы.

Дзея адбываецца ў Мінску ў пачатку 90-х гадоў XX стагоддзя.

### Дзея першая

Кватэра Малея. У пакоі жонка Аліна, сядзіць на тахце, нешта вяжа на спіцах. Заходзіць гаспадар — з нейкім досыць вялікім прадметам на руках, абгорнутым газетамі. Асцярожна апускае прынесенае на падлогу.

Малей (гучна выдыхнуўшы). Ху-у! Чуць прынёс. Спачатку здалася лёгкай, а пакуль прытэпаў ад аўтобуса, дык і хапіла…

Аліна (спыняе вязанне). А што гэта?

Малей. Зараз пабачыш. Узрадуешся. (Крыва ўсміхаецца). Гэта — тое, што дасталося на маю долю. Усё, што можна скарыстаць дома, забралі сабе начальнікі. І мэблю, і дывановыя дарожкі, і шторы з вакон, і карціны, — усё падзялілі між сабой начальнікі, хоць ужо яны і ніякія не начальнікі, — партыя забаронена, райкам ліквідаваны. Памяшканне перадаецца міністэрству, нібыта, спорту, ці якомусьці іншаму. Ну, а мне дазволілі на ўспамін пра службу ў райкаме ўзяць вось гэта. Непасрэдны мой шэф кажа: «Бяры, Сцяпан, і не сумнявайся, гэта, можа, самая каштоўная тут штука. Антыкварная, кажа, рэч!» Я, канечне, зразумеў яго кепікі. Але паглядзеў, паглядзеў — і не ведаю, што мне падшахнула, можа, нейкая злосць, — але кажу гэнаму: «Вазьму! Калі вам, членам райкама, нікому не трэба, — я вазьму». І ўзяў. Вось яно. (Бярэ і нясе невядомы прадмет на сярэдзіну пакоя. Адвязвае шпагаціну — і абгортка звальваецца на падлогу. Перад вачыма — высокая, амаль у метр вышыні, фігурыстая ваза; як і належыць, уверсе — крутабокая, але адзін бок, як бы счасаны, плоскі, і на ягонай паверхні — каляровы партрэт пажылога мужчыны, уласна — толькі твар. Ніжэй падбародка — надпіс: «Да 70-годдзя Генеральнага…». Выцягнуўшы з-пад вазы газеты, гаспадар, бачачы, як уражана жонка, шырока заўсміхаўся). Ну вось, глядзі, любуйся! Ты, мабыць, падумала, што я нейкі хлам прывалок. Ды не, даражэнькая! Выдатны твор мастацтва. Ваза ў гонар юбілею Генеральнага, з ягоным каляровым мардапісам… (Трохі пакруціў вазу — каб добра глядзеўся партрэт.)

Аліна (і ў здзіўленні, і ў збянтэжанні). Сцёпачка, што ты… прынёс? Нам патрэбна гэта ваза, ды яшчэ з такім партрэтам?

Малей (жартаўлівым тонам). Ты думай перш за ўсё, што гэта — высокай вартасці мастацкая каштоўнасць, антыкварная, як сказаў гэны, рэч. Можна сказаць, гістарычная рэч, прыўрочаная да вялікай гістарычнай даты, якая адзначалася па ўсёй краіне, усенародна. Не помніш хіба, як мы глядзелі па тэлевізары галоўныя ўрачыстасці ў Крамлі?

Аліна. Прабач, я ведаю і разумею, але… але нам — навошта яна? Яна нам спатрэбіцца?

Малей. Яшчэ як!

Аліна. Ну як? Ну для чаго?

Малей. А вось для пачатку хоць бы і для гэтага! (Хапае жонку абедзвюма рукамі ў пояс, падымае высока і ёмка садзіць на вазу).

Аліна (спалохана крычыць). Пусці! Здурнеў ты ці… Пусці! Што ты ўздумаў!..

Малей (рагочучы). Сядзі! Сядзі і не варухайся! А то кульнецца ваза, і ты грымнешся аб падлогу. Сядзі! Спакойна — як каралева на троне! А я трохі адступлюся і гляну, па-мойму, цудоўнае відовішча! Ну сапраўды — як каралева!

Аліна. Здымі! Сцёпачка! Ну хопіць дурачыцца! Хутчэй здымі!..

Малей (раптам выбухнуў рогатам). Аля! Алечка! Ай, што я бачу! Паміж тваіх мілых круглых лытачак — галава Генеральнага! Ай як ён здарова глядзіцца! І такі выраз твару — задаволены ўшчэнт! Дык дзіва што! Ушчаміць галаву паміж такіх ідэальных жаночых лытак — апупее ад шчасця любы, як той казаў, аматар!.. А тым больш гэты неўгамонны бабнік. Ты ведаеш, што ён быў страшны бабнік? Ведаеш? Мае начальнічкі, помню, пра гэта шапталіся.

Аліна. Ведаю. Але зараз жа здымі мяне! Лічу да трох — і буду саскокваць сама! Раз!..

Малей падбягае і здымае жонку з вазы.

Ну пажартаваў, павесяліўся, а далей? А што далей? Дзе дзенеш яе?

Малей. Дзе дзену? Трэба падумаць. Каб не гэты мардапіс — можна было б сапраўды прапанаваць антыкварнаму магазіну. Але цяпер з гэтым партрэтам на продаж яе не возьмуць: ніхто не купіць.

Аліна. Яе і дарма ніхто не возьме. Каму яна патрэбна, гэтая рагамедзіна, каб яшчэ і грошы плаціць. Хто цяпер будзе любавацца на гэтага Генеральнага? Хіба не бачыш, як і ў які бок крутанулася жыццё?

Малей. Яшчэ як бачу! Лепш за гэных, што па тэлевізары балбочуць. Бачу самае галоўнае: руку на дзяржаўную, то бок, народную маёмасць першыя паднялі партыйна-савецкія начальнікі. Першымі прыхватызатарамі сталі! Нахапалі, прыгрэблі да рук — божа мой мілы. Хто заводзік, хто фабрычку, хто напалам з замежным грашовым мяшком, хто магазін, хто бровар, хто рыбную гаспадарку, хто лясную… Вось што самае дзіўнае! Як і не трымалі каля сэрца дваццаць ці трыццаць гадоў білет з сілуэтам Ільліча! Дык у што верылі? Каму кляліся? Каму заклікалі верыць і клясціся? А як паграджалі радавым партыйцам за нейкія нібыта адступленні ад камуністычнай маралі… Ведаеш, Аля: сумленнаму савецкаму чалавеку можна з розуму з'ехаць ад думання пра ўсё гэта.

Аліна (смеючыся). Дык, мусіць, ты і пачаў ужо з'язджаць, калі прыпёр да дому гэту мастацкую каштоўнасць.

Малей. Не смейся. Бо, можа, і пачаў. Я, ты гэта ведаеш, нікога з правадыроў не шанаваў, — не бачыў, за што трэба аказваць ім высокі гонар, і да ўсіх апошніх ставіўся вельмі крытычна, да некаторых — нават насмешліва і з непрыязнасцю. Але яны ўвасаблялі вышэйшую партыйную і дзяржаўную ўладу. Я думаю пра тых маіх сяброў і знаёмых, якія так імгненна ад гэтай улады адвярнуліся. Чаму? Чаму так імгненна? Не я, а яны білі паклоны правадырам, сотні разоў спасылаліся публічна на іх аўтарытэт, цытавалі іх мудрыя прамовы і даклады… І раптам!..

Аліна. Можа — не шчыра? Можа — крывадушнічалі? Толькі дзеля кар'еры стараліся засведчыць сваю вернасць?

Малей. Калі гэта так — дык што ж выходзіць? Калі яны тут былі няшчырыя — дык а дзе, у якой іншай партыі, будуць шчырымі? Вось ад гэтага мне і страшнавата робіцца. Я не біў паклоны, не славасловіў… Але ж ёсць нейкія межы прыстойнасці. Вось усе мае начальнікі пакінулі гэту высока-каштоўную рэч з партрэтам у аголеным памяшканні; можна сказаць, выкінулі на сметнік, як непатрэбшчыну. А я — забраў. Хоць мне, для маёй душы, яна тым больш непатрэбная.

Аліна (усміхаючыся). Непатрэбная — а ўзяў. Чаму? Навошта?

Малей. Я ўжо сказаў, прыйшоўшы, і паўтару: мабыць, ад злосці зрабіў гэта. Не ведаю. Але, відаць, ад злосці. Ці бач: на маю долю адшкадавалі гэту пасудзіну. Гэта (паказвае на вазу) — мая доля. Мая! Іхняя доля — іншая.

Аліна. Ды не бяры ты гэтак да сэрца! Супакойся. Падумай лепш, што з ёй рабіць, куды сплавіць. У які-небудзь гістарычны музей? А чаму і не?

Малей. Слухай! Мне прыйшла ў галаў выдатная ідэя. Я падару гэту антыкварную рэч самаму партыйнаму з маіх сяброў Бацяну Паўлу! Праз тыдзень у яго дзень нараджэння, ён ужо напомніў мне пра гэта, і выказаў упэўненасць, што мы з табой прыйдзем да іх.

Аліна. Гаворыш абы што! Хочаш пасварыцца з добрым чалавекам? Ды і яго Ганну пакрыўдзіць?

Малей. Вось самае дзіўнае будзе тое, што ён, як вельмі сур'ёзны партыец, шчыра ўзрадуецца майму падарунку.

Аліна. Быў «вельмі сур'ёзным», а што ў ягонай душы сёння — адзін Бог ведае. Думаеш, ён табе кажа ўсю праўду?

Малей. Досыць таго, што ён не прыняў сённяшняга дзікага капіталізму. Усе яго сімпатыі — там, у тым мінулым часе.

Аліна. Ну, глядзі. Ой, глядзі, Сцёпачка!..

*Заслона*

### Дзея другая

Гасціны пакой у кватэры Паўла Бацяна. Гаспадар і гаспадыня запрашаюць гасцей — Малея і Аліну.

Ганна. Заходзьце, даражэнькія, заходзьце! От малайцы: першыя прыйшлі!

Жанчыны цалуюцца, і Аліна перадае Ганне невялікую картонную каробку.

Аліна. Тут крышталёвыя кілішачкі. Можам сёння і абнавіць. Гэта, можна сказаць, — ад мяне, а што прынёс Сцяпан — я не ведаю. Сам скажа.

Сцяпан стаіць за Алінай і трымае на руках нейкі загорнуты тоўстай белай паперай высокі і досыць аб'ёмны прадмет.

Малей. Скажу, скажу! Дайце толькі паставіць спачатку на падлогу, бо магу і упусціць — рукі самлелі.

Павел і Ганна заінтрыгавана глядзяць — то на таямнічы прадмет, то на Малея. Ніхто ніколі гэтага памеру падарунка ім не прыносіў.

Бацян. Ты што — з нейкім фокусам прыйшоў?

Малей. Усё пакажу і скажу. Але ж, можа, спачатку павітаемся?

Мужчыны горача паціскаюць адзін аднаму руку і абдымаюцца. Малей падае руку Ганне і далікатна цмокае ў шчочку.

Дайце я пастаўлю свой падарунак на відным месцы — каб глядзеўся як здзяру абгортку. (Бярэ таямнічы прадмет і пераносіць яго на сярэдзіну пакоя). Вось так. Але не спяшайцеся. Спачатку, пакуль нікога з гасцей няма, я хачу табе, Павел, растлумачыць маю задуму. Гэтую рэч я купіў для цябе ў антыкварным магазіне, і за не малыя грошы, але яна таго вартая. Гэта — выдатны твор мастацтва, выдатны! Убачыце — ахнеце! А яшчэ больш ахнеце, калі ўбачыце, якую сэнсавую, ці, лепш сказаць, ідэйную адметнасць яна мае. Павел, я пра цябе амаль усё ведаю, і ты перада мной можаш не таіцца. Ты — з партыі і да сёння не выйшаў, так?

Бацян. Раз ты ўсё ведаеш, дык нашто пытаешся? Не выйшаў і не збіраюся выходзіць. Я — не перабежчык. І не рэнегат.

Малей. Партыйнай справе служыў сумленна. Статут не парушаў?

Бацян. Нейкія дзіўныя пытанні задаеш… Куды ты хіліш, не магу здагадацца? Што за допыт?

Малей. Спакойна, спакойна, браток, яшчэ адно пытаннечка — і ўсё. А правадыроў партыі ты паважаў, цаніў? І якой думкі пра іх ты сёння?

Бацян. Не ўсіх аднолькава цаню і не аднолькава гляджу на кожнага сёння. Мы з табой не раз пра гэта гаварылі. Хто быў вельмі жорсткі, хто наогул крыважэрны, хто не надта разважны і бізікаваты, хто памяркоўны і як чалавек не благі, а хто проста недарэка, узнесены воляй лёсу на вышыню, а каго я так і не зразумеў належна, можа, яшчэ разберуся…

Малей. Усё, браток, усё! Я так і думаў. І, дзякаваць Богу, не пралічыўся. Прашу, дарагія сябры, увагі!

Ідзе да прынесенага падарунка і пачынае яго «распранаць», але — засланяючы сабой ад прысутных. Спрытна разадраў і згарнуў паперу, адступіўся трохі ў бок — і перад вачмі Бацяна і Ганны паўстала ўжо знаёмая нам ваза.

Але — не тым бокам, дзе партрэт. Першая «ахнула» Ганна.

Ганна. Ай, якая прыгажосць! Паўлік, ты бачыш? Яна ж, пэўна, фарфоравая!..

Малей. Канечне, фарфоравая! З гліны такія рэчы не вырабляюцца. Я ж казаў: ахнеце! Мастацкая каштоўнасць высокага класа. Дадам адразу: і гістарычная каштоўнасць! Так-так! Гэта унікальная штука — красамоўны факт слаўнай гісторыі той вялікай дзяржавы, у якой мы ад нараджэння жылі і якой нядаўна не стала.

Бацян. Нешта не цямлю, чаму яна — факт гісторыі ды яшчэ і красамоўны.

Малей (шырока ўсміхаючыся): Гэ-гэ, Паўлючок! Зараз уцяміш! Адну секунду цярпення!

Падыходзіць да вазы і паварочвае яе да прысутных тым бокам, дзе партрэт. Глядзіць на здзіўленых і нават трохі разгубленых гаспадароў вачыма пераможцы.

Ганна. Дык гэта ж... дык гэта ж, па мойму, гэны!... (Пераводзіць позірк на Паўла). Ці мне здалося?..

Бацян. Нічога не здалося. Гэны! Гэны самы!..

Ганна (пераводзіць позірк на Малея, тады на Аліну, і зноў на Малея). Дык гэта... нам... такі падарунак?

Малей. А што? Хіба не падабаецца?

Ганна. Не, падабаецца, прыгожая... Але... Не знаю, як сказаць... Ну, нейк... страшнавата троху... Гэта ж гэны! Сам гэны на партрэце!..

Малей. Дык я ж і сказаў, што гэта не толькі мастацкая каштоўнасць, але і гістарычная! Ваза з партрэтам знакамітай гістарычнай асобы! Ды гэтай вазе цаны не будзе праз які дзясятак гадоў, а тым болей праз два дзясяткі!..

Ганна. Дык а як з ёй абыходзіцца, калі гэта такая гістарычная каштоўнасць? Дзе яе паставіць, дзе трымаць?

Бацян (трохі ў раздражненні). Бяры, Ганна, госцю і вядзі ў залку, да стала. А з гэтым (ківае на вазу) я сам разбяруся, і як абыходзіцца, і дзе паставіць...

Ганна з Алінай выходзяць.

Малей. А што гэта, Павел, пакуль Ганна ахала і охала, ты ўвесь час маўчаў?

Бацян. Чаго маўчаў? Задумаўся: чым я табе за такую каштоўнасць аддзякую? Уяўляю, якія ты ўпёр грошы! Перастараўся ты, браток, перастараўся. Я такога падарунка, такой пашаны і гонару не заслугоўваю. Гэта — каб якому высокаму партыйнаму чыноўніку! Во, было б у самы раз! А я... што я? Лічу — радавы партыец. Паверыў, яшчэ маладым будучы, у светлае заўтра чалавецтва — і да гэтага часу не разуверыўся. І за гэта паважаю сябе.

Малей. Дык я табе дагадзіў гэтым партрэтам? Ці не зусім?

Бацян. Ну што ты да мяне прыстаеш? Я табе пра высокую веру ў светлае заўтра, дзе будзе панаваць братэрства людзей працы, а ты мне пра партрэт Генеральнага.

Малей. Дык ты ж пад ягоным сцягам верыў у светлае заўтра, па ягоных закліках ішоў туды!

Бацян. Чаму пад ягоным? Сцяг быў да яго і застаўся пасля яго — адзін і той жа. Правадыры мяняліся, а сцяг — сцяг не мяняўся.

Чуваць званок у дзверы.

О, ідуць яшчэ мае госці! Прабач, прадоўжым гутарку калі-небудзь пасля. Прайдзі, калі ласка, у залку.

Малей знікае за дзвярыма «залкі». Бацян хапае вазу, пераносіць яе ў кут і накрывае схопленым з тахты пледам. Настойліва звініць званок.

Іду-іду, мае дарагія! Іду! (Знікае ў дзвярах).

*Заслона*

## Дзея трэцяя

Дэкарацыя дзеі першай — ужо знаёмы гледачам пакой у кватэры Малея. З суседняга пакоя выходзяць гаспадар і гаспадыня, абое — у святочным убранні, асабліва Аліна.

Малей. Усё на стол выстаўлена? Нічога не забылася?

Аліна. Здаецца, усё. Халодныя закускі — усе. Ну а гарачае таксама гатова, толькі падагрэю трохі, як чарга дойдзе.

Малей. Прысядзем, пачакаем. (Садзяцца на тахту.) Цікава, хто заявіцца першы. Давай на заклад — хто?

Аліна. Я і без заклада ведаю. Канечне ж, Шчэрбы: ніколі не было, каб хтосьці іх апярэдзіў.

Малей. Было! Ты проста забылася. Было, што і Бацяны першыя прыходзілі.

Аліна. Адзін раз за дваццаць гадоў.

Малей. Але ж было.

Аліна. Шчэрбы — надта акуратныя ў гэтых адносінах. І ён, і яна.

Малей. Партыйная дысцыплінка. Абое — з маладых ногцікаў работнікі апарата. Як гэта кажуць: вышкаленыя апаратчыкі. Адсюль і пунктуальнасць.

Аліна. Адзін ты нявышкаленых застаўся. Так і не пранікся партыйнай дысцыплінай.

Малей. Колькі ж я пабыў у апараце? Позна заўважылі маю міласць, позна пачалі вылучаць.

Званок у дзверы. І Малей, і Аліна падхопліваюцца з тахты, Сцяпан ідзе сустракаць гасцей. У суправаджэнні гаспадара ў пакой заходзяць Іван і Юзэфа Шчэрбы. У Івана на руках — масіўная, вышынёй у метр з гакам, картонная каробка.

Аліна (да мужа, голасам пераможцы). Ну, што я казала?

Юзэфа. А што ты казала, мілачка? (Цалуецца з Алінай).

Аліна. Што першыя Шчэрбы прыйдуць. Самыя культурныя нашы сябры!

Іван ставіць на падлогу каробку і вітаецца з гаспадарамі: Аліне цмокае ў ручку, Сцяпана прыгартае да грудзей.

Юзэфа. Дазвольце ўручыць нашы падарункі. Па-першае, дай Ваня сюды каробачку (Іван выцягвае з кішэні і падае жонцы элегантную пляскатую каробачку), па-першае, вось гэта: дзве сярэбраныя лыжачкі, каб чаёк папіваць было прыемна (перадае каробачку Аліне); а па-другое — паколькі Сцяпан Пятровіч нарадзіўся якраз напярэдадні вялікага свята Кастрычніка, — дык і падарунак ад нас высокага грамадскага гучання, падарунак-сімвал, увасабленне той сістэмы, у якой мы жылі і якой служылі, у тым ліку і (глядзіць на Малея) наш дарагі імяніннік. Адчыняй, Ваня, каробку і — хай нашы сябры парадуюцца. Унікальная, скажу вам, рэч! За унікаварным купілі. Разам выбіралі, думалі, што б такое арыгінальнае падарыць вам. Ну і вось, выбралі: на ўсю Беларусь толькі ў вас такі цуд мастацтва будзе!



Іван успорвае верх каробкі. Малей увесь гэты час слухае Юзэфу і зіркае на каробку з відочнай устрывожанасцю. Калі госць выняў з каробкі і паставіў на падлогу тую самую вазу, што колькі тыдняў таму ўжо стаяла тут — па твары Сцяпана пайшлі грымасы пакутлівага болю. Затым ён пачаў смяяцца, але якімсьці ненатуральным сутаргавым смехам, усё грамчэй і грамчэй, і нарэшце зайшоўся рогатам і гупнуў на тахту, адкінуў галаву на спінку і працягваў рагатаць. Іван і Юзэфа, нічога не разумеючы, пераглядаюцца між сабой, глядзяць на Сцяпана, на Аліну, якая і сама спалохана глядзіць на мужа.

Аліна. Сцёпа, Сцёпа, што з табою? Ты чаго?

Малей (праз рогат). Доля!.. Доля!.. Я ж табе гаварыў, што гэта мая доля! Во! (Паказвае рукой на вазу). Во яна, мая суджаная! Хацеў перахітрыць сваю долю? Усурычыць яе камусьці іншаму? Дудкі, брат! Дудкі! Доля — ёсць доля! Ад Госпада Бога табе дасталася!..

Шчэрба (з нотаю крыўды і незадаволенасці ў голасе). Што ўсё гэта значыць, Сцяпан? Як мы павінны разумець твой дзіўны рогат?

Малей. Не разумееце, чаго я рагачу? Што гэта значыць? А вось што гэта значыць! (Падхопліваецца з тахты, падбягае да Аліны, хапае яе ў пояс, падымае на руках і ў момант вока садзіць на шырокі раструб вазы — як ужо гэта аднойчы, не так даўно, рабіў).

Аліна. Ты звар'яцеў! Сцяпан! Што ты вытвараеш! Людзей пасаромейся!

Малей (адступіўшы ад вазы). Бачыце? Каралева на троне! Любуйцеся! (Да Аліны). Лытачкі, лытачкі развядзі трохі, каб відаць было! Каб і сябры пабачылі, як глядзіцца фізія Генеральнага паміж бабскіх лытак!

Шчэрба зірнуў на Юзэфу, ледзь-ледзь кіўнуў галавой назад, на дзверы, і яны павярнуліся, каб пайсці прэч.

Аліна (закрычала амаль на ўсю сілу). Не! Стойце! Стойце! (І саскочыла з «трону». Ваза кульнулася і пакацілася. Госці на крык Аліны спыніліся. Сцяпан, знямоганы ад рогату, сеў на тахту і абшчапіў лоб рукамі).

Юзэфачка! Іван Кузьміч! Ну куды ж вы! Гэта... ну лічыце жарт неразумны. Ой, Божа мой! Хадзіце ў залку, да сталоў! Хадзіце!

Падымаецца з тахты Малей. Моўчкі падыходзіць да гасцей.

Малей (апусціўшы галаву). Даруйце, мае дарагія, даруйце. Сарваўся, халерачка. Нешта як надарвалася вось тут (прыкладае пецярню да сэрца). Ці, можа тут? (Падносіць долонь да ілба). Нешта не вытрывала. Шрубка з разьбы саскочыла. Мабыць, занадта доўга круцілася — і ў галаве, і ў сэрцы. Ці не ў той бок павярнулася. Жыццё павярнула. Я гэта ўжо даўно адчуваў. Даруйце мне, мае дарагія, даруйце! Усё добра. Усё будзе добра. Аліначка правядзі гасцей у залку. А я пастаўлю цудоўную вазу, дзе трэба.

Аліна праводзіць гасцей у суседні пакой. Малей кідаецца да вазы, падымае і ставіць пасярод пакоя — партрэтам да дзвярэй, каб усе, што будуць заходзіць, адразу ўбачылі.

Вось тут і стой. І красуйся. Раз ужо такая мая доля — дык чаго ж?! Долю не выбіраюць. Доля дастаецца з паяўленнем на свет. Я пры табе нарадзіўся, цябе і прыняў, і ты стала маёю. (Як бы звяртаецца да прысутных — да залы). Ну, праўда ж?

*Заслона*

**1994**

*Народны паэт Беларусі Ніл Сымонавіч ГІЛЕВІЧ 30 верасня адзначае свой 81 дзень нараджэння. Шчыра жадаем нашаму паважанаму аўтару здароўя, новых твораў — і беларускай радасці!*

---

**ЗАКУЛІССЕ**

# НЕ ПАЗНАЮЦЬ, ТО ПАПЫТАЮЦЬ

**Уладзімір СІЎЧЫКАЎ**

**«Тэатр пачынаецца з вешалкі», — казаў знакаміты расійскі рэжысёр.**

Ягонае выслоўе пра гардэроб прыгадалася днямі, калі чарговы раз наведаў бібліятэку. Не скажу якую, бо гаворку вяду пра рэч больш вузкую (і ў літаральным сэнсе!), але размешчаную акурат насупраць бібліятэчнага гардэробу. Даўжэзны вузкі плакат кідаецца ў вочы, — яго не прамінеш, калі кіруешся ў чытальную залу або ў абанементны аддзел...

Паэт Уладзімір К. майстравіта паправіў колькі радкоў паэта і кіраўніка беларускага Саюза пісьменнікаў (у 30-х гадах) Міхася Клімковіча, «асучасніў» яго — і такім чынам стаўся суаўтарам дзяржаўнага гімна!

Файная практыка!

Спадарове беларускія паэты! Заклікацьму Вас на неўзаранае поле класікі! Берыцё верш Купалы, Коласа, Багдановіча, Гаруна, Дубоўкі, мяняеце ў ім некалькі радкоў і (ноў-хаў маё, хоць і падказане спадаром Уладзімірам К!) становіцеся суаўтарам класіка!

Ну, а калі сур'ёзна, дык не разумею, чаму дагэтуль паэтаў унук Максім Клімковіч не падаў у суд або не плюнуў у вочы з-за парушэння дзедавых аўтарскіх правоў Уладзіміра К.!

Тым болей, што тэкст Міхася Клімковіча, досыць арганічны на свой час, выглядае ў рэдактуры Уладзіміра К. як мінімум дэкларатыўным, недарэчным, а месцамі і алагічным.

Беларусы — мірныя людзі, але яны ж гэтаксама і ўдзельнікі бітваў за долю, бітваў за волю! Аналітычнае вока можа зрабіць яшчэ нямала падобных тэкстaлагічных адкрыццяў!

Спачуваю мастаку-аздабляльніку бібліятэкі, здаецца, разумею, чаму не хапіла яму сілы паставіць клічнік у апошнім радку.

Не дзіўлюся таксама, што не спяваюць словы гэткага «шэдэўру», да прыкладу, беларускія футбалісты. Здагадваюся гэтаксама, чаму пад такі гімн і ў гэткай безгустоўнай, антыэстэтычнай, савецка-ісламскай экіпіроўцы прайграюць прэстыжныя спартовыя спаборніцтвы.

Пра іншыя спаборніцтвы на міжнароднай арэне казаць наогул не выпадае...

▸ АПОВЕД

# НОЧ СВАБОДЫ

Міхась БУЛАВАЦКІ

Уявіце сабе чалавека ў койцы, загіпсаванага ад пояса да пяткі на адной назе і да калена на другой. У гэтай койцы праходзіць усё ягонае жыццё. Сюды прыносяць ежу, прыносяць сякія-такія забаўлянкі, прыносяць судно ці «вутку» для натуральных патрэбаў і нават падкладваюць іх куды трэба, каб ён гэтыя патрэбы змог задаволіць. Было мне тады восем гадоў, і ляжаў так я ўжо тры гады, і ляжаць мне, як пазней выявілася, наканавана было яшчэ чатыры… Гіпс, натуральна, быў не заўсёды. Яго праз тры месяцы зразалі, каб нага магла адпачыць і адрасці, але праз пэўны час загіпсоўвалі зноў. Гэтыя прамежкі без гіпсу былі ўжо глытком свабоды, якую я скарыстоўваў мабыць занадта актыўна. Бо каму ў такім узросце не хочацца рухацца, — ну хаця б вось перакульнуцца ў койцы! І ўрачы досыць хутка апранալі маю нагу ў новую гіпсавую нагавіцу.

Такіх, як я, у палаце Чачэвіцкай дзіцячай косцева-сухотнай санаторыі было каля двух дзясяткаў — цэлы клас. Не мы хадзілі ў школу, а настаўнікі прыходзілі да нас і вучылі нас чытаць і пісаць алоўкам у сшытку, прыкладзеным да кавалка фанеры (аловак знізу, папера з фанеркай зверху). Настаўнікі, медсёстры, нянечкі з'яўляліся ў нас нібыта з нейкага іншага свету, зайздроснага сваёй недасягальнасцю, і туды ж зыкалі. А мы заставаліся ў межах чатырох сцен, знізу да паловы зялёных, зверху белых, белай столі і падлогі, колеру якой ужо й не помню. Койкі былі на катках, дзякуючы якім нас дастаўлялі на працэдуры, а летам з усіх палат выкочвалі на дзень на адкрытую прасторную веранду пад навесам. Так ішло наша жыццё з сваімі маленькімі крыўдамі і радасцямі, з праявамі дзіцячай гарэзлівасці і свавольства, за якое магло наступіць і пакаранне: свавольніка выкочвалі ў калідор і пакідалі там пасумаваць нейкі час аднаго.



Аднойчы, ужо даволі позним часам, калі выхавацелька павінна была пакласці нас спаць і сыйсці дадому, нейкая гарэза напала на мяне. Я з кімсьці гучна гаманіў, смяяўся, выхавацелька спрабавала мяне супакоіць — і ўрэшце прыгразіла выкаціць мяне на ноч у самы дальні і цёмны куток калідора. Каб прадухіліць такое, я звязаў ручніком сваю койку з койкай суседа і працягваў свавольнічаць. Разгневаная выхавацелька пачала тузаць маю койку, але яна не паддавалася, і гэта веселіла мяне яшчэ больш. Урэшце яна разабралася, у чым справа, і, яшчэ больш раззлаваная, рэзкімі рыўкамі развязала вузел ручніка і пакаціла маю койку ў калідор. Потым, мабыць, вырашыла, што калідор — слабое пакаранне, і пакаціла мяне далей на веранду, пакінуўшы там аднаго пасярод пустой цёмнай прасторы. «Паспіш адну ноч тут!» Праз хвіліну вярнулася, памарудзіла, мабыць, чакала, што буду плакаць і прасіцца, але я маўчаў. І яна, накрыўшы мяне яшчэ адной коўдрай, сыйшла ўжо беззваротна.

Я застаўся адзін. Было і страшна, і цікава. Я прыслухоўваўся да гэтай цішыні і не адчуваў яе варожасці. Пачаў азірацца — і пашкадаваў, што яна не падвезла мяне да парэнчаў веранды. Адтуль было б бачна і неба з месяцам і зоркамі, і жвіровая дарожка вакол будынка, і клумбы з кветкамі за ёй… Як туды пад'ехаць? Для гэтага трэба злезці з койкі. Але… Што можа тут зрабіць загіпсаванае дзіця з недаразвітымі цяглiцамі? З гэтай койкі я не злазіў ужо тры гады, у патрэбных выпадках мяне здымалі. І нават сам намер злезці ўспрымаўся ўжо як пасягненне на нешта забароненае. Акрамя таго, перакуліцца праз бакавіну койкі я мо й змог бы, але ж, падаючы на падлогу, нараблю грукату сваім гіпсам. І нават калі гэтага грукату не пачуюць, як потым залезці назад? Змерзнуць на падлозе і пакліkaць на дапамогу? Гэтага вельмі не хацелася! І магло абярнуцца яшчэ большым пакараннем, хаця якое можа быць большае пакаранне — я не ведаў.

Але, як кажуць, вочы баяцца, а рукі й ногі робяць. Цікаўнасць пераважыла страх. Я вызваліўся з-пад коўдраў, падсунуўся да краю і пачаў рабіць упартыя спробы перакінуць загіпсаваную нагу праз жалезную бакавіну койкі. Стаміўшыся і не дасягнуўшы поспеху, спыніў спробы і задумаўся. Ідэя знайшлася. Я прыўзняўся на адной руцэ, а другой пазапіхаў пад крыжавіну скамечаныя коўдры. Так утварылася апора падважніка. Калі я, змораны гэтай няпростай працай, апусціў плечы на ложак, нага задзірыста ўзнялася, і лёгкім паваротам я занёс яе над бакавінай. Асцярожна паварочваючыся далей, я змог заняць становішча ўпоперак койкі. Ногі віселі над падлогай, а рукамі я трымаўся за другую бакавіну. Адпусціць рукі — азначала нарабіць грукату і, магчыма, пабіцца самому. Гэтага не хацелася, але што рабіць далей, я не ведаў. Давялося вярнуцца назад і паўтарыць тое ж, толькі ўжо носам уніз. І не пасярод койкі, а каля яе спінкі. Трымаючыся за гэтую спінку, я пачаў павольна пасоўваць гіпсавае тулава праз бакавіну. Самым небяспечным было становішча, калі гіпсавая павязка канчалася і на жалязяку леглі б мае рэбры. Я разумеў, што рэбры трымаць маю загіпсаваную масу не змогуць, і тады трэба як найхутчэй саскочыць. Але лёгка сказаць «саскочыць». Я ссунуўся, здзіраючы скуру з грудзей, і калі ногі дасягнулі апоры, койка паехала на мяне — і я павіс на руках пад ёй у нахіленым стане.

Але гэта быў ужо вынік!

Я адпачываў на падлозе і шукаў план далейшых дзеянняў. Заняць вертыкальнае становішча каля няўстойлівай койкі было няпроста. І я папоўз па падлозе, пакідаючы за сабой белы гіпсавы след і падштурхоўваючы за сабой койку. Так мы разам з ёю дабраліся да парэнчаў, аздобленых кратамі з касых планак. Гэтыя краты дапамаглі мне падняцца і праз доўгую серыю розных спробаў забрацца зноў на койку. Я ляжаў і адпачываў, як чалавек, прыемна стомлены паспяховай працай. Працай, на якую я патраціў, мабыць, не адну гадзіну часу.

Уся санаторыя спала. Мне ж спаць не хацелася. Я ўглядваўся ў нязвыклыя і таямнічыя краявіды зорна-месячнай ночы, услухоўваўся ў яе дзівосныя гукі, успрымаў прыемна-прахалоднае казытанне ветрыка і пахі, якія ён мне даносіў. Потым пачаў, падцягваючыся за парэнчы, пераязджаць на новыя месцы. Койка паслухмяна каціласа, каткі ціха павіскваlі. Мне захацелася хуткасці, і я пачаў штурхаць койку рэзкімі рыўкамі, пераязджаючы з аднаго канца веранды да другога. Маё задавальненне можа зразумець той, хто ўпершыню сеў за руль аўтамабіля ды імчыць па шырокай дарозе, націскаючы педаль газу. Накатаўшыся ўдосталь, я пад'ехаў да сходніка, які злучаў веранду з дарожкай, павярнуў на гэтую нахільную плоскасць і… доўга не рашаўся адпусціць рукі. Але ўсё ж адпусціў. Койка, набіраючы хуткасць з горкі, прашамацела каткамі па жвіру дарожкі і спынілася паміж клумбамі.

Вакол мяне былі кветкі, за імі шапацелі лістотай дрэвы, а наа-даа мнооой… О, нада мной была не белая столь палаты!.. Недзе далёка-далёка і ў той жа час зусім блізка — працягні руку й памацай! — нада мной было чорнае неба, усыпанае блёсткамі зорак. Яны падміргвалі мне! Мне! Мабыць, радаваліся, што я з імі. І, здаецца, нават звінелі. Так, зоркі звінелі-смяяліся, і я ўсміхаўся ім насустрач.

Я ўжо не помніў пра ложак, у якім ляжаў, не помніў пра санаторый, — я быў між зорак. Я лётаў між імі, я гуляў з імі, я размаўляў з імі…

Я спаў шчаслівым сном свабоднага чалавека.

▸ ВЕРШЫ

# КАМЕНЬ І КАСА

Сяргей УКРАІНКА

* * *

*Прасую набожнік мамін:*
*паганскае сонца на белым*
*(васьмінітовы абрус!)...*
*Ты думала: Нехта явіць.*
*Ты ведала: Нехта правіць.*
*Ты бачыла: Нехта навіць.*
*Скажы мне нарэшце:*
*ён — хто?..*

* * *

*Дубцом дубовенькім,*
*дубцом выганяю сваю маладосць.*
*А яе не прагнаць жа, бедную:*
*Над возерцам маім*
*вечаруе,*
*як ні ноч — мае сны падпільноўвае,*
*і ўсё шэпча мне (прыхаджанцу!)*
*пра вечнае.*

* * *

*Вылічыўшы працягласць імгнення,*
*хáпнуўся за валасы…*
*Час, пачакай, калі ласка!*

* * *

*Сказала суцэшным голасам:*
*«Маўчы, я табе ўжо не жонка.*



*Ды нават ужо і не сябар.*
*Я — твой нявечны анёл».*

* * *

*Камень.*
*Каса.*
*Мянташка —*
*наша з табою жыццё?*

* * *

*…Надзея выжыць спачыла ў бозе,*
*калі, падобна глухой сцяне,*
*усе тапельцы Святога возера*
*пасталі кругам вакол мяне.*

*Сутонне рэдзілі ўсцяж зарніцы.*
*Сіпелі гады ў гнілых лаўжах.*
*А я, самлелы, глядзеў дурніцаю*
*на ўцеляснёны ў пачварах жах.*

*Ды ўсё ж ачуцца было мне суджана*
*расяным досвіткам. На траве.*
*З дзявочым голасам, што прастуджана*
*хрыпеў у хворай маёй галаве:*

*«Ты ж чуеш, дзядзька, мяне, вядома,*
*хоць розум твой і блукае дзесь.*
*Хай у змарнелай тваёй свядомасці*
*Умолле гэта не прападзе.*

*Ніхто не быў з нас раднёю Каіна —*
*не вінаватыя мы ні ў чым,*
*а толькі возера не адпускае нас,*
*хоць і завецца яно Святым.*

*Каб душы нашы знайшлі дарожачку*
*ці ў рай, ці ў пекла — Яму відней, —*
*ты памаліся за нас, нябожачкаў.*
*Ты памаліся.*
*Хаця б у сне».*

* * *

*Горад цярплівы*
*з душою самотнай жанчыны,*
*ты хоць пасмейся нарэшце з хлапца-дзівака:*
*ён жа цябе называе*
*«заўсёдны прычынаю»*
*бедаў,*
*якія ў няпростым жыцці напаткаў.*

*Ты выбачай,*
*што цікаўным расказвае з гонарам*
*казку*
*пра лёгкае шчасце ў «чужой» старане:*
*быццам не ён пераехаў на ціхую ўскраіну*
*горада,*
*а Магілёў адступіў,*
*бо не змог перасіліць…*
*(мяне).*

* * *

*Марыў пра Монтэ-Карла,*
*а жыву ў Монтэ-Крыста*
*і вязніцу прымаю*
*з будзённай пакорай,*
*бо душа, перацятая дротам сталістым,*
*патанула ў смузе*
*Герадотава мора.*

*Стыць бяздушным цяжэй,*
*чымся тлець бездухоўным —*
*той прывык абыходзіцца*
*чаркай ды шкваркай.*
*А вось бачыш, і мне*
*стала ўрэшце ўсё роўна,*
*хто сядзіць на плячы —*
*ці анёл, ці пачварка.*

* * *

*Учора галава мая сівая*
*у аднача́ссе парусела зноў.*
*Не ведаў я раней, што так бывае,*
*хаця свет ясна-белы абжываю*
*даволі доўга — пяцьдзясят гадоў.*
*Ніхто з найбліжэйшых не ўздыхнуў у скрусе,*
*што я дасніў нарэшце кляты сон…*
*Убачыўшы крыжы над Беларуссю,*
*я, жахам набрынялы, не прачнуўся.*
*Затое стаў русявы, нібы лён.*

MEMORIA

# ЯК МЕЛЬНІКАВА МАЛОЛІ І НЕ ПЕРАМАЛОЛІ

24 верасня на 89-м годзе жыцця спачыў у вечнасці сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў, ветэран Вялікай Айчыннай вайны, кандыдат філалагічных навук, лаўрэат прэміі імя Алеся Адамовіча, старшыня Грамадскага аб'яднання ветэранаў вайны, працы і ўзброеных сіл, ініцыянар стварэння ў Гародні музея Васіля Быкава і яго ны нястомны апякун Мікалай МЕЛЬНІКАЎ.

Яго непрымірымае да дзяржаўнай няпраўды і нацыянальнага нігілізму слова ў апошнія дзесяцігоддзі часта не давала спакою беларускім чыноўнікам — розных узроўняў і масцей.

Выказваем шчырыя спачуванні родным і блізкім Мікалая Аляксандравіча.

Вечная памяць!



Данута БІЧЭЛЬ

…Мікалай Мельнікаў і Васіль Быкаў былі добра знаёмыя, калі жылі ў Гародні. Быкаў бываў у кватэры Мельнікавых на вуліцы Вольгі Соламавай. Даследчык творчасці Васіля Быкава, «быкавец» — так называе Мельнікаў, Леў Ішаевіч Азерман, знаёмы Мельнікава з Масквы па аспірантуры, прыехаў у Гародню, спыніўся ў Мельнікава, куды запрасілі Васіля Уладзіміравіча. Яны доўга размаўлялі, пасля той размовы маскоўскі даследчык праводзіў у Маскве ўрок па творчасці беларускага пісьменніка-франтавіка.

Прайшло шмат часу. Калі Васіль Быкаў склікаў «Мартыралог Беларусі», Мельнікава як ветэрана вайны запрасілі на ўстаноўчы сход, ён сядзеў у прэзідыуме побач з генералам…

Да Ларысы Геніюш Мікалай Аляксандравіч трапіў з баранавіцкімі сябрамі па сталінскіх лагерах. Ларыса Антонаўна падпісала жонцы Мікалая Мельнікава Клаўдзіі кнігу, падаравала аўтограф верша «Братам у няволі» — Мельнікаў і быў яе братам па няволі. Жонка Мельнікава Клаўдзія родам з суседняга хутара на Магілёўшчыне, яе бацька дапамагаў раскулачаным. З ёю Мікалай пазнаёміўся на вясковай вечарыньцы, а пасля вайны яны разам вучыліся ў Магілёўскім педінстытуце.

Мельнікаў старэйшы за Быкава на некалькі месяцаў (нарадзіўся 26 лютага), абодва з 1924 года. І ў жыццёвай долі абодвух шмат агульнага — асабліва зняважаў і крыўдаў, якія ім чынілі бальшавікі. Абодва ў дзяцінстве галадалі не з-за дрэнных бацькоў, а таму, што ў іх бацькоў вырывалі з рук апошні кавалак хлеба, які яны мелі са свае працы. Абодва былі прысланыя на наш Кляновы лісток пражыць нармальнае жыццё, ды злыя сілы ім перашкодзілі, але праз свой талент, розум, волю і любоў да жыцця яны прайшлі ўсе пакуты і выпрабаванні, пакінулі духоўную спадчыну. Кожны — у сваю меру…

Мельнікаў стаў педагогам. Можа, ён зусім не пісаў бы, каб вырас на Восіпавым хутары каля вёскі Брады на Магілёўшчыне, а быў бы хлебаробам, калі б дзед дазволіў яму дакупіць зямлі, бо надта было іх шмат на гаспадарцы. Праўда, родны дзядзька Прохар складаў гумарыстычныя вершы, частушкі і словы для «лагерных» песень, якія прысылаў з няволі на Магілёўшчыну роднай сястры Марыі. Грузіў у Архангельскім порце лес на замежныя караблі. У 1957 годзе Прохар спрабаваў уцячы, але зваліўся ў ваду і патануў, не выключана, што яму «дапамагла» ахова…

Я перачытваю тры кнігі ўспамінаў Мікалая Мельнікава «Адчай, боль і горыч» (Гародня, 2004), «Вяртайцеся, буслы» (Менск, «Кнігазбор», 2008), «Радавод» (Менск «Кнігазбор», 2009), якія ён выдаў невялікім накладам пераважна за свае пенсійныя зберажэнні і за дапамогу розных ахвярадаўцаў. Мельнікаў пачаў пісаць свае ўспаміны тады, калі пісьменнікі з-за ўзросту ўжо пакідаюць пісаць. Але ў яго раней не было магчымасці.

Калі кніга кранае за сэрца, то чытач зусім не заўважае мастацкіх асабліваасцяў, моўных хібаў ці яшчэ якіх літаратурных хітрыкаў, што напрыдумвалі майстры слова, проста чытаеш — і яе змест убіраеш у сябе...

Гэта кнігі не прафесійнага літаратара, іх немагчыма папраўляць, нават стылёвыя памылкі тут маюць права заставацца на сваім месцы, гэта сведчанне чалавека, які ўсё жыццё насіў у сабе свой дзіцячы жах. Ён жыў не так, як мог бы і як хацеў бы жыць. Ён увесь час хаваўся ад сябе самога, таму што заўсёды меў у памяці тое таўро — «кулацкі шчанюк». Яго вочы бачылі залішне шмат смерці, асабліва смерці малых дзяцей, коней, птушак і сабак, што кранае дзіцячую псіхіку найбольш. Калі яго з усімі хатнімі зімой 1930 года забралі і павезлі ў кароўніках на Валагодчыну, кінулі ў лесе і прымусілі самых будаваць баракі, каля яго знаходзіліся мама, тата, бабуля, дзядуля, цётка і трое дзядзькоў. Дзеці ў лесе паміралі… Тады яшчэ беларускія людзі любілі сваіх дзяцей. Малых — трохгадовага брата Валодзю і дзесяцімесячную сястру Марыю забрала перад высылкай матчына сястра Ганна. Валодзя памёр маленькім у 1932 годзе. Маці чатыры разы ўцякала з савецкага палону да сваіх дзяцей, але схавацца з імі не было дзе: усё, што мелі Мельнікавы, у іх канфіскавалі, раскулачылі таксама і дзядоў па маці, але бабулю спачатку пакінулі ў сваім доме, дзе не было чаго есці, бо ўсё забралі. Як толькі нехта злосны неспадзявана заўважаў Алену Мельнікаву ў сваіх мясцінах, адразу даносіў уладам, і па яе прыходзілі, адрывалі ад дзяцей і вывозілі яшчэ далей… А даносчыкаў у нашым Краі хапае.

Прадзед Кірэй Мельнікаў прымаў удзел у руска-турэцкай вайне, атрымаў за вайну два Георгіеўскія крыжы, пенсію і зямельны надзел. Зямлю падзяліў на сыноў — Восіпа, Петрака і Дзяміда. Два меншыя сыны служылі ў царскай гвардыі, пасля адзін з іх трапіў да белых, другі да чырвоных, быў начальнікам міліцыі ў Чавусах, паспеў схавацца ад арышту, прымаў удзел у слуцкім паўстанні.

У Восіпа Кірэевіча і Ульяны было два ці тры гектары зямлі, поле абсаджана дрэвамі. На хутары стаялі дзве хаты — старая і новая пяціценка, свіран, сажалка-копанка, студня на 30 колцаў, 6 кароў, 4 коні, каля дзесяці авец і столькі ж свіней. Мелі малатарню з прывадам і веялку.

Сабака Валет перад раскулачваннем выў, чуючы бяду. Як іх вывезлі, яго забівалі двойчы. Першы раз прыбілі, пачалі здзіраць скуру, ён вырваўся і ўцякаў, яго забілі другі раз…

Калі іх вывозілі ў 1930 годзе, на той час у Восіпа і Ульяны былі дзеці: дачка Марыя замужам за Цітом Разумавым, яна засталася, а сыны Аляксандр, Максім, Прохар і Віктар, дачка Еўдакія былі вывезены. Старэйшаму Аляксандру было 26 гадоў, гэта бацьку Мікалая, меншаму Віктару — 16 гадоў. Дзяцей у лагерах не лічылі, таму праз год пасля высылкі Мікалая ўкралі ці перакупілі ў вартавых з лагера на Валагодчыне цётка Ганна і дзядзька Ціт Разумаў, прывезлі да бабулі Марыі ў Карэлаўку, да брацік і сястрычкі. Праз нейкі час бабулю Марыю з сіротамі выселілі з хаты, якую разабралі, а іх пакінулі ў чужой паўразбуранай хаце...

Бацька Аляксандр першы раз уцёк да сваіх на Магілёўшчыну ў 1931 годзе, яго «свае» і выдалі, арыштавалі ў Чавусах, год трымалі ў мясцовай турме, адправілі па этапу ў Архангельскі ГУЛАГ, пасля на спецпасяленне ў пасёлак Пачыха ў Паўночным краі, дзе ў той час знаходзілася ўся сям'я Мельнікавых. У жніўні 1935-га ўцёк у Ісакагорскі раён Архангельска, адтуль быў прызваны ў працоўную армію, 03.05.1944 года ваенным трыбуналам па арт. 58-10 ч. 2 быў засуджаны на 8 гадоў «за правядзенне антысавецкай агітацыі», вызвалены 27. 03.1952-га… Пасля турмы жыў у Доме інвалідаў, пісаў лісты сваім дзецям і дзецям брата левай рукой. Памёр у 1953 годзе. Пахаваны ў Архангельску. Рэабілітаваны Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 11.01.1969-га. Маці Алена дажывала жыццё пры брату Мікалаю Анціпенку з малодшым сынам Віктарам, які нарадзіўся ў Архангельску. Памерла ў 1980-м, пахавана ў Алтайскім краі…

Дзяды Восіп і Ульяна вярнуліся з высылкі да вайны, памерлі ў вёсцы Брады, там і пахаваныя. А бабуля Марыя Анціпенкава пахаваная ў вёсцы Галачава на Магілёўшчыне, дзе дажывала ў сям'і дачкі Марыі і зяця Ціта Разумавых...

Мікалай Мельнікаў пры жывых бацьках рос сіратой. У яго жыцці прымалі ўдзел бабуля Марыя Анціпенкава, тыя дзядзькі і цёткі, якім удалося пазбегнуць высылкі, ці, дакладней, сталінскага канцлагера.

Да вайны паступіў у Магілёўскі педінстытут, але не скончыў. Ваяваў у партызанскім атрадзе «Беларусь». Аднойчы ў 1943 годзе яго паслалі ў разведку ў Магілёў. Паехаў на возе. Але выехаць назад з возам не змог. Пайшоў на станцыю і папрасіў у немцаў за літр самагонкі і два дзясяткі яек падвезці яго ў родную вёску на цягніку. Немцы давезлі яго да вёскі, спынілі цягнік, дзе ён папрасіў. Тады і пачалі ў вёсцы і ў атрадзе казаць:

— Як Ягорчыкаў Коля быў у Магілёве…

Калі нашыя войскі вызвалілі Беларусь, Мельнікава забралі ў армію. Ён удзельнічаў у штурме Кенігсберга, узнагароджаны ордэнам Вялікай Айчыннай вайны другой ступені і медалямі.

Пасля вайны скончыў Магілёўскі педінстытут і аспірантуру ў Маскве, абараніў кандыдацкую дысертацыю. Працаваў у Баранавічах і Барнауле. У 1965 годзе пасяліўся ў Гародні, быў загадчыкам кафедры рускай і замежнай літаратуры. Напісаў шмат навуковых тэкстаў па ўдасканаленні вучэбнага працэсу, прыдумаў «запаведзі славесніка». Яго чатыры разы звальнялі з працы з-за поглядаў, якія не супадалі з поглядамі начальства. Не ўступаў у КПСС…

Калі пачалася наша сціплая рэвалюцыя, Мікалай Мельнікаў быў на пенсіі. Ён узначаліў грамадскае аб'яднанне ветэранаў вайны, працы і ўзброеных сіл, пачаў збіраць музей Васіля Быкава. Сабраў шмат дакументаў, экспанатаў, кніг. У музеі працуюць аматары творчасці Васіля Быкава, вядзецца асветніцкая і выдавецкая праца. Гэта нейкае містычнае, неабдымнае ўтварэнне, дзейнасць якога цяжка разгледзець, зразумець.

Калі ён звяртаўся ў розных магчымых формах да творчых арганізацый з патрабаваннем заўважаць і ацаніць яго дзейнасць, то ён клапаціўся не аб сабе, — аб ушанаванні памяці знішчаных продкаў, патрабаваў павагі да людзей, якіх ператварылі ў рабоў, да растаптанай Беларусі і да памяці Васіля Быкава…

Чаму мы выбраныя як бяздольныя, пераможаныя, убогія духам, засмучаныя, лагодныя, галодныя і прагнучыя справядлівасці, міласэрныя, чыстыя сэрцам, міратворцы і тыя, каго ўвесь час пераследуюць за справядлівасць? Чаму Бог выбраў нас на ўсе восем благаслаўленняў? Мы не можам адказаць на гэтае пытанне і не маем права крыўдзіцца на Бога.

Мельнікаў у сваіх кнігах — як умеў — паспрабаваў перажыць сваё жыццё нанова ў літаратурным варыянце, выцягваючы з памяці і той лёс, які яму даў Бог, і той, які «спланавалі» бальшавікі. Быць дакументалістам — гэта вялікая адказнасць за герояў, тым больш, калі гэтыя героі — твае блізкія людзі…

Кнігі ўспамінаў Мікалая Мельнікава не дасканалыя, але праўдзівыя! Мяне ў споведзі Мельнікава цешыць тое, што Магілёўшчына і Гродзеншчына — гэта адна зямля. Мы аднолькава жылі, аднолькава святкавалі і народныя і рэлігійныя святы, аднолькава кахалі і выходзілі замуж. Мая мама таксама малілася ноччу, як Мікалаева бабуля. І наша сям'я складала кароткую малітву перад ядой. Мельнікаў піша: дзед гаварыў малітву перад ядой, але ўсе яе ведалі, калі трэба было, маглі замяніць дзеда. У «чырвоным кутку» віселі абразы, галоўны абраз упрыгожваўся ручнікамі, якія называлі «набожнікі». У нас гэткага слова не ведалі, але ручнікамі аздаблялі абразы. Надта мне спадабалася слоўца «карэтка» — такая пасудзіна, якую можна наспех зрабіць у лесе з бяросты, каб збіраць у яе ягады. Я такога спосабу не ведала, але прымаю яго, бо гэта вельмі зручна. Баба Марыя ўставала да сонца, размаўляла ўголас з сонцам, з зоркамі, з зямлёю і свамі дзецьмі, параскіданымі па свеце. У нас такія плачы называліся «выплачваннямі»; праз пасярэднікаў, праз зямныя і нябесныя сілы яна перадавала любоў да Бога, жальбу да родных дзяцей, да жывёлаў і стварэнняў, да зямлі і ўсяго, што на ёй узрастае, што належала ёй, але ў яе адабралі. Гэта евангельскае і старажытнае, прыватная малітва — і крыху язычніцкая надзея. Пералічвала перад Богам свае крыўды і гэтак гаіла сардэчны боль, гэтак трывала.

Багатыя ці бедныя — мы аднолькавыя, яднае Магілёўшчыну і Гродзеншчыну «Новая зямля» Якуба Коласа…

*«Я сказаў унуку:*

*— Запомні гэтае месца, дзе мы пакінулі камень. Гэта, Саша, твая зямля.*

*— А што мне рабіць з ёю?*

*— Хочаш — прадай.*

*— Не, дзядуля, я лепш пабудую тут дом…»*

ЗГАДКІ

# «СВЕТЛЫ СМУТАК ПА ВЕЧНАЙ

Працяг.
Пачатак на стар. 9 (1).

Бабуля, ад якой я перад гэтым не чуў аніводнай песні, напачатку ніякавела і саромелася, а потым нечакана распялялася. На песні ў яе была вельмі добрая памяць, і яна спявала нам з невялікімі перапынкамі два дні. Прыходзіла да яе баба Аляксандра, яе родная сястра, і таксама дапамагла ёй узгадаць яшчэ некалькі песень.

Мы вярталіся з гэтага незвычайнага канцэрта, зладжанага толькі для нас дваіх, уражаныя і ўзвышаныя ад таго, што дакрануліся да залатога беларускага слова, адшліфаванага вякамі, да старажытных славянскіх і праславянскіх яшчэ мелодыяў, водгукі і напевы якіх я буду пазней лавіць у розных кропках славянскага свету. Мяркую, што рытмы гэтых песень, спрадвечны беларускі светапогляд не мог не адбіцца на вершах майго сябра Сержука Сыса.

Не было чалавека на той час, з кім бы мне было так проста і лёгка, як з Сержуком. Я таксама моцна сябраваў з Едрусем Акулінам, але Едрусь заўсёды захоўваў сваю адметнасць. Ён заўсёды быў іншым. А вось з Сержуком мне часам здавалася, што мы аднолькавыя. Хаця знешне мы жылі розным жыццём. Я багата чытаў, самаадукоўваўся, словам, найперш быў «кніжным» хлопцам, і толькі затым, на другім месцы, былі для мяне розныя радасці жыцця. Для Сержука кніжка таксама не была чужою, рэгулярна і ён трымаў яе ў руках, але ягоная фантастычная жыццёвая энергія, радасная неўтаймаваная халерычнасць выклікала бясконцы ланцуг розных гісторый і падзеяў, у большасці сваёй захапляльных і бессэнсоўных. Я ў жыцці не бачыў такога чалавека, які гэтак спяшаўся жыць. Эмоцыі і пачуцці часта кіравалі ягонымі ўчынкамі. У тыя часы ён заўсёды быў закаханым, і часта прадметам яго абагаўлення была не адна пасія, а некалькі, і не было аніводнае хвіліны, каб месца ў ягоным сэрцы, якое займала зямная муза, было пустым.

*Пазрываныя з неба ружы,*
*Адшуканыя ў полі зоры*
*І амаль звар'яцелае сонца,*
*Быццам дар пакладу ля ног.*
*Разарвуцца сталёвыя «нельга»,*
*Сутыкнуцца дрыготкія пальцы*
*І амаль звар'яцелае сонца*
*Спаліць ветах нашых трывог…*

Хоць верш і напісаны, відаць, пазней, але вось гэтае «звар'яцелае сонца» я часта бачыў у Сержуковых вачах, урэшце, адна з гісторый кахання прывяла яго да ўтрапення, калі ў інтэрнаце Гомельскага ўніверсітэта голымі рукамі ён, плачучы ад унутраных пакутаў, разбіў ушчэнт некалькі вялікіх калідорных шыбаў…

І няўмольная проза жыцця ў выглядзе дэкана змусіла яго прыпыніць вучобу і ўвесну 1981 года сыйсці ў войска.

Служыў Сяржук кіламетраў за 30 ад Ленінграда. Улетку 1981-га, калі мы паехалі ў свой чарговы будатрад на Пскоўшчыну, я, папярэдне напісаўшы яму, на выходныя сеў у цягнік і паехаў да Сержука на сустрэчу. Вядома ж, заадно хацелася паглядзець і Ленінград. У торбе ў мяне была цывільная вопратка. Я прыехаў у вайсковую частку, сустрэўся з Сержуком, ён пераапрануўся, мы пралезлі ў дзірку ў калючай агароджы і падаліся ў Ленінград. Хадзілі па ўзбярэжжы Нявы, былі каля Зімняга палаца, бегалі яшчэ багата дзе, елі лёды, размаўлялі, былі шчаслівымі. Увечары мы вярнуліся ў вайсковую частку, і ўначы я паехаў назад на Пскоўшчыну. Як пісаў пазней мне Сяржук, на такія самаволкі і стараслужачыя не адважваліся, бо кара за іх была суровая. А ён на той час толькі тры месяцы адслужыў!

З войска Сяржук прыйшоў падужэўшы, таму працаваў грузчыкам на цукерачнай фабрыцы «Спартак», пераносіў мяхі з цукрам і какававым зернем, з павагаю распавядаў пра сваіх калегаў, някідкіх з выгляду мужычкоў, якія за змену маглі перакідаць некалькі дзясяткаў тон цукру ў 50-ці кілаграмовых мяхах, а потым яшчэ шахнуць «маліноўскага» сямідзесяціградуснай апельсінавай эсэнцыі.

…Ён адразу без агаворак успрыняў беларускую ідэю, якой тады пасля наладжвання кантактаў з менскімі адраджэнцамі, я быў проста апантаны. Ён прагна слухаў мае гарачыя маналогі па гісторыі і культуры Беларусі, чытаў беларускі самвыдат, перайшоў у большасці сваіх кантактаў на беларускую мову. І ён працягваў быць гэткім жа закаханым, якім быў да войска, працягваў улазіць у нейкія неверагодныя гісторыі і працягваў пісаць вершы.

Ніводзін з беларускіх паэтаў не прысвяціў столькі вершаў Гомелю, як Сяржук Сыс. Ён урэшце звыкнецца з гэтым паўмільённым горадам і стане яго паэтычным голасам...

Сталася так, што Сержукова беганіна за дзяўчатамі прыпынілася, прынамсі, пасля таго, як ён сустрэў у нашым інтэнаце Валю і раззнаёміўся з ёй. Валя вучылася на рускай філалогіі на пару курсаў ніжэй за мяне, была родам з Чачэршчыны, з сям'і кіраўніка калгаса. Шатэнка з сінімі, як васількі, вачыма і прываблівою ўсмешкаю, радзіміцкіх крывей, танклявая Валя глядзелася эфектна і была разумнаю дзяўчынаю. У нашай кампаніі яна хутка вярнулася да беларускай мовы.

Гэтых сінявокіх і шэравокіх радзіміцкіх дзяўчат з Прысожжа, урэшце, як і хлапцоў, можна лёгка навучыцца пазнаваць, калі пабываць у іх мястэчках, гарадках і вёсках ды прыглядзецца да іх. Згадайце хаця б Аляксея Пысіна, Алеся Пісьмянкова, Едруся Акуліна. І тут, у бабруйскай калоніі, я іх пазнаю адразу і па характары і па абліччы.

Дык вось, Сяржук гэтым разам закахаўся не на жарт і пачаў настойліва ўлягаць за Валяю. На вясну 1984-га ў іх прыпаў перыяд жаніхоўства. Гэта была незабыўная вясна, бо ў гэты самы час я быў згубіўшы галаву ад маёй будучай жонкі Наталлі. Яна ў 1983 годзе паступіла на гістарычнае аддзяленне нашага факультэта. Мы ўчатырох часта разам бавілі свой вольны час. І гэта былі цудоўныя дні, якія ўжо ніколі, ніколі не паўторацца…

Распавяду пра адну паездку ў вёску Дварэц, якая стаіць паміж Рэчыцай і Лоевам. Мы выправіліся да роднай бабулі Сержука. З Дварца родам, як аказалася, была і маці Наталлі. У Дварэц і Сяржук з Заспы, і Наталля з Лоева прыязджалі малымі да сваіх бабуляў і дзядоў, але адзін аднаго калі і сустракалі, дык усё адно не памяталі. Быў травень, мы распалілі падалей ад хаты агеньчык і смажылі, як у дзяцінстве, на ражончыках сала. Стаяла цёплая зорная і чорная адначасова ноч. Хорам спявалі салаўі. Іх было некалькі, і іхныя сакавітыя спевы далёка разносіліся па вялізнай дняпроўскай лагчыне. Сержукова бабуля вохкала, не ведаючы, як нас укласці на двух ложках, якія стаялі ў чыстай хаце. Урэшце мы пакаліся з Сержуком, а Наталля з Валяю. Бабуля з першай хаты чуйна прыслухоўвалася, каб не зрабілася якой бяды. А мы і не думалі пра што іншае. Нам і так было ўтульна і весела…

…Няпроста пісаць у такіх умовах, у якіх я цяпер знаходжуся, пра тыя шчаслівыя і бесклапотныя часы. Няпроста не толькі псіхалагічна, бо вялікай фрустрацыі ад свайго перабывання ў лагеры я не адчуваю, толькі розныя падзеі і падзейкі, якія здараюцца тут ледзь не штодня, збіваюць мяне з настальгічнага і рамантычнага настрою. Можна параўнаць мой цяперашні стан жыцця з колішнім палётам на вялізным аэробусе праз акіян. Мы ляцелі на вышыні бліжэй да 13-ці кіламетраў. І наш вялікі і цяжкі самалёт трэсла, як ліпку на ветры. Мы ўсю дарогу сядзелі прышпіленымі рамянямі бяспекі, і нам усю дарогу падлівалі шампанскае, не шкадуючы. Вось такая ж турбуленцыя віхурыць зараз вакол мяне. Але ж цягам усяго жыцця нешта замінала мне цалкам аддавацца пісанню. А можа, гэта і я сам дапамагаю майму лёсу адштурхнуцца ад супакою і цішы пісьмовага стала? Можа, гэта мая няўрымслівая натура ўвесь час цягне мяне ў пошуку свайго адметнага шляху, які і ёсць сапраўды мне наканаваннем. Хто ведае, мо і так…

Улетку 1984-га Сяржук з Валяй узялі шлюб. Вяселле гулялі на Чачэршчыне, у Валіных бацькоў. Я на тым вяселлі быў за шафера ў Сержука і ставіў свой подпіс у загсе аб іхнім шлюбе. Бедныя і неўладкаваныя яшчэ ў жыцці, што мы маглі даць нашым каханым? Адное — абяцанкі-цацанкі, расплывістыя перспектывы ды шчырае, палкае каханне.

Затым я паступіў у аспірантуру ў Менск і адтуль быў забраны на паўтара гады ў войска. Перапісваліся мы неяк мала. Значна больш ліставаўся з Едрусем. Але, ведаючы характар Сержука, я не здзівіўся, калі ў гэты час ён скончыў дзеля чагосьці гандлёвы тэхнікум, працаваў на тым самым «Спартаку», ездзіў, як ён сам пазней распавядаў, у Рагачоў на малочна-кансервавы завод па радыяцыйнае згушчонае малако і завочна аднавіўся ва ўніверсітэце. Затым Валю размеркавалі настаўніцай у Жлобінскі раён, у вёску. Сяржук паехаў туды разам з ёй і выкладаў у школе беларускую мову і літаратуру. Пасля нашага вяселля з Наталляй у 1987 годзе мы прыязджалі да іх у госці, жылі ў іх, можа, з тыдзень. Зранку Сяржук і Валя сыходзілі на працу ў школу, што ж — сельскія настаўнікі! А мы з Наталляю высыпаліся ў іх невялікай кватэрцы. Затым я пісаў сваю кандыдацкую працу, а Наталля чытала кнігі. Пасля абеду мы хадзілі ўсе разам гуляць па наваколлі, у хваёвы бор, які пачынаўся за вёскай, на недалёкую чыгунку; удалечыні, за Бярэзінай былі бачныя высокія коміны светлагорскага хімзавода. Мы шмат размаўлялі пра надыходзячыя змены, бо тады, у другой палове 80-ых, Мінск пачынаў ужо віраваць, актыўнічалі беларускаарыентаваныя моладзевыя дэмакратычныя ініцыятывы, разгортвалася праца Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя», прэзідэнтам якога абралі мяне. Мы размаўлялі і пра беларушчыну, і пра літаратуру, потым Сяржук паказваў свае грады непадалёк ад дома, зарослыя, як ён пераконваў, смачным і карысным тапінамбурам. А ўвечары мы зноў гаварылі, гаварылі і гаварылі.

Праз нейкі час Сяржук пайшоў працаваць у Жлобінскую раённую газету і атрымаў у Жлобіне кватэру. Ён вучыўся на завочным і працаваў на вельмі няўдзячнай для творчага чалавека працы раённага журналіста. Усе, пэўна, бачылі нашы беларускія раёнкі. Гэта казённы стыль і казённая душа, пародыя на газету, дзе на першым месцы надоі, жніво, сяўба і перадавікі з ударнікамі разам. Месца для творчасці там няма, а газетныя штампы і газетнае мысленне загубілі не аднаго празаіка і паэта. Усе памятаюць, у што ператвараўся «ЛіМ», калі ў крэсла галоўнага рэдактара туды прыйшоў яшчэ адзін гадаванец гомельскага ўніверсітэта Анатоль Казлоў, бо ён сфармаваўся ў раён-




На магіле Максіма Багдановіча. Ялта. 1980 г.



Бабчын. Будатрад. Анатоль Сыс, Эдуард Акулін і Алесь Бяляцкі. 1980 г.

# РАДЗІМЕ»

най газетцы і хоць затым, здаецца, атрымаў рэдактарскую школу літаратурнага выдання, працуючы ў «Маладосці», — але ж не, вяртанне ў газету вярнула і ўсе напрацаваныя раней хібы і штампы. Тым не менш, газетнай працы Сяржук Сыс не баяўся. Трэба сказаць, што нашыя кантакты тады паслабелі. Жыццё неяк запрэгла нас у розныя вазы, паставіла ў аглоблі і ўсунула ў хамуты. Я высільваўся ў музеі Максіма Багдановіча, дырэктарам якога я стаў і які, кроў з носу, трэба было адчыніць да 100-й гадавіны паэта, а яшчэ ж грамадская праца, якая забірала ўвесь астатні час. А Сяржук праз пару гадоў перабраўся ў абласную газету «Гомельская праўда».

Няпростае жыццё творчага чалавека ў правінцыі. А Гомель, на жаль, так і не стаў самадастатковым культурным цэнтрам. Менск высмоктвае ўсё творчае і цікавае, як пыласос, і толькі Гродня ў змозе супрацьстаяць яму. Калі ж няма дастатковага кола аднадумцаў і разнастайных творчых кантактаў, людзей, якія натхняюць тваё творчыя пошукі і падштурхоўваюць тваё творчае «я», можа наступіць крызіс. Відавочна, як у час жыцця ў Гомелі, у вершах Сержука Сыса прабіваюцца ноткі песімізму, боязі «ўгрузнуць у балота», адчуванне незадаволенасці і марнасці свайго жыцця. Аднастайнасць правінцыйнага жыцця ператвараецца ў сапраўдны экзамен:

*Мясцовы час…*
*Няспешны плёскат Сожа,*
*Спагада позіркаў, што ловіш*
*незнарок,*
*На скрыжаванні выцвілы «ларок»,*
*язмін ды бэз за кожнай агароджай.*
*Жанчына размаўляе з галубамі,*
*«Пятра і Паўла» ціхі перазвон,*
*Пах ежы з незачыненых акон…*
*Мясцовы час,*
*Ці вытрымаць экзамен?*
*Мясовы час…*
*Ці я ўжо не мясцовы,*
*Па свеце натаптаўшыся як след?..*

Пры пераездзе ў Гомель Сержуку Сысу, можна сказаць, моцна пашанцавала на той час, бо ў «Гомельскай праўдзе» працаваў Барыс Пятровіч, які і стаў для Сержука тым інтэлектуальным апірышчам, які не даў яму апусціць творчыя крылы, патануць у дрыгве будзённасці і побыту...

Вось так у розных клопатах і справах праляцелі пятнаццаць наступных гадоў. Сустрэчы нашыя былі цёплыя, але рэдкія. Ці я быў у Гомелі і заходзіў да яго ў госці, ці ён з'яўляўся наездамі ў Менск і прыходзіў да нас.

…Гадоў восем таму выбраліся мы ў вандроўку ў Чарнобыльскую зону, у той самы Бабчын, дзе калісь мы працавалі ў будатрадзе. Паехалі ў адной машыне: Барыс Пятровіч, Сяргей Дубавец, Едрусь Акулін, я і былы аднагрупнік Барыса па журфаку. А па дарозе заехалі ў Вялікія Нямкі, вёску на Веткаўшчыне на беразе Бесядзі, адкуль родам Едрусь. Спыніліся там у ягонай хаце. Хлопцы паплылі на чаўне лавіць у Бесядзі рыбу, а мы з Едрусем засталіся. І вось апоўначы ў хату ўваліўся Сяржук Сыс, якому затэлефанавалі ў Гомель і папрасілі далучыцца на ноч да нашай кампаніі. Сяржук тады працаваў у нейкім рэкламным аддзеле, дзень правёў на выставе, і яго прывёз на машыне швагер. Мы выпілі і доўга гаманілі пра творчасць, літаратуру і пра тое, куды коціцца гэты свет.

Так я даведаўся, што Сяржук разводзіцца з Валяю. Сумеснае жыццё трэснула, і як склеіць яго, ні ён, ні яна не давалі рады. Кожнае каханне, як і кожнае чалавечае жыццё, індывідуальнае, і яно мае свой век. І часам людзі паміраюць у каханні, а часам памірае каханне, а людзі жывуць…

У траўні 2005 года памёр наш сябра, геніяльны паэт Анатоль Сыс. Хтосьці можа засумнявацца, ці можна вось так запраста нашага равесніка, чалавека з далёка неідэальнымі паводзінамі называць


З Сержуком Сысам — у Ялце. 1980 г.



Літаратурны гурток «Крынічка», ГДУ. Міхась Хацяновіч, Сяргей Сыс, Анатоль Кавалёў, Віктар Ярац, Валянціна Бандарэнка, Эдуард Акулін, Алесь Бяляцкі, Сяргей Сцешыц, 1980 г.

геніем? Я ўпэўнены, што можна. Бо хто ж, як не ён, у 80-90-ыя гады XX стагоддзя праз паэтычнае слова выявіў духоўную і нацыянальную сутнасць беларускага народу? Ён, як той Янка Купала напачатку XX стагоддзя, думаў за ўсіх беларусаў, здолеў акумуляваць усю горыч і ўвесь боль беларусаў, усе паразы і перамогі беларускага духу, усе надзеі і спадзяванні на лепшую будучыню…

На пахаванні Анатоля Сыса я не быў, у той час мяне не было ў Беларусі. На сорак дзён у чэрвені 2005 года мы выехалі з Менска на мікраўтобусе ў Гарошкаў, на радзіму паэта. Перад ад'ездам Кася Камоцкая выперла з аўтобуса двух п'яных хлапцоў, былых знаёмых Сыса, якія гучна вохкалі і прычыталі за Толіка і збіраліся ехаць разам з намі. Астатнія ж пасажыры былі збольшага знаёмыя паміж сабой. Разам з намі ехала і Галя Дубянецкая, паэтка, мая даўняя знаёмая, з якой разам мы некалі вучыліся ў аспірантуры Інстытута літаратуры Акадэміі Навук. Галя, мілая, сціплая, усмешлівая дачка Міхала Дубянецкага, беларускага дзеяча, аднаго з інтэлектуалаў і заснавальнікаў Беларускага Народнага Фронта. Бог даў ёй ціхі, вытанчаны, высокаінтэлектуальны талент. Выхаваная ў рэчышчы еўрапейскай літаратуры, яна сваім паэтычным голасам нагадвае мне расійскую паэтку Марыну Цвятаеву, вельмі, вельмі няпростую для ўспрымання шарагова чытача. Паэзія такога кшталту, элітарная паэзія, зразумелая далёка не ўсім. Яе тэксты насычаныя тонкімі асацыяцыямі, падтэкстам, заглыбленасцю ў свой свет, у выбудаваную ўнікальную сістэму каардынат.

І вось мы прыехалі ў Гарошкаў, дзе нас сустрэлі гасцінныя сёстры Анатоля. На сядзібу Анатоля Сыса з'ехаліся таксама і былыя сябры, і прыхільнікі таленту паэта з Гомеля, Рэчыцы, Светлагорска. Прыехаў з Гомеля і Сяржук Сыс. Мы мелі крыху часу і пад'ехалі з ім у суседнюю Заспу, да ягонай маці, выйшлі паглядзець на Дняпро, трохі паразмаўлялі. Сяржук сказаў, што жыве цяпер у Гомелі сам, здымае жытло. Затым мы вярнуліся, наведалі могілкі і, пасля памінальнага стала і выступаў паэтаў і бардаў, пайшлі на ўлюбёнае месца Анатоля Сыса — Гарошкаўскае гарадзішча. І там ужо Сяржук Сыс і Галя Дубянецкая хадзілі збольшага разам, узяўшыся, як дзеці, за рукі. Аказваецца, яны таксама былі ўжо даўно знаёмыя, бо разам удзельнічалі ў семінары маладых літаратараў у пісьменніцкім Доме творчасці ў Ісlачы...

Ніхто асабліва не звяртаў увагі на Галю і Сержука. А яны спусціліся з Гарошкаўскага гарадзішча і пайшлі да адступіўшага ўдалеч пасля меліярацыі Дняпра. Было цёпла, ярка свяціла сонца. Ужо быў час ад'язджаць нам у зваротную дарогу. Я набраў нумар сотавага тэлефона Сержука і папярэдзіў, што мы мусім неўзабаве вяртацца, таму добра было б, каб ён прывёў Галю назад. Іхнія фігуркі былі ўжо маленькія, у адказ Сяржук памахаў мне рукой, а па тэлефоне сказаў, каб мы ехалі без Галі, бо яна застаецца з ім. Праз 4 месяцы яны ўзялі шлюб. Вось так Анатоль Сыс і памяць пра яго злучыла ў яшчэ адну сямейную пару паэта і паэтку.

*Дагадзіў жа ты мне, Анатоль,*
*Дагадзіў…*
*Хоць тваімі шляхамі*
*амаль не хадзіў —*
*я начамі тваімі*
*не ведаў начэй,*
*прама ў вочы глядзеў,*
*ды не бачыў вачэй.*
*Не двайнік твой, не брат*
*І не зменлівы цень, —*
*Толькі сэрца маё*
*Апаліў твой «агмень»,*
*Я відушчым,*
*Як фенікс з нябыту ўваскрэс*
*Ды пайшоў за табою*
*ў бурштынавы лес.*
*А ты ведаеш, што я знайшоў,*
*Анатоль?*

Галя Дубянецкая вярнулася ў Менск толькі праз год, а яшчэ праз некалькі месяцаў, развітаўшыся з працаю, да яе пераехаў жыць Сяржук Сыс. Іронія лёсу, што ў царкоўным шлюбе Сыса і Галі Дубянецкай я зноў быў ягоным дружкаю, і стаў хросным бацькам і іхняй дачкі Стасі. Сёлета Стася ідзе ў школку. Яна піша мне друкаванымі літарамі пажаданні ў паштоўках, каб я хутчэй выйшаў на волю…

Пераезд у Менск даў творчасці Сержука Сыса новы якасны штуршок. Менскае творчае асяроддзе, знаёмства з новымі людзьмі, актыўная праца, знаходжанне ў гушчыні культурных і грамадскіх падзеяў дабратворна паўплывалі на ягоную паэзію. Узнікае такое адчуванне, што ў паэта Сержука Сыса з'явілася другое дыханне. Гэта сталася магчымым найперш дзякуючы ягонаму ўменню не спыняцца ў развіцці, а расці далей, шырэй і глыбей. Чытаючы «Стрэмку», не губляеш цікавасці да паэта, да ягонай думкі і ягоных вершаў, хочацца чытаць кніжку далей і далей. Сяржук Сыс здолеў перадаць праз сцігмы вершаў нярвовае трапятанне сваёй душы. Жыццё, думкі, пачуцці, каханне і горыч адстойваюцца, набіраюць водар і ператвараюцца ў гаркавае, ці салодкае, ці сухое каштоўнае віно вершаў.

…Няма пракокаў у сваёй Айчыне, пакуль што няма, надоўгі час яшчэ няма. Яшчэ крыху, яшчэ трохі…

**Жнівень 2012 года,**
**Бабруйская калонія**

*25 верасня літаратар і праваабаронца Алесь Бяляцкі сустрэў свой пяцідзесяцігадовы юбілей. Сакратарыят Саюза беларускіх пісьменнікаў і калектыў «Новага часу» шчыра зычаць паважанаму аўтару здароўя, моцы — і хуткай свабоды!*



Паездка ў Кушляны на сядзібу Францішка Багушэвіча. Злева направа: Міхась Казлоўскі, Вінцук Вячорка, Алесь Бяляцкі, Сяргей Дубавец, Сяргей Сыс, Вінцэсь Мудроў, Алег Бембель і Кёні Кім, Алесь Шпакоўскі, 1984 г.

РЭЦЭНЗІЯ

# ТРЫ КНІГІ ПРА МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

Анатоль СІДАРЭВІЧ

**Максім Багдановіч: вядомы і невядомы: зб. літаратуразнаўчых і архіўных матэрыялаў. — Мінск: Літаратура і мастацтва, 2011. — 392 с.**

**Максім Багдановіч. Пясняр чыстае красы: успаміны, артыкулы, прысвячэнні. — Мінск: Маст. літ., 2011. — 350 с.: іл. — (Жыццё знакамітых людзей Беларусі).**

**Максім Багдановіч: энцыклапедыя. — Мінск: Беларус. энцыкл. імя П. Броўкі, 2011. — 608 с.: іл.**










## Вяртанне здабыткаў

Некалі я пісаў пра тое, якое магло б быць літаратуразнаўства ў БССР, калі б не сталінская «рэвалюцыя зверху», учыненая на пераломе дваццатых і трыццатых гадоў мінулага стагоддзя, і прыводзіў у прыклад зборнік «Янка Купала ў літаратурнай крытыцы» (1927). У тым, што філалагічная навука БССР знаходзілася ў перыяд новай эканамічнай палітыкі на ўздыме, пераконваюць нас змешчаныя ў зборніку «Максім Багдановіч: вядомы і невядомы» працы Міхайлы Піятуховіча «Багдановіч як паэта імпрэсіяністы», Уладзіслава Дзяржынскага (Чаржынскага) «Багдановіч як стылізатар беларускага вершу» і Аляксандра Вазнясенскага «Паэтыка Максіма Багдановіча». А папярэднічаюць ім два тэксты заснавальніка багдановічазнаўства Антона Луцкевіча — «Пясняр чыстай красы» і «Праблемы красы й мастацтва ў творах Максіма Багдановіча», а таксама артыкул Яўхіма Карскага «М. Багдановіч. Беларускі паэта чыстага мастацтва», у якім акадэмік у пэўнай меры развівае галоўную думку А. Луцкевіча, выкладзеную ў рэцэнзіі на адзіны прыжыццёвы зборнік паэта «Вянок».

Пасля «рэвалюцыі зверху» ў бээсэсэраўскім літаратуразнаўстве настала пара вульгарнага сацыялагізатарства і грубага ўтылітарызму. І толькі ў другой палавіне 1930-х нібыта адбываецца паварот у бок навуковасці. Я мінаю тут, напрыклад, спробы маладога Рыгора Бярозкіна размаўляць пра літаратуру ў літаратуразнаўчых тэрмінах. Варта адзначыць іншае: не ў БДУ, а ў Ленінградскім універсітэце творчасць М. Багдановіча вывучалі тры аспіранты з БССР: Рыгор Жалязняк, Дзмітрый Савановіч і Міхась Смолкін. У зборніку, укладзеным Ц. Чарнякевічам, акрамя дысертацыі Р. Жалезняка «Поэзия Максима Богдановича», публікуюцца два артыкулы Дз. Савановіча («Старая Беларусь» М. Багдановіча і «Фальклор у творчасці М. Багдановіча»). Цікава было б супаставіць яго высновы з высновамі А. Луцкевіча, які ў канцы 1930-х таксама цікавіўся роляю фальклору ў творчасці паэта (артыкул «Да крыніцаў творчасці М. Багдановіча»).

Сведчаннем даволі высокага ўзроўню багдановічазнаўства і тэксталогіі было выданне пад кіраўніцтвам Івана Замоціна ў 1927–1928 гг. двухтомніка твораў Максіма Багдановіча. Гэта быў вынік супрацоўніцтва даследчыкаў БССР і Заходняй Беларусі, бо Менск атрымаў частку матэрыялаў для гэтага выдання з Вільні. У зборніку змешчаны «Даклад аб падрыхтоўцы збору твораў» І. Замоціна.

Першую частку кнігі можна было назваць «Вяртанне здабыткаў», у другой жа яе частцы друкуюцца ўспаміны Дзіядора Дзябольскага і яго лісты да літаратуразнаўцы Юльяна Пшыркова. Але яшчэ раней біяграфіяй паэта пачалі цікавіцца Антон Луцкевіч і Вацлаў Ластоўскі. На жаль, у гэтым зборніку змешчаны толькі адзін ліст «бацькі паэты» да Луцкевіча, у Вільні ж іх некалькі.

Вядома, што нашы веды пра Максіма Багдановіча ўзбагаціла і яго сучасніца ды супрацоўніца Зоська Верас. З эпісталярнай спадчыны пісьменніцы Ц. Чарнякевіч выбраў найбольш паказальныя лісты да Алеся Бачылы і Ніны Ватацы.

Было б грахом не ўспомніць таленавітую прадмову да зборніка, якую напісаў Юрась Пацюпа. Калі і ёсць заўвагі да яе, дык адна: аўтар, лічачы сваіх чытачоў людзьмі дасведчанымі, не паказвае, дзе і калі выдадзеная тая ці іншая праца, на якую ён спасылаецца.

У цэлым кніга, складзеная Ц. Чарнякевічам, пакідае прыемнае ўражанне, і я ўпэўнены, што яна добра паслужыць нашым філолагам.

## Без каментароў

Нашым філолагам, асабліва пачаткоўцам, паслужыць і кніга «Максім Багдановіч. Пясняр чыстае красы: успаміны, артыкулы, прысвячэнні», якая выйшла ў серыі «Жыццё знакамітых людзей Беларусі».

У першай частцы кнігі змешчаныя ўспаміны пра паэта. На жаль, яны не ўкаментаваныя: не паказана, адкуль узяты тэкст, дзе знаходзіцца рукапіс. Каментаваць належала і некаторыя моманты ў тэкстах.

Паўстае і пытанне пра адбор, калі знаёмішся з другою часткаю зборніка, у якой змешчаны артыкулы пра М. Багдановіча. У наш час гэта выглядае дзіўна, але ў кнізе няма ніводнага артыкула А. Луцкевіча. І Генадзя Каханоўскага, які нямала зрабіў для высвятлення пэўных момантаў у біяграфіі паэта. Пра эмігрантаў-багдановічазнаўцаў памаўчым.

Эмігрантам трохі пашанцавала ў трэцяй частцы зборніка, дзе змешчаныя вершы пра М. Багдановіча ці ў гонар паэта, бо тут сустракаем імя Алеся Салаўя.

Хоць у параўнанні з кнігай пра Мікалая Чаргінца, якая таксама выйшла ў серыі «Жыццё знакамітых людзей Беларусі», зборнік тэкстаў пра Багдановіча і ў гонар Багдановіча выглядае сціпла, усё ж трэба сказаць: добра, што значная частка такіх тэкстаў сабрана пад адной вокладкай.

## З плеч ды ў печ

Зусім іншыя патрабаванні прад'яўляюцца да выданняў, якія прэтэндуюць на ўсебаковасць.

Цікава параўнаць кнігу «Янка Купала» (1986 год) і выдадзеную летась кнігу «Максім Багдановіч». Не ведаю, чым кіраваліся рэдактары выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя», але важкі том пра Янку Купалу яны не адважыліся назваць энцыклапедыяй.

Цяперашнія энцыклапедысты, як і цяперашняя ўлада, на сціпласць не хварэюць. Даведнік «Максім Багдановіч», што выйшаў у мінулым годзе, яны ахрысцілі энцыклапедыяй, хоць да энцыклапедыі ён не дацягвае. Кнігу зрабілі ў аўральным тэмпе…

Багдановіч у нашаніўскай плеядзе, бадай, самы еўрапейскі паэт і крытык. Усім адэратарам Максімавай паэзіі вядома, што ён знаходзіўся пад уплывам Поля Верлена. У артыкуле «Верлен» А. Сабуць піша пра сімваліцкаімпрэсіяністычную зладжаную танальнасць творчасці французскага паэта. І адзначае, што Багдановіч «выбудоўваў» сваю, нацыянальную мадэль паэтыкі імпрэсіянізму і сімвалізму — праўдзівую і непадробную». Чым беларуская нацыянальная мадэль паэтыкі імпрэсіянізму і сімвалізму адрозніваецца ад падобных з'яваў у іншых літаратурах, у чым яе праўдзівасць і непадробнасць, мусіць, трэба было б раскрыць у артыкулах «Імпрэсіянізм» і «Сімвалізм», але іх у энцыклапедыі няма. І такім чынам маштаб асобы нашага Максіма нешта страчвае.

Добра папрацаваў для даведніка Вячаслаў Рагойша, аўтар артыкулаў «Вершаскладанне», «Рытміка» і «Рыфміка». У гэтых артыкулах, асабліва ў першым, прыдаліся б спасылкі на У. Чаржынскага і А. Вазнясенскага, а то можна падумаць, што даследаванне асаблівасцяў Максімавага вершаскладання пачалося з Івана Ралько ды Міколы Грынчыка (пры ўсёй павазе да іх). Калі пра Вазнясенскага ў даведніку маецца асобны артыкул, дык Чаржынскі, ці не першы даследчык Максімавай паэтыкі, такога гонару не ўдастоены. Дзіўна, але ў кнізе пра паэта няма артыкулаў «Строфіка», «Фоніка» і «Эўфанія» (праўда, ёсць не вельмі абавязковы артыкул «Эўфемізм»).

Да пытання пра танальнасць… Антон Луцкевіч сцвярджаў, што Багдановіч «іграе на бэмолях», што паэт у «аснову свае гармоніі... паклаў лад мінорны». Вядома, што Антон Адамовіч спрабаваў абвергнуць гэты тэзіс і нават заняўся падлікам твораў, напісаных у розных танальнасцях. Аднак гэтаму пытанню ў даведніку не нададзена ўвага. Больш за тое, у кнізе няма артыкула пра Ант. Адамовіча. Гэтая недарэчнасць, як і адсутнасць у кнізе артыкулаў пра ўкладальніка «Вянка паэтычнай спадчыны» Багдановіча (Мюнхен, 1960) Станіслава Станкевіча і прадаўжальніцу Багдановічавай традыцыі ў паэзіі Наталлю Арсенневу, тлумачыцца проста: больш, чым пра навуковую каштоўнасць даведніка, энцыклапедысты думалі пра густы існага палітычнага рэжыму. Рыхтык гэтаксама рабілася і ў 1980-х, калі да друку рыхтаваўся том «Янка Купала»…

Лічу грубай памылкай энцыклапедыстаў тое, што ў даведніку няма асобнага артыкула пра выдадзеную ў 2002 г. кнігу М. Багдановіча «Стратим-лебёдь». Пішучы аб Рамане Лубкіўскім, В. Рагойша адмыслова адзначыў ролю гэтага ўкраінскага паэта і перакладчыка ў выданні першага замежнага поўнага збору твораў нашага Максіма. Мімаходам гэты збор твораў згадваецца ў артыкуле «Украінская літаратура і М. Багдановіч», але дэталёва разглядаецца толькі зборнік «Лірика» (1967).

Як мы ведаем, багдановічазнаўства пачынаецца з А. Луцкевіча. Хоць на Луцкевіча ў даведніку маецца шмат спасылак і яго шмат цытуюць, усё-такі яму не пашанцавала. Дастаткова сказаць, што на артыкул пра яго выдзелена 36 радкоў, а на артыкул пра Лявона Гмырака — 65...

Ведаць бібліяграфію А. Луцкевіча трэба хоць бы дзеля таго, каб не пісаць, што ў прадмове да віленскага перавыдання «Вянка» (1927) ён упершыню ў беларускім літаратуразнаўстве ахарактарызаваў Багдановіча як песняра чыстае красы і паэта паўтонаў. Рэцэнзія «Пясняр чыстай красы», нагадаю, убачыла свет адразу пасля выхаду «Вянка», прадмову ж да віленскага перавыдання гэтага зборніка Луцкевіч напісаў у 1921 г. (у 1927-м неістотна яе пашырыў).

Аўтары даведніка ідуць за каментатарамі Поўнага збору твораў М. Багдановіча, а тыя ішлі за каментатарамі яго двухтомніка (1968), калі імя Луцкевіча нельга было згадваць у станоўчым плане. Так, у артыкуле пра газету «Наша будучыня» (у даведніку яна названа «Нашай будучыняй») адзначана, што ў гэтым выданні ўпершыню надрукаваны 7 Багдановічавых перакладаў з Верлена, але пра тое, хто публікатар гэтых твораў і аўтар прадмовы да іх, — ані слова. У артыкуле пра «Гадавік Беларускага навуковага таварыства» (1933) не паказана, хто ж упершыню апублікаваў у ім Багдановічаў верш «Крытыку», пераклад Верленавых «Ракавак» і лісты Максіма да супрацоўнікаў «Маладой Беларусі» ды «Нашай Нівы». І зусім не згадваецца апублікаваны ў «Гадавіку...» артыкул Луцкевіча «Галоўныя кірункі ў беларускай паэзіі» (а ў ім вялася гаворка і пра Багдановіча). Што ж тычыцца зборніка «Заходняя Беларусь» (1923), у якім Луцкевіч упершыню апублікаваў верш Максіма Кніжніка «Дзень добры, пане! Вось Вам просты надпіс...» («Пану Антону Навіне»), дык артыкула пра яго наогул няма.

Але яшчэ больш дзіўна, што няма артыкула пра «Нашу Ніву» — газету, у якой Багдановіч дэбютаваў і ў якой ўпершыню надрукаваў шмат сваіх твораў. Артыкул пра верш паэта «Нашай Ніве» справы не папраўляе. І артыкул Таццяны Вабішчэвіч «Лірыка М. Багдановіча ва ўспрыманні нашаніўскіх сучаснікаў» таксама.

Раз ужо няма артыкула пра «Нашу Ніву», пагатоў няма ў тым даведніку і артыкула пра Беларускую сацыялістычную Грамаду — партыю, лідэры якой наладзілі выпуск газеты і сябрам якое быў таксама паэт чыстай красы (недарма ж А. Луцкевіч у некралогу назваў песняра Таварышам — менавіта гэтак, з вялікае літары).

Даведнік рабіўся паводле прынцыпу «з плеч ды ў печ». Але якія б не былі прычыны недагляду, недадумвання і замоўчвання, трэба шчыра сказаць, што кніга атрымалася сырая. У старыя часы даведнік хвалілі б за тое, што ўсё ж штосьці ўдалося «працягнуць» і паказаць, цяпер жа часы іншыя: ад складальнікаў кніг такога роду патрабуецца праўдзівасць, вернасць фактам, аб'ектыўнасць. Калі ўсяго гэтага няма, кніга не можа прэтэндаваць на званне навуковага выдання. На жаль, як і ў савецкі час, мы маем справу з падабенствам навукі, паўнавукай.

**1 чэрвеня 2012 г.**
**в. Задуб'е Ганцавіцкага раёна**

АГЛЯД

# «ПРАЧНУЦЦА СЯРОД НОЧЫ…»

ЛеГАЛ

**Цяперашні стан беларускай літаратуры ў грамадстве змушае мяне пераглядаць сваё ранейшае стаўленне да гэтага працэсу. Думаю, што нарэшце і пераважная большасць саміх творцаў таксама змяніла ўласны пункт погляду на незапатрабаванасць свайго таленту гэтым грамадствам.**



Літаратурныя творцы сталі пэўным чынам ізгоямі-маргіналамі і патрапілі ў апалу ад просталінейнай прагматычнай масаўдыторыі, у якую, нібы ў чорную дзірку, зацягвае ўсё большую частку насельніцтва. Апынуўшыся наўзбочы сацыяльнага працэсу і зразумеўшы гэта, паэты і празаікі пачалі шукаць свой уласны, незалежны ад таго працэсу, шлях, скіраваны і разлічаны на мажлівую запатрабаванасць іх мастацкага плёну будучым пакаленнем ці далёкімі наступнікамі. Напэўна, гэта крайні і не дарэшты надзейны прынцып творчага ўвасаблення, але адзін з найбольш магчымых.

Мабыць, абапіраючыся на сказанае, трэба пачаць агляд гэтага нумара «Дзеяслова»з ёмкага і даходлівага артыкула **Валянціна Акудовіча** «Нацыянальны канон: партытура для рэквіюма». Мне здаецца, філосаф сабраў у ім свае праграмныя тэзы з ранейшых тэкстаў гэтай тэматыкі, выціснуўшы з іх нетрывіяльны і доказны цымус. Бадай, і спрачацца з аўтарам тут не выпадае, бо акрэсленае і прааналізаванае ім змушае самотна схіліць галаву ў прызнанні яго праваты, хоць сам ён засцерагаецца ад непагрэшнасці сваіх высноў і спасылаецца ў далейшым на «больш грунтоўныя дагледзіны — як і крытычныя ініцыятывы». Але сцвярджаючы, што сфармуляваны ім «нацыянальны канон апынуўся сацыяльна і палітычна не інструментальным», аўтар заклікае нас не забываць, што гэты канон «адным сваім фактам накрэсліў гістарычную перспектыву беларусаў, якая ў значным сэнсе паўплывала на хаду палітычных падзеяў, хаця сам падзеяй так і не стаўся». Бо, засцерагаючы ад поўнай апатыі і гібласці, В. Акудовіч кажа напрыканцы, што«сёння нацыянальны канон — гэта трагічная музыка, якую спарадзілі самыя высокія парыванні беларускага духа. І — прабачце за падлеткавы пафас, — як музыка будзе гучаць вечна, прынамсі да той пары, пакуль Беларусь для беларусаў будзе заставацца жыццядайнай каштоўнасцю».

Вось, калі дарэшты верыць філосафу, што ў нас яшчэ ёсць і што нам засталося… Але гэта менавіта якраз тое, што і дае сапраўдным творцам падставу і неўміручую, кажучы па-акудовічаўску, хэнць для ўвасаблення свайго мастацтва не толькі ў душах і галовах людзей, але і ў іх рэчаісным быцці. Няхай і ў будучым.

У гэтым рэчышчы выдрукавана некалькі матэрыялаў новага «Дзеяслова». Найперш трэба вылучыць аповесць **Барыса Пятровіча** «Спачатку была цемра» ды апублікаваныя ёй наўслед запісы, дзённікі і нататкі Уладзіміра Някляева, Кастуся Цвіркі і Ніла Гілевіча.

Пачну з асноўнага і набалелага — з цемры. Аповесць Пятровіча — гэта своеасаблівы гратэск на сучаснае беларускае грамадства. Не памятаю больш глыбокага, арыгінальнага і ў той жа час чытэльнага мастацкага твора на гэтую, усё яшчэ небяспечную для нас, тэму ў айчыннай літаратуры апошняга часу. Так, была шырока і гучна заяўленая на публіку проза некаторых айчынных аўтараў, але ўсё ж, асабіста для мяне, гэтая аповесць падаецца найбольш адметнай, а ў мастацкім праяўленні выбітной творчай удачай пісьменніка. Бадай, адзіны празаічны твор, які напрошваецца з памяці (не ў канкурэнты, а пэўным чынам у папярэднікі аповесці Б. Пятровіча) — гэта напісаная яшчэ напрыканцы 90-х гадоў аповесць Юры Станкевіча «Любіць ноч — права пацукоў». «Роднасць» іх не толькі наша беларуская ноч/цемра, але і строга вытрыманая гармонія стылістыкі і унутранай філасофіі твораў. У аповесці «Спачатку была цемра» паказаны зрэз як духоўнай нацыянальнай нішчымніцы, так і сацыяльнай затхласці беларускага грамадства. Аповед вядзецца ад гарбачоўскай перабудовы да пачатку прэзідэнцтва ў суверэннай Рэспубліцы Беларусь. Аўтар вельмі дасціпна ўвёў у структуру твора вядомых (і многімі чытачамі пазнавальных) адраджэнцаў, з духоўна-нацыяналістычнага хаўрусу якіх вывеў і свайго няшчаснага ва ўсіх сэнсах, але годнага героя. Яго збіваюць за «нацдэмаўшчыну» амаль да смяротнага стану, пакінуўшы ў кустоўі наўзбоч дарогі, і ён цудам, выпадкова, як тая стаптаная трава, наноў вяртаецца да жыцця… Не памятаючы ні свайго імя, ні хто ён ёсць, чый, дзе і як… Апынуўшыся ў інтэрнаце, а па сутнасці ў доме для ціхіх вар'ятаў і перастарэлых ды адзінокіх людзей, пацыху-памалу акрыяўшы, ён пачынае сябе ўспамінаць… і даходзіць да сваёй чалавечай сутнасці… Вобраз героя ўяўляецца мне тонка выпісаным сімвалам самой беларускай нацыі з яе балючым і задоўжаным адраджэннем. А дом-інтэрнат — гэта месца, дзе губіцца, але падчас і завязваюцца зачаткі яе (нацыі-народа) розуму і свядомасці. Аўтар піша наўпрост: «Дом-інтэрнат не проста дзяржава ў мініяцюры, гэта — своеасаблівы канцлагер, дзе ў жаданні выжыць кожны кожнаму робіцца ворагам». Тут усім і ўсімі безаглядна кіруе дэспатычны галоўны ўрач. А тое, што дзеецца ўнутры дома — гэта абыякавасць кінутых людзей да свайго існавання, страх да праяў і ўсведамлення сапраўднага чалавечага жыцця. Тут і натуральнае дзікунства ў паводзінах, і сэксуальная похаць, і самазабойствы, і спадзевы на сяброўства ды ўзаемадапамогу. Паралельна — адсочка з боку КДБ і сексоцтва людзей, якім давараў… Здавалася б, з гэтага дурдома няма абсалютна ніякага выйсця. Напаўгалоднае існаванне, цёмнасць, забітасць і забытасць з боку вонкавага свету проста на корані нішчаць любую магуліну надзеі на прасвятленне, а тым больш на нейкае выратаванне. Але тое ўсё ж сталася — дзякуючы нечалавечай вытрымцы і ўнутранай духоўнай барацьбе ды нязгаснай веры галоўнага героя аповесці… Ды як толькі ён ажывае і даходзіць да самаўсведамлення і паўнавартасці, — тут жа (з аднаго боку) канчаткова знішчыць яго, як чалавека, і (з другога боку) нарэшце вырваць з гэтай неварацi, адначасна едуць у інтэрнат — з усходу (былы дружбан, а насамрэч стукач, які не даў рады забіць яго насмерць у першым выпадку), і з захаду (яго верная каханка і сябар)… Аўтар абсалютна справядліва не паказвае нам фіналу гэтай гісторыі (не ўстройвае ні краху нацыянальнай ідэі, ні яе хэпі-энду), пакідаючы чытача ў няведанні, але душэўным аптымізмам і святлом заключнага раздзела дае надзею на наша чалавечае і нацыянальнае самасцвярджэнне… Яно яшчэ далёка, але няўхільна набліжаецца… «Уладзя сядзеў у дворыку інтэрната і чытаў Біблію. Падняў галаву да птушак у празрыста-светлым небе: журавліны клін ляцеў проста на сонца… Падумаў: «Бог ёсць святло. Значыць, маё вяртанне з цемры да святла ёсць… вяртанне да… Бога… Усё проста? Усё так проста! Мы жывём, пакуль імкнемся да святла, пакуль святло у нас перамагае цемру…» Яму стала спакойна і лёгка на душы. Мо ўпершыню за тыя месяцы, як ён ачнуўся».

**Аповесць Пятровіча — гэта своеасаблівы гратэск на сучаснае беларускае грамадства. Не памятаю больш глыбокага, арыгінальнага і ў той жа час чытэльнага мастацкага твора на гэтую тэму ў айчыннай літаратуры апошняга часу**

У творы, дарэчы, і шмат іншых, не адразу заўважных, сімвалаў і падтэкставых адсылак да сучаснай беларускай рэчаіснасці, што дадае яму мастацкай загадкавасці і глыбіні.

Пэўна, знойдуцца і тыя, хто кіне мне папрок у фіміямным курэнні галоўнаму рэдактару часопіса. Але трэба ведаць ЛеГАЛа ці хаця б перад тым прачытаць згаданую аповесць. Так, я магу памыляцца і мець занадта суб'ектыўны погляд на гэты твор, але сам твор не дасць схлусіць і схаваць сваю сапраўднасць.

Пэўным чынам працягваюць і дапаўняюць тэму аповесці і запісы «Знакі прыпынку» **Уладзіміра Някляева.** Можа, занадта выштукаваныя ў мастацкім плане, але яны яскрава паказваюць нам як унутраны, так і вонкавы свет беларускага чалавека-інтэлігента, які адстойвае грамадскія і свае ўласныя правы і свабоды. Асабліва кранаюць нататкі з прыватнага жыцця і тыя, што тычацца літаратурнай праблематыкі (і прызнанні ўласных «савецкіх» памылак, і шпількі калегам, і палеміка па сутнасці). Агулам запісы нагадваюць лёсавыя разважанні паэта, якія нечым падобныя на выседжанае яйка, з якога прабіваецца яшчэ кволае, але ўжо вострае пулянё ісціны. І тым самым захоўваецца інтрыга працягу і заканчэння працэсу.

**Ніл Гілевіч** у выбраных старонках з дзённіка «Дзве тысячы другога года», як заўсёды, даволі песімістычны і эгацэнтрычны. Выступы, імпрэзы, вечары, юбілеі… Чалавечае жыццё прамінае, але затрымлівае нас да свайго астатку. Канечне, вартасць і адметнасць Ніла Сямёнавіча ў грамадска-палітычным працэсе і вылучнасць яго ў змагарнай эліце неаспрэчныя, але гэта ўжо справа часу і новых пакаленняў. Сам чалавек не можа вызначыць сваё месца ў будучым. На жаль, народны паэт гэтай публікацыяй канчаткова развітваецца з чытачом: «Завяршыўся 2002-і — завяршыўся і дзённік майго жыцця. Больш запісаў не раблю. Не бачу сэнсу. Каб нехта некалі зразумеў, у які час я жыў і як лёс са мною і з намі абыходзіўся — дастаткова таго, што напісана: і ў дзённіку, і ў артыкулах, і ў вершах…».

Скончвае свой вясковы дзённік 2010 года («Дні мае, падарункі») і Кастусь Цвірка. У адрозненне ад У. Някляева, у яго ўсё прыземленае, празаічнае, традыцыйна-фальклорнае, аднак жа — сваё, жывое, балючае і любае… Дарэчы, і К. Цвірка рашыўся на самакрытыку: «Разгарнуў адзін з самых першых сваіх вершаваных зборнічкаў і адчуў, як увесь твар заліўся агнём сораму. Пякучага сораму перад самім сабой. За бяздумную «ідэйную» траскатню. Толькі ці адзін я пападаўся тады ў шырока расстаўленыя сеці камуністычнага цемрашальства? Ды гэта мала суцяшае». Як позна мы прызнаём свае памылкі. Гэта я да таго, што і сённяшнія маладзейшыя творцы, няхай і з іншых, не «ідэйных», прычын, нярэдка апускаюцца да псеўдамастацтва. Няўжо каб пасля праз дзесяцігоддзі з сорамам адгортваць старонкі сваіх першых кніжак і публікацый?..

Вяртае нас з сённяшняй зашоранасці дзён і песімістычных настрояў вядомы пісьменнік **Генрых Далідовіч,** які працягвае публікаваць гістарычны раман у апавяданнях з прадмовай і пасляслоўямі «Рурыкавічы і Рагвалодавічы». Захапляльныя сюжэты з гісторыі старажытнай Беларушчыны, якія аўтар увасабляе ў мастацкую вобразную карціну, кіруючыся ўласнымі ідэйнымі і духоўнымі парываннямі. Як дарэшты скампануецца і будзе выглядаць твор цалкам — неўзабаве даведаемся.

Яшчэ адна прыкметная публікацыя нумара — нізка вершаў **Андрэя Хадановіча** «Новы рэалізм». Для мяне большасць вершаў з гэтай нізкі, бадай, лепшыя з мной чытаных у аўтара. Вядома, што новая форма і стылістыка не змяняюць да непазнавальнасці агульнавядомага строю яго твораў, але вонкавы свет у новых вершах пачынае «заглыбляцца», праламляючыся ўнутр да наўзбочных выяўленняў і хісткіх лёсавызначальных экзістэнцый…

Нельга пакінуць па-за ўвагай літаратуразнаўчы артыкул **Алеся Бяляцкага** (напісаны ў турме) «Асвячоны Беларушчынай (лёс і творчасць Хвядоса Шынклера)». У адрозненне ад шматлікіх публікацый падобнага тэмату, гэты тэкст напісаны арыгінальна і жыва. Шлях бязглузда звядзенага савецкім і ваенным часам пісьменніка падаецца паралельна з нашымі сучаснымі жыццёвымі рэаліямі, што вымагае ад чытача адпаведных развагі.

У памяць пра рана адышоўшую з жыцця **Арыну Вележ (Вячорку)** — друкуюцца яе вершы і карціны з цёплай прадмовай сына Франака.

Не хацелася б крыўдзіць тых аўтараў, пра якіх з-за аб'ёму тэкста давядзецца казаць бегла. З прозы падаліся цікавымі і арыгінальнымі, як па змесце, так і па форме, аповеды **Зміцера Дзядзенкі.** З паэзіі даволі відавочныя ўдачы і пралікі ў таленавітага маладога паэта **Антона Рудака.**

У дадатак вы можаце прачытаць у гэтым нумары: прозу **Лідзіі Арабей** і зацемкі дэбютанта **Зміцера Баяровіча,** вершы **Галіны Каржанеўскай, Васіля Дэбіша** (цытатай з яго твора названы гэты агляд), **Юры Гуменюка,** пераклады паэзіі **Аўгуста Стрынберга** (са шведскай) і **Валадзімера Барны** (з украінскай), літаратурны артыкул **Аксаны Даніяльчык,** эсэ **Наталкі Харытанюк,** гутаркі А. Масквіна з Марыяй Марты-севіч і К. Базмецерных з Марыяй і Мікалаем Ісаёнкамі, рэцэнзіі Л. Галубовіча на зборнік М. Вайцяшонак і А. Лапіцкай на кнігу П. Касцюкевіча. «Дзеяпісам» пра новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова» завяршаюцца публікацыі 59-га нумара. Як на мой погляд, даволі ўдалага і адметнага.

▸ КАЛЕЙДАСКОП

# СТРАСЦІ ПА НОБЕЛЮ

**Брытанская букмекерская кантора «Ladbrokes» пачала прымаць стаўкі на лаўрэата Нобелеўскай прэміі па літаратуры 2012 года.**



Харукі Муракамі

Галоўным прэтэндэнтам на Нобелеўку «Ladbrokes» называе японскага пісьменніка Харукі Муракамі, аўтара «Нарвежскага лесу», на чыю перамогу стаўкі прымаюцца з каэфіцыентам 10 да 1. У ліку фаварытаў — кітайскі пісьменнік Мо Янь (12/1), галандскі аўтар Сейс Нотэбом (12/1), албанскі паэт і празаік Ісмаіл Кадарэ (14/1), паэт сірыйскага паходжання Аданіс (14/1) і паўднёвакарэйскі паэт Да Ун (14/1).

У спісе прэтэндэнтаў на Нобелеўскую прэмію традыцыйна называюцца Умберта Эка, Салман Рушдзі, Філіп Рот, Кормак Макарці і Томас Пінчон.

Усяго сёлета на Нобелеўскую прэмію па літаратуры прэтэндуюць 210 празаікаў і паэтаў, з якіх 46 — упершыню, паведаміла «The Guardian». «Незвычайна высокая колькасць былых лаўрэатаў Нобелеўскай прэміі скарысталіся сваім правам на вылучэнне прэтэндэнтаў», — напісаў сакратар Шведскай Акадэміі Петэр Энглунд. У спіс жа букмекераў пакуль патрапілі 107 прэтэндэнтаў.

Вядома, гэты рэйтынг — пакуль папярэдні: да абвяшчэння лаўрэата 2012 года засталося яшчэ два месяцы, за якія ўсё можа змяніцца. Таму давяраць меркаванню брокераў не варта. Напрыклад, сірыйскі паэт Аданіс лічыўся фаварытам летась, але прэмію атрымаў Томас Транстрэмер са Швецыі. Сёлета Аданіс пакуль дзеліць чацвёртае-шостае месцы.

У спісе букмекераў на дадзены момант прысутнічаюць два аўтары з Расіі: паэт Яўгеній Еўтушэнка і празаік Віктар Пялевін. «Ladbrokes» ацэньвае шанцы Еўтушэнкі як 66 да 1, а Пялевіна — 100 да 1. І Еўтушэнка, і Пялевін трапляюць у спісы букмекераў некалькі апошніх гадоў.

Імя ўладальніка адной з самых прэстыжных прэмій у галіне літаратуры стане вядома напачатку кастрычніка.

▸ «ЭМЭЙЛ»-ПЫТАННЕ

# ЧЫЯ КРОЎ У АПАЛІНЭРА?

***«26 жніўня 1880 года нарадзіўся славуты французскі паэт Гіём Апалінэр. У беларускіх, як і замежных СМІ, інтэрнэтсайтах паведамлялася, што яго маці — польская арыстакратка Анжаліка Кастравіцкая. Раней жа мне даводзілася прачытаць, што Апалінэр — родзіч беларускаму паэту Карусю Каганцу, а ягоная маці — беларуска. Калі ласка, раскрыйце праўду…***

***Антаніна Мацко, настаўніца, г. Стоўбцы.»***



Насамрэч, радаводныя галіны Гіёма Апалінэра па матчынай лініі належаць беларускаму дрэву Кастравіцкіх.

Першым з рода Кастравіцкіх дакументы захавалі імя Івана, праваслаўнага шляхціча, скарбніка Мсціслаўскага княства. У XVI стагоддзі яго ўнук Сцяпан Кастравіцкі прыняў каталіцкую веру. Пасля пярэбараў з «родавага гнязда» — гарадзенскіх Кастровіч — на Меншчыну Кастравіцкіх «перапісалі» з віленскіх дваранаў у менскія. Захаваўся і дакумент аб зацвярджэнні Кастравіцкім шляхецкай годнасці — ва «Указе Правительствующего Сената Герольдии» ад 30 чэрвеня 1834 года (Менскі дваранскі сход запісаў Кастравіцкіх як прадстаўнікоў паважанага старажытнага роду ў шостую частку дваранскай радаслоўнай кнігі).

Кастравіцкія прынялі дзейсны ўдзел у антырасійскім паўстанні 1863 года — і былі жорстка пакараныя. Карл (Кароль) Самуілавіч Кастравіцкі, бацька будучага беларускага пісьменніка Каруся Каганца, быў высланы ў Сібір. Ягоны ж брат Міхаіл Апалінарый Кастравіцкі, штабс-капітан рускай арміі, таксама паўстанец 1863 года, здолеў эміграваць у Еўропу. Праз пэўны час у Рыме ў ягонай дачкі Анжалікі «пазашлюбна» і народзіцца сын Вільгельм Альберт Уладзімір Аляксандр, які за псеўданім возьме дзедава імя і стане сусветна вядомым паэтам Апалінэрам…

# МУЗЕЙ АЙТМАТАВА Ў ПЕРАДЗЕЛКІНА?

**Спадчыннікі Чынгіза Айтматава падалі скаргу на дзеянні Міжнароднага літаратурнага фонда ў камісію Грамадскай палаты Расіі па культуры. Як паведамляецца на сайце ГП, Літфонд паспрабаваў высяліць спадчыннікаў пісьменніка з дома ў падмаскоўным Перадзелкіна, дзе яны збіраліся зрабіць музей.**

Пытанне пра стварэнне дома-музея пісьменніка павінна было вырашыцца ў верасні, аднак, як паведамляецца, 21 жніўня судовыя прыставы і паліцыянты спрабавалі выселіць спадчыннікаў.

У мястэчку пісьменнікаў у Перадзелкіна Айтматаў жыў з 1988 года. У ліку першых пісьменнікаў, якія пасяліліся там у сярэдзіне 1930-х гадоў, былі Барыс Пастэрнак, Ілля Ільф і Яўгеній Пятроў. У розныя гады ў Перадзелкіна жылі Булат Акуджава, Карней Чукоўскі, Валянцін Катаеў і многія іншыя.

У наш час у мястэчку ўжо існуюць музеі Пастэрнака, Чукоўскага і Акуджавы, а таксама галерэя-музей Яўгенія Еўтушэнкі. Падобны музей хацелі адкрыць і да 85-годдзя з дня нараджэння Айтматава, аднак, па словах спадчыннікаў пісьменніка, Літфонд хоча стварыць адзін агульны музей з экспазіцыямі, прысвечанымі розным пісьменнікам.

У камісіі пры Грамадскай палаце заявілі, што збіраюцца ініцыяваць праверку дзейнасці Літфонда дзеля таго, каб захаваць мястэчка ў ранейшым выглядзе.

# ПАЛОВА ПРАВОЎ НА «ЗНЕСЕНЫХ ВЕТРАМ»

**Пляменнік амерыканскай пісьменніцы Маргарэт Мітчэл (1900—1949) Джозаф Мітчэл у сваім тэстаменце падарыў Каталіцкай Царкве ЗША мільёны даляраў і 50% правоў на распаўсюд «Знесеных ветрам».**



Раман «Знесеныя ветрам» пра лёс дачкі баваўнянага плантатара Скарлет О'Хара ў часы грамадзянскай вайны выйшаў у 1936 годзе. Экранізацыя рэжысёра Віктара Флемінга з 1939-а стала адным з самых прыбытковых фільмаў усіх часоў. Стужка зарабіла ў свеце больш 400 мільёнаў даляраў.

Архідыяцэзія Атланты можа разлічваць на сотні тысяч даляраў штогод. 50-адсоткавы ўдзел царквы ў правах на гандлёвую марку і аўтарскіх правах распаўсюджваецца таксама і да выпадкаў перапрацоўкі «Знесеных ветрам» для тэатра і балета.

Джозаф Мітчэл, адзін з двух сыноў Стывена Мітчэла, брата пісьменніцы, памёр у кастрычніку 2011-га ва ўзросце 76 гадоў. Ён быў членам кафедральнага прыходу Пана Хрыста ў Атланце і імкнуўся, каб храм і супольнасць атрымлівалі адмысловую падтрымку ад вернікаў. Апроч велізарнай сумы грошай, спадчына Мітчэла, перададзеная архідыяцэзіі Атланты, уключае збор уласнаручна падпісаных Маргарэт Мітчэл першых выданняў рамана з розных краінаў свету і яе асабістыя рэчы.

Архідыяцэзія Атланты абяцае, што выкарыстае атрыманую спадчыну паводле волі памерлага ахвярадаўцы. Архібіскуп Уілтон Грэгары перавядзе 7,5 млн даляраў на будаўніцтва кафедральнага храма, 1,5 млн даляраў атрымаюць сацыяльныя арганізацыі архідыяцэзіі, а 2 млн даляраў пойдуць на стварэнне адмысловага фонда.

# ПРЭМІЯ ІМЯ АЛЯКСАНДРА ГРЫНА

**Лаўрэатам Усерасійскай прэміі Аляксандра Грына стаў уральскі пісьменнік Віктар Патанін з Кургана.**



Прэмія імя Аляксандра Грына была заснавана да 120-годдзя з дня нараджэння пісьменніка і прысуджаецца за творы для дзяцей і юнацтва, прасякнутыя духам рамантыкі і надзеі. Лаўрэату ўручаецца знак з выявай А. Грына, дыплом і 45 тыс. расійскіх рублёў.

Раней Віктар Патанін ужо быў уганараваны літаратурнымі прэміямі імя Буніна, Шукшына і Мамчына-Сібірака. А ў 2007 годзе выйшаў пяцітомны збор яго твораў.

# НАЦЫЯНАЛЬНЫ ЛІТПАДЗЕЛ

**Іэн Мак'юэн, лаўрэат Букераўскай прэміі, адзін з самых вядомых і паспяховых сучасных пісьменнікаў Вялікабрытаніі, заявіў, што з'яўляецца ангельскім, а не брытанскім пісьменнікам. Падобнае прызнанне, як паведаміла «The Guardian», аўтар рамана «Амстэрдам» зрабіў на Эдынбургскім фестывалі ў гутарцы з першым міністрам Шатландыі Алексам Салмондам.**



Мак'юэн і Салмонд размаўлялі пра спецыфіку нацыянальнай літаратуры, калі пісьменнік адзначыў, што ангельская і шатландская літаратуры маюць розныя карані і сваю спецыфіку.

Па ягоным меркаванні, нацыянальныя літаратуры не зніклі пасля з'яўлення Злучанага Каралеўства, і правільней было б казаць пра ангельскіх раманістаў і шатландскіх паэтаў, а не пра брытанскіх. У нейкім сэнсе, паводле пісьменніка, уся літаратура «правінцыйная», аднак ён падкрэсліў, што не выкарыстоўвае гэтае слова ў зневажальным значэнні.

У гаворцы былі згаданыя і Алімпійскія гульні ў Лондане, якія, як заявіў Мак'юэн, сталі ўшанаваннем менавіта «брытанства». У выпадку з культурай пісьменнік раіць «нацыянальнае падзяляць».

На Эдынбургскім фестывалі за некалькі дзён да гэтага тэму «ангельскасці» падняў і пісьменнік Ірвін Ўэлш, які, па сутнасці, абвінаваціў арганізатараў Букераўскай прэміі ў дыскрымінацыі. Ён адзначыў, што сярод лаўрэатаў прэміі толькі брытанскія пісьменнікі сярэдняга і верхняга класаў або выхадцы з былых калоній. Шатландскай жа літаратуры, заявіў Ўэлш, цяпер цяжка прабіцца да лонданскіх выдаўцоў.

Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА. Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91.
Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

## 5 КАСТРЫЧНІКА, ПЯТНІЦА

**1**

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 02.40** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Камедыйны серыял «Суседзі» (Расія).
**10.10** Сфера інтарэсаў.
**10.25** Патрабуецца.
**10.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**10.55** Крымінальны серыял «Знахар-2. Паляванне без правіл» (Расія).
**12.10** Драма «Зніклая імперыя» (Расія).
**14.25** Заўтра - гэта мы!
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад».
**16.15** Каталіцкія святыні Беларусі.
**16.45** «Здароўе». Ток-шоў.
**17.25** Меладраматычны серыял «Маруся. Выпрабаванні» (Расія-Украіна).
**18.25, 02.10** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё « (Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.45** Тэлефільм АТН цыклу «Лёс гігантаў».
**22.10** Крымінальны серыял «Знахар-2. Паляванне без правіл» (Расія).
**23.25** Драма «Містычныя гісторыі» (Украіна).
**00.25** Прэм'ера. Экшн-трылер «Санктум» (ЗША-Аўстралія).
**02.55** Дзень спорту.

**ОНТ**

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**09.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.20** «Зразумець. Прабачыць».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фурцава». Шматсерыйны фільм.
**12.05** Прэм'ера. «Усё ў імя кахання».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** Прэм'ера сезону «Час абедаць!».
**13.50** «Модны прысуд».
**14.55** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Кантрольны закуп».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** АНТ прадстаўляе: «Чакай мяне». Беларусь.
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Сёння ўвечар».
**22.40** «Што? Дзе? Калі?» у Беларусі.
**23.55** Фільм «Лівень».
**01.40** Начныя навіны.

**СТВ**

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Аўтапанарама».
**08.50** Фільм «Дзе хаваецца праўда». Канада- Вялікабрытанія, 2005 г.



**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.35** «Прошаная вячэра». Лепшае.
**12.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Медыкі». Серыял. Заключная серыя.
**14.40** «Доктар Тырса». Серыял.
**15.30** «Гадзіна суду».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Чаму мужчыны ніколі не слухаюць, а жанчыны не ўмеюць паркавацца». Германія, 2007 г.



**22.20** «Гарады, што спяваюць».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** Прэм'ера: «Пагаворым». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**23.05** «СТБ-спорт».
**23.10** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**00.00** «Перамажы Покерстарз».
**00.50** «Адмысловы праект».

**2**

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Беларусь.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Ды Вінчы» (Канада). 5-я серыя.
**10.10** Час футболу.
**11.00** Еш і худзей Заключны выпуск.
**11.30** Школа рамонту.
**12.35** Футбол. Ліга Еўропы.
**14.30** Дэтэктыў «Вар'яцкі лістапад 2» (Украіна).
**16.25** Дакументальны цыкл «Вышэйшая мера».
**17.15** Беларуская кухня.
**17.50** Рэгіянальная праграма.
**18.55** «Халі-галі». Скетч-шоў.
**19.20** Арэна.
**19.50** Фактар сілы.
**20.25** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Бітва экстрасэнсаў.
**22.40** Камедыйная меладрама «Кароткі мантаж» (ЗША).

**РОССИЯ**

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Кахаю, не магу!».
**11.00** Весткі.
**11.30** «Уся Расія».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Аператыўнікі. Хронікі забойнага аддзела».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Зоннентау».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.45** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Апошні кардон».
**22.20** «ХОР-ШОУ». 1/2 фіналу.
**23.30** Навіны - Беларусь.
**23.40** Фільм «Каханне па раскладзе» (2012 г.).

**НТВ**

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.40** Серыял «Вяртанне Мухтара».



**09.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**10.00** Сёння.
**10.20** «І зноў добры дзень!».
**11.15** «Да суду».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.30** «Таямнічая Расія».
**15.10** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Вострасюжэтны фільм «Гонар Самурая».
**21.25** Дэтэктыўны серыял «Карпаў».
**00.05** Камедыйная меладрама «Прыгажунчык Алфі ці чаго жадаюць мужчыны».

**EUROSPORT**

**09.30** Тэніс: Турнір WTA. Пекін - 1/8 фіналу.
**10.00** Тэніс: Турнір WTA. Пекін - 1/4 фіналу.
**16.00** Футбол: Кубак свету да 17 гадоў. Азербайджан - 1/4 фіналу.
**17.00** Футбол: Кубак свету да 17 гадоў. Азербайджан - 1/4 фіналу.
**18.00** Футбол: Кубак свету да 17 гадоў. Азербайджан - 1/4 фіналу.
**20.00** Снукер: Еўрапейскі тур. Польшча - Дзень 1.
**22.00** Бокс: Міжнародны паядынак.

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.30** «Пераемнікі», дакументальна-публіцыстычны цыкл.
**07.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**08.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**09.00** Аб'ектыў.
**09.25** Студыя «Белсат».
**09.40** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**17.50** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**18.15** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Матыльда».
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.30** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**20.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**20.30** «Людзі з граніту», рэпартаж, 2012 г., Літва.
**20.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**21.40** «Аер», трагедыя, 2009 г., Польшча.
**23.10** Аб'ектыў.
**23.35** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**00.05** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).

## 6 КАСТРЫЧНІКА, СУБОТА

**1**

**06.35** Існасць.
**07.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** Здароўе.
**10.00** Серыял «Вясковая камедыя» (Расія).
**11.05** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**11.35** Зямельнае пытанне.
**12.15** Лірычная камедыя «Прыходзьце заўтра» (СССР).
**14.15** Вакол планеты.
**15.10** Рэгіянальная праграма.
**15.35** Камедыя «Лемоні Снікет: 33 няшчасці» (ЗША).
**17.30** Дакументальны серыял «Неверагодныя гісторыі кахання» (Украіна).
**18.25** Таямніцы следства.
**19.10** Меладрама «Доўгачаканае каханне» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.40** Драма «Вайсковы нырэц» (ЗША).
**23.55** Дзень спорту.
**00.05** Серыял «Вясковая камедыя» (Расія).
**01.05** Перазагрузка.

**ОНТ**

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі».
**09.30** «Здароўе».
**10.35** «Смак».
**11.20** «Разумніцы і разумнікі».
**12.05** Прэм'ера. «Абракадабра».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Прэм'ера. «Вялікія гонкі».
**18.00** АНТ прадстаўляе: «Адзін супраць усіх».
**18.50** «Ды добра!».
**19.30** АНТ прадстаўляе: «Сардэчна запрашаем у Беларусь».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. «Голас».
**22.45** «Што? Дзе? Калі?».
**23.55** Прэм'ера. «Легенды рускага рока».

**СТВ**

**06.20** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**07.10** «Анфас».
**07.25** «Салдаты-14». Серыял.
**09.00** «Я - вандроўца».
**09.30** «Чыстая праца».
**10.25** «Мінск і мінчане».
**11.00** «Гарады, што спяваюць».
**11.10** Фільм «Чаму мужчыны ніколі не слухаюць, а жанчыны не ўмеюць паркавацца». Германія, 2007г.
**13.05** «Прыгоды дылетанта».
**13.35** Фільм «Вій». СССР, 1967г.
**15.05** «Ваенная таямніца».
**15.55** «Жанчыны ХХ стагоддзя».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.35** Фільм «Гульні ў салдацікі». Украіна, 2007г.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «Фрыда». ЗША-Канада-Мексіка 2002г.
**22.25** «Немагчымыя зялёныя вочы». Серыял.

**2**

**07.20** Казка.
**08.40** Дэтэктыў «Вар'яцкі лістапад 2» (Украіна).
**10.35** Школа рамонту.
**11.45** Тэлебарометр.
**11.50** Наперад у мінулае.
**12.25** Шоў «Суперінтуіцыя».
**13.30** Беларуская кухня.
**14.05** Пад грыфам «Вядомыя».
**14.40** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прамая трансляцыя.
**16.45** Футбол. Ліга Еўропы. Агляд тура.
**17.45** Дакументальны цыкл «Вышэйшая мера».
**19.00** Ваша лато.
**19.40** Латарэя «Пяцёрачка».
**19.50** Бітва экстрасэнсаў.
**21.00** «КЕНО».
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** Бітва экстрасэнсаў.
**22.20** Паліцэйская камедыя «Голы пісталет 2: Пах страху» (ЗША).
**23.55** Шоў «Суперінтуіцыя».
**00.40** Дзюдо. Кубак свету. Мужчыны.

**РОССИЯ**

**07.00** Фільм «Жаніх» (2011 г.).
**08.35** Фільм «Каханне па раскладзе» (2012 г.).
**10.25** «Ранішняя@пошта».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Суботнік».
**11.55** «Ха». Маленькія камедыі.
**12.15** Тэлесерыял «Блудныя дзеці».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Разабітае сэрца. Яўген Еўсігнееў».
**15.05** Фільм «Вялікая сям'я».
**17.05** «Суботні вечар».
**19.00** «Карціна свету».
**19.55** Надвор'е на тыдзень.
**20.00** Весткі ў суботу.
**20.40** Фільм «Беспасажніца». 2011 г.
**22.30** «ХОР-ШОУ». 1/2 фіналу.
**23.40** Фільм «Неспадзяваная радасць» (2012 г.).

**НТВ**

**06.20** Дэтэктыўны серыял «Муж і жонка».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Жывуць жа людзі!».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Справа густу».
**10.00** Сёння.
**10.20** Галоўная дарога.
**10.55** «Кулінарны паядынак».
**11.55** «Кватэрнае пытанне».
**13.00** Сёння.
**13.20** Фільм «Адстаўнік-2».
**15.05** «Жаночы погляд».
**16.00** Сёння.
**16.20** Следства вялі.
**17.10** «Вочная стаўка».
**18.05** Выратавальнікі.
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.30** «Прафесія-рэпарцёр».
**20.00** «Праграма Максімум».
**21.10** «Рускія сенсацыі». Інфармацыйны дэтэктыў.
**22.10** «Ты не паверыш!».
**23.15** Фантастычны баявік «Вайна светаў».
**01.15** «Прамень Святла».

**EUROSPORT**

**00.00** Боўлінг: ЗША.
**01.00** Аўта і Матаспорт.
**01.15** Снукер: Еўрапейскі тур. Польшча - Дзень 1.
**09.30** Фітнэс.
**09.45** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**10.00** Тэніс: Турнір WTA. Пекін.
**14.00** Снукер: Еўрапейскі тур. Польшча - Дзень 2.
**22.30** Баявыя мастацтвы: Байцоўскі клуб.

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.30** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**08.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Без рэтушы: «Людзі з граніту», рэпартаж, 2012 г., Літва.
**08.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**09.00** Аб'ектыў.
**09.25** Студыя «Белсат».
**09.40** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.10** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**10.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**10.55** Форум (ток-шоу).
**11.40** Казкі для дзетак: «Цюхця, што ты за стварэнне?!», «Фільм са страшнаю назваю», «Таямніца шыфру Марабу».
**12.10** «Школа на санцапёку», серыял: 14 серыя.
**12.35** «Мой родны горад», серыял: 35 серыя.
**13.00** «Дом ля поплаву», тэлесерыял: 4 серыя.
**13.45** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «Таямніца Гайнрыха Гімлера».
**14.35** «Праведнікі», тэлесерыял: 3 серыя.
**15.25** «СІА: таемныя войны», 2008 г., Францыя: фільм 3, «Вайна спрадвеку вайну (1990–2001)».
**16.20** «Аер», трагедыя, 2009 г., Польшча.
**17.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**18.00** «Пераемнікі», дакументальна-публіцыстычны цыкл.
**18.15** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Аповеды таты Бабра».
**19.00** «Рэвалюцыя», дак. фільм, 2007 г., Францыя: 1 серыя, «Парагвай».
**19.55** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**20.10** Зона «Свабоды».
**20.45** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Два на два (тэледыскусія).
**21.40** Суботні сеанс: «Была ці не была?», камедыя, 2006 г., Румынія.
**23.10** «Інстынкт», дэтэктыўны серыял: 5 серыя.
**23.55** Аб'ектыў.
**00.10** Жаўтуха (сатырычная праграма).

РЭЗАНАНС

# ТАТАРЫ СУПРАЦЬ АРДЫ

Алег НОВІКАЎ

**Фільм Андрэя Прошкіна «Арда» выклікаў пратэсты ў Татарстане. Шматлікія татары лічаць сябе прамымі нашчадкамі Залатой Арды, якая, на іх думку, негатыўна адлюстравана ў кінатворы.**

У аснову фільма лёг эпізод з жыцця свяціцеля Аляксея, мітрапаліта Кіеўскага, Маскоўскага і ўсёй Русі — яго паездка ў сталіцу Залатой Арды з намерам вылечыць Тайдулу, маці хана Джанібека, ад слепаты. Калі мітрапаліт зможа дапамагчы Тайдулу, ён атрымае ўзнагароду хана. Калі не — Маскоўскае княства будзе спалена. Прыбыўшы ў Арду, мітрапаліт і яго людзі апынаюцца ў складаным перапляценні ўсходніх інтрыг, нечаканых і жорсткіх падзей.

Аднак татарскім крытыкам карціны не спадабалася не фабула, а тое, як паказаны на экране самі мангола-татары. Вось як апісвае ўражанне ад убачанага адзін з іх: «Фільм дэманструе не толькі ваяўнічасць, але дзікасць, ідэйнае варварства ахопленай гвалтам і бессэнсоўнай нянавісцю Арды, якая душыць праваслаўны свет».

Нічога дзіўнага ў тым, што яшчэ на этапе здымак карціны сайты Татарстана абвінавацілі аўтараў фільма ва ўсіх смяротных грахах. Не паспела стужка выйсці на вялікі экран, як яна стала аб'ектам яшчэ большай колькасці атак. Важна адзначыць, што прэм'ера прайшла на фоне канфліктаў паміж Масквой і Казанню. Татарскія палітыкі вінавацяць Крэмль у імкненні скараціць сферу ўжывання татарскай мовы, прэрагатыў аўтаноміі, і нават у спробе кантролю выкання мусульманскіх абрадаў.

Увогуле, сам антытатарскі міф у Расіі існуе даўно. У савецкія часы ён быў замаскаваны дзякуючы ўсёмагутнай сіле кінамастацтва. У фундаменце палягае стэрэатып, што мангола-татары былі «каварнымі, агрэсіўнымі дзікунамі». Менавіта з-за паходу Батыя і мангольскага нашэсця Русь, а пасля Расія адсталі ад Еўропы ў тэхнічным развіцці. Акрамя адставання ад Еўропы, татарам прыпісваюць негатыўны ўплыў на рускі характар.



Шавінізм рускіх не хутка пройдзе, палітыка ціску будзе працягнутая. Расійскі ўрад і надалей будзе фінансаваць стварэнне хлуслівых кінастужак

Усе гэтыя аргументы даўно аспрэчваюцца гісторыкамі. Дастаткова згадаць тэзіс пра тое ж нашэсце. Крытыкі антытатарскіх міфаў прапануюць узгадаць, які статус меў Кітай пасля акупацыі манголамі. У Кітаі была ліквідавана кіруючая дынастыя, а кітайцам было забаронена мець свае войска. На Русі дынастыя Рурыкаў захавалася, войска ўтрымліваць дазвалялася. Больш таго, рускія князі былі часам заўважнымі акторамі ўнутранай мангольскай палітыкі, ахвотна рабілі стаўкі на розныя групоўкі і выкарыстоўвалі іх у сваіх мэтах. І смех, і грэх — аднак Масква стала цэнтрам інтэграцыі рускіх зямель дзякуючы таму, што Іван Каліта рукамі манголаў ліквідаваў сваіх рускіх князёў-канкурэнтаў. Такім чынам, калі хтосьці з татараў нападаў на рускіх, гэта зусім не азначае, што ён быў ворагам усёй Русі, і калі хтосьці з рускіх ваяваў з татарамі, гэта зусім не азначае, што ён выступаў супраць Арды.

Пра ўсё гэта мусілі ведаць стваральнікі фільму. Больш таго, яны запрасілі шмат кансультантаў-гісторыкаў, якія ў выніку засталіся ў шоку ад пабачанага на экране. Татарская служба Радыя «Свабода» цытуе аднаго з такіх гісторыкаў, Вадзіма Рудакова: «Некаторым з іх (татара-манголам) надалі чалавечыя якасці, але агульнае ўражанне — гэта жорсткія, крыважэрныя людзі. Нават іх жарты з'яўляюцца плоскімі і дурнымі. Усё гэта — у горшых традыцыях старых савецкіх фільмаў пра татара-манголаў і качэўнікаў».

Іншы гісторык Айрат Тухфатулін лічыць, што рускія павінны дзякаваць выяўленаму на экране дэспатам хану Джанібеку, паколькі ён дараваў Русі вялікую ступень аўтаноміі. «Перыяд кіравання Джанібека — гэта перыяд росквіту дэмакратыі. Рускія летапісы называюць яго «добры цар Джанібек». Перыяд Джанібека — гэта перыяд росту рускай царквы. Будуюцца храмы. Няма ганенняў на рэлігію».

Нашто, з улікам наяўнасці такой колькасці кансультантаў, рэжысёру было маляваць Залатую Арду як імперыю, у якой быццам кіраваў выключна нематываваны азіяцкі гвалт?

Сам рэжысёр кажа, што ім рухала салідарнасць з тымі, каго прыгнятаюць. «У маім фільме няма тэмы вызвалення Русі. Я не ставіў такой мэты. Так, там паказана, што Русь не была вольнай. Татары ўсё адно застаюцца захопнікамі і кіраўнікамі. Каму спадабаецца, што табой хтосьці кіруе?» — даводзіць Андрэй Прошкін.

Татарскія нацыяналісты ў большасці бачаць прычыну такога падыходу ў пазіцыі Рускай Праваслаўнай Царквы, адна са структур якой — Праваслаўная энцыклапедыя — фінансавала здымкі. Вядомы татарскі русафоб гісторык Вахіт Імамаў лічыць, што «Арда» і іншыя падобныя фільмы — «частка палітыкі Крамля па выкарыстанні культуры для стварэння іміджу Расіі як славянскай, хрысціянскай нацыі».

Ён адзначае: «Рускія заўсёды імкнуцца паказаць сябе самай «цывілізаванай» нацыяй. Яны выяўляюць татараў як дзікае племя. Шавінізм рускіх не хутка пройдзе, палітыка ціску будзе працягнутая. Расійскі ўрад і надалей будзе фінансаваць стварэнне хлуслівых кінастужак. Плюс руская царква зробіць свой унёсак. Святыя айцы не проста даюць свае благаславенне — яны не шкадуюць сродкаў на прапаганду рускай культуры і праваслаўя. Усе гэтыя клерыкальныя кругі паверылі ў тое, што ва ўсіх цяперашніх праблемах краіны вінаватыя «дзікія» татары, пад няволяй якіх давялося жыць шмат стагоддзяў таму. І здымаючы фільмы са шматмільённымі бюджэтамі, яны імкнуцца пераканаць у гэтым і насельніцтва Расійскай Федэрацыі».

Пры ўсёй агрэсіўнасці заяў нацыяналістаў, рацыянальнае зерне тут ёсць. Нават незалежныя кінакрытыкі кажуць пра праваслаўную кан'юнктуру. Адзін са звычайных кінасайтаў адзначае: «Калі казаць пра недахопы фільма, яны ў відавочным перакосе: шматлікія сцэны ў Ардзе пададзены саркастычна, гратэскава-трагічна. Рускіх сцэн мала, і вырашаны яны, калі не ялейна, то цалкам у станоўчым рэчышчы. З-за гэтага стылістычнага перакосу і ўзнікаюць ідэалагічныя папрокі да фільма (мабыць, прадзюсар — Праваслаўная энцыклапедыя — усё ж умяшаўся ў працу). Думаю, па гэтай жа прычыне карціна Прошкіна не патрапіла ў адбор галоўных фэставых форумаў».

Аднак сітуацыя ўсё ж больш складаная. Так ці інакш, фільм Прошкіна меў вялікі бюджэт, у ім гуляла шмат зорных акцёраў, у тым ліку татарскіх. У выніку стужка стоадсоткава не застанецца не заўважнай у грамадстве, і хутчэй выклікае інтарэс да тэмы Залатой Арды і гісторыі татар. З гэтай пазіцыі выступае асобная фракцыя татарскай інтэлігенцыі.

Так, казанскі журналіст Іскандэр Ахмедаў піша: «На жаль, беспадстаўную, неабгрунтаваную крытыку (праўда, ёсць і крытыка канструктыўная, што не можа не цешыць) даводзіцца чуць ад некаторых татараў і гэтым разам. Замест таго, каб сказаць «дзякуй» за тое, што рускія дзеячы мастацтва памятаюць татарскую гісторыю, веліч Залатой Арды, «знаўцы» кінамастацтва пачалі з нейкай апантанасцю вышукваць недахопы і нават гістарычную замову ў мастацкай (а не дакументальнай) карціне. І, вядома, знайшлі антытатарскую скіраванасць фільма. Сапраўды, пры пэўным жаданні можна знайсці ўсё, што заўгодна… Аднак у фільме татары Залатой Арды паказаныя моцным і ваяўнічым народам, які трымаў увесь свет «300 гадоў у страху». Нам, татарам, варта сказаць «дзякуй», што наша гісторыя патрэбная».

Як бачым, тэма неадназначная. Тым больш, што фільм толькі з'явіўся ў кінатэатрах, у тым ліку ў Татарстане. Напэўна, дакладна казаць пра стаўленне татар да стужкі «Арда» мы зможам пасля таго, калі фільм пабачыць не інтэлектуалы і палітыкі, а шырокая татарская аўдыторыя.



## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Парламенцкія выбары, якія прайшлі ў Беларусі, нягледзячы на чаканні пэўнай, хоць і мінімальнай, часткі назіральнікаў, завяршыліся поўным трыумфам існуючага ў рэспубліцы ладу — гэта значыць, усё прайшло ў лепшых традыцыях галасавання "па савецкай сістэме".

**Лента.ру (Расія)**

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка абвясціў сябе пераможцам на парламенцкіх выбарах яшчэ да таго, як былі падлічаны ўсе галасы. «Апошні дыктатар Еўропы» моцна сядзіць у сядле і ў поўнай меры карыстаецца раздробненасцю апазіцыі. Відавочна, што цяперашнія парламенцкія выбары — не апошнія ў кар'еры Аляксандра Лукашэнкі, якімі ён маніпулюе... Еўропа яшчэ не хутка развітаецца са «сваім апошнім дыктатарам».

**«Der Spiegel» (Германія)**

Тое, што ніводны прадстаўнік апазіцыі не прайшоў у дэпутаты, мясцовую грамадскасць не здзівіла: асноўныя палітычныя гульцы знялі сваіх кандыдатаў напярэдадні галасавання. Дыскусія ў першы дзень пасля выбараў разгарнулася на тэму, ці можна лічыць, што выбары адбыліся?

**«Независимая газета» (Расія)**

Аляксандр Лукашэнка можа ўмацаваць сваю ўладу ў выніку парламенцкіх выбараў. Здзіўлення гэта не выклікае. Мінулыя выбары былі фарсам нават для фасаднай дэмакратыі апошняга дыктатара Еўропы. Аднак у нядзелю ў Мінску не было ніякіх пратэстаў. Пасля жорсткага разгону дэманстрацыі пратэсту супраць выніκаў прэзідэнцкіх выбараў у 2010 годзе беларусы сталі асцярожней і не адважваюцца зараз адкрыта выступаць супраць Лукашэнкі.

**«Die Welt» (Германія)**

Рана ці позна Лукашэнка павінен сысці. І вось тут узнікае цікавы сцэнар, таму што рэжым Лукашэнкі — гэта рэжым, у якога няма ідэалагічнай асновы, няма сваёй партыі. Гэта людзі, якія асабіста звязаныя з Лукашэнкам. І ўзнікае пытанне: а што здарыцца, калі Лукашэнка не будзе цэнтральнай фігурай? Гэта досыць складана прагназаваць. Беларусь пасля сыходу Лукашэнкі будзе непрадказальнай.

**From-ua (Украіна)**

Калі ўспрымаць эксперымент над украінскай дзяржаўнасцю, які праводзіцца дзейснай уладай, як паўтор беларускага паходу ў мінулае, то можна прадбачыць, што і ў нас калі-небудзь пройдуць такія ж прадказальныя выбары-свята. А гісторыю пра тое, што калісьці ў парламент балатаваліся на альтэрнатыўнай аснове і ваявалі за кожны голас, будуць выслухваць са здзіўленнем і недаверам — прыкладна так, як выслухваюць успаміны сваіх бацькоў маладыя беларусы, якія нарадзіліся і выраслі ў эпоху Лукашэнкі.

**«Главред» (Украіна)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УКРАІНА. СЫН АЗАРАВА ТАКСАМА ПАЙШОЎ У ПАЛІТЫКУ



Украінскі прэм'ер Мікалай Азараў ухваліў удзел свайго сына Аляксея ў вялікай палітыцы. Яшчэ ў жніўні ЦВК зарэгістравала Аляксея Азарава кандыдатам у дэпутаты ад Партыі рэгіёнаў па аднамандатнай акрузе №47 (Данецкая вобласць) на прызначаных выбарах у Вярхоўную Раду. Аднак дасюль прэм'ер ніяк не рэагаваў на ініцыятыву свайго сына. І вось цяпер ён публічна заявіў, што Аляксею Азараву самае месца ва ўладных структурах. Пры гэтым Азараў адзначыў, што яго сын прыняў самастойна рашэнне балатавацца ў Вярхоўную Раду, але ён як бацька гатовы перадаць яму досвед палітыка і дзяржаўнага дзеяча. «Ён абраў для сябе гэты шлях, і я з таго пункту гледжання, што рана ці позна я сыду — надыдзе час, калі мне давядзецца сысці, — у прынцыпе, магу цяпер штосьці перадаць з таго досведу, якім я валодаю», — сказаў прэм'ер. Фактычна гэта сведчыць пра замацаванне дынастычнага прынцыпу ў палітычнай сістэме Украіны. Раней дэпутатамі ВР сталі іншыя дзеткі бонзаў Партыі рэгіёнаў, напрыклад, сын Януковіча. Застаецца чакаць, ці дазволіць украінскае грамадства перадачу ўлады ад бацькі да сына...

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ГРЭЦЫЯ. 90 ГАДОЎ КАНЦА ВЯЛІКАЙ ГРЭЦЫІ

Роўна 90 гадоў таму, у верасні 1922-га, канчаткова быў пастаўлены крыж на ідэі адраджэння Візантыі — грэчаскай дзяржавы на тэрыторыі Малой Азіі. У гэтыя вераснёўскія дні туркі ўзялі Смірну — галоўны фарпост грэчаскіх войскаў, якія высадзіліся тут у 1919 годзе з мэтай стварэння новай Візантыі. Спачатку фартуна была на баку элінаў. Карыстаючыся палітычным хаосам, які назіраўся ў Турцыі пасля прайгранай Першай сусветнай вайны, грэкі пачалі рэалізацыю канцэпцыі Megali Idea — уключэнне ў склад Грэцыі ўсіх гістарычных зямель грэкаў, у тым ліку і Канстанцінопаля. Дэсант падтрымалі 750 тысяч этнічных грэкаў, якія жылі ў гэтай частцы былой Асманскай імперыі. Плюс на баку грэкаў былі армяне. Аднак нечакана ў туркаў знайшоўся лідар — Мустафа Кемаль, які ўзначаліў антыгрэчаскі фронт. Дзякуючы палітычным канфліктам унутры Грэцыі, дух грэчаскіх жаўнераў хутка ўпаў, і туркі перайшлі ў наступ, які закончыўся штурмам Смірны. Спачатку ў горадзе пачаліся пагромы хрысціян, пакуль эскадра Антанты не прымусіла Анкару дазволіць эвакуацыю немусульманскага насельніцтва. Хутка рэгіён пакінула 200 тысяч чалавек. На працягу наступных сямі гадоў, згодна з падпісаным у Лазане трактатам, з Турцыі з'ехаў яшчэ мільён этнічных грэкаў. Так назаўсёды знік праект адраджэння Візантыі.

**Паводле польскай прэсы**

### ІСПАНІЯ. ФАНАТ АБАМЫ ПАНЯВОЛІ

25-гадовы іспанскі хлопец Дэні Кэмінал, напэўна, менш за ўсё цікавіўся выбарамі ў ЗША. Можна толькі ўявіць яго шок, калі ён пабачыў значак, які піяршчыкі кандыдата дэмакратаў раздаюць моладзі. На значку — партрэт Дэні з подпісам: «Хіпстэры абіраюць Абаму». Аказваецца, выбарчы штаб Барака Абамы ў пошуках выявы хіпстэра, субкультура якіх папулярная сярод цяперашняй моладзі, вырашыў выкарыстаць фотку Дэні, якую знайшлі недзе ў інтэрнэце. Згоду ў Дэні, зразумела, ніхто не пытаў. Цяпер хіпстэр злы. У тым ліку і таму, што паводле палітычных поглядаў ён хутчэй анархіст, які ненавідзіць усе партыі і палітыкаў. Зараз Дэні мае намер запатрабаваць, каб Абама заплаціў грошы або прыбраў фота Дэні з матэрыялаў выбарчай прапаганды дэмакратаў. Праўда, з улікам міжнародных прававых нюансаў, не вядома, адкуль хлопец возьме грошы, каб наняць юрыста для такога працэсу.

**Паводле іспанскай прэсы**

### РАСІЯ. ЖУРАВЕЛЬ СТАНЕ СІМВАЛАМ КАМУНІСТАЎ?

Нечаканае рашэнне прыняў Мінюст Расіі. Нягледзячы на тое, што зараз актыўна ідзе працэс рэгістрацыі новых партый, адной структуры ўсё ж адмовілі. Гэта Расійскі аб'яднаны рабочы фронт («РОТ-Фронт»). Больш таго, гэты «РОТ-Фронт», лідар якога — вядомы левы радыкал Віктар Цюлькін, спрабаваў зарэгістравацца і раней, аднак таксама беспаспяхова. Увогуле, гэта была ўжо сёмая спроба рэгістрацыі. Такая колькасць правалаў гаворыць пра тое, што Цюлькіна чамусьці ў Крамлі не любяць і папросту шукаюць фармальныя падставы для адмовы. На гэты раз чыноўнікам не спадабалася выява кулака на фоне чырвонай зоркі — сімволіка Фронту. На думку Мінюста, такая сімволіка з'яўляецца экстрэмісцкай. Цюлькін у прыступе эмоцый паабяцаў змяніць кулак і зорку на выяву жураўля. Па яго словах, выява жураўлёў, якіх нядаўна выратоўваў асабіста Пуцін, дакладна не павінна выклікаць падазрэння ў дзяржаўных юрыстаў.

**Паводле расійскай прэсы**

З НАГОДЫ

# ПАДАРОЖЖА Ў ЧАСЕ

*Алег НОВІКАЎ*

**Цяперашнія падзеі ў Каталоніі, якая патрабуе незалежнасці, цікава прааналізаваць праз прызму таго, што адбывалася ў рэспубліках СССР напярэдадні яго распаду.**



«Слова даецца кіраўніку ўраду Марыяна Рахою», — сказаў на экране спікер іспанскага парламента. На тым пасяджэнні дэпутаты ламалі галаву, што рабіць з Каталоніяй. Урад каталонскай аўтаноміі патрабаваў заключыць так званы «падатковы пакт», пры якім большасць падаткаў пайшла б у мясцовы бюджэт. У выпадку адмовы «жэнералітат» (так звычайна называюць каталонскі ўрад) пагражаў пачаць працэс выхаду краю са складу Іспаніі.

Марыяна Рахой узняўся з месца, падцягнуў да сябе мікрафон і пафасна заявіў пра тое, што будзе да самага канца абараняць прынцыпы дзеючай канстытуцыі наконт адзінства краіны. У зале пачуліся воплескі (большасць парламента — гэта аднапартыйцы прэм'ера з кансерватыўнай Народнай партыі).

Затое ў барселонскім бары, дзе я глядзеў трансляцыю з Картэсаў, сентэнцыю прэм'ера прысутныя сустрэлі дружнай лаянкай. Нічога дзіўнага. У Каталоніі — павальная мода на незалежнасць. Праявы гэтых настрояў назіраюцца паўсюль. Практычна на фасадзе кожнага будынка можна пабачыць нацыянальныя сцягі, якія вісяць на балконах ці ў вокнах. Іх не здымаюць з 11 верасня, калі паўтара мільёна чалавек выйшлі на вуліцу, патрабуючы суверэнітэту.

Пры ўсёй павазе да каталонскіх нацыяналістаў, негатыўных эмоцый ад грозных рэмарак Рахоя я не адчуў. Хутчэй, наадварот. Словы іспанскага лідара выклікалі прыемны флёр настальгіі па пачатку 1990-х — па бурных часах маладосці. Усё, што цяпер адбываецца ў Каталоніі, вельмі падобна на тую эпоху.

Вось мой сабутэльнік, сівы дзед Джорджы, пацягваючы славутае піва «Damm», фактычна пераказвае мне адзін з тэзісаў Уладзіміра Арлова з напісанага ім у часы развалу Савецкага Саюза вядомага эсэ «Незалежнасць гэта...». Арлоў тады сцвярджаў: «Незалежнасць — гэта калі велізарныя фуры з надпісам «Цэнтравывоз» (ці бачыў ты хоць раз такія фуры з надпісам «Центроввоз»?) падрулююць не да чужых, а да нашых крамаў». У перакладзе на каталонскія рэаліі фуры з надпісам «Цэнтравываз» павінны везці ў Барселону еўрыкі, якія Еўрасаюз даў Іспаніі для выхаду з крызісу. Аднак Мадрыд адмаўляецца дзяліць іх паміж аўтаноміямі па справядлівасці: кожнай у залежнасці ад таго, колькі яна дае ў нацыянальны бюджэт.

Пасля Джорджы дастае другую паперку, малюе нейкія слупкі і дзеліць штогадовы каталонскі ВУП на душу насельніцтва. Атрымліваецца — у сярэднім 2000 еўра заробку на месяц кожнаму чалавеку. Арыфметыка магічна дзейнічае на абарыгенаў кшталту Джорджы. У сярэднім каталонцы зарабляюць трохі больш за тысячу. Адказ на пытанне, куды дзелася другая тысяча, празаічны. Усё на фурах з надпісам «Цэнтравываз» адправілі ў Мадрыд.

Прыкладна такую мізансцэну з калькуляцыяй даводзілася назіраць у Кіеве або ў Мінску ў 1990-х. Памятаю, як на рулетцы (месца збору палітызаванай публікі на Майдане) лёгка разлічылі — у незалежнай Украіне прыбытак украінцаў будзе не меншым, чым у Канадзе. Увогуле, кіраўнік Каталоніі Артур Мас чымсьці падобны на Леаніда Краўчука — тагачаснага лідара Украіны. Паводзіць сябе такім жа чынам — цісне рукі чыноўнікам у Мадрыдзе, кажа, што трэба шукаць кансенсус, а па вяртанні ў Барселону заклікае «адчыніць дзверы для будаўніцтва незалежнай дзяржавы».

Аднак самае вялікае дэжавю выклікаюць хаатычныя ўчынкі Мадрыду. Так, Марыяна Рахой (яго інтэлігентныя манеры вельмі нагадваюць паводзіны Гарбачова) даказвае, што выхад Каталоніі са складу Іспаніі магчымы выключна ў выніку агульнанацыянальнага рэферэндуму. Прыкладна так казаў Гарбачоў падчас крызісу ў Літве ў студзені 1991-га. Далей — больш: іспанскі ўрад распавядае пра магчымасць перагляду адносін цэнтру з аўтаноміямі на аснове федэралізацыі — і адразу ў памяці ўсплывае так званы «агароўскі працэс» (намер Масквы заключыць з рэспублікамі новую саюзную дамову).

Не хапае толькі праекту каталонскага інтэрфронту. Аднак, здаецца, тут справа не за гарамі. У Барселоне ўжо можна пабачыць білборды Народнай партыі з заклікам фармаваць грамадзянскія ініцыятывы за адзінства Іспаніі.

Ведаючы тое, што было ў нас у 1990-я гады, глядзіш на гэтыя спробы захаваць адзінства з пачуццём вялікай іроніі. Масква тады, як і Мадрыд сёння, — папросту ў сілу імперскай традыцыі — не была гатовыя да раўнапраўных адносін. Некаторыя іспанскія кансерватыўныя палітыкі ахвотна і шмат кажуць пра федэральную мадэль для Іспаніі, аднак нават праекта новай Канстытуцыі яшчэ ніхто ў вочы не бачыў.

Адначасова на перыферыі сярод моладзі і інтэлігенцыі назіраюцца вялікія чаканні ад атрымання незалежнасці. Падобнае было ў нас на мяжы 1980–1990-х гадоў. Паўсюль адчуваецца жаданне пераменаў. У людзей гараць вочы. Варта ўзгадаць, што яшчэ ў 2005 годзе «падатковую аўтаномію» для сябе патрабавала Краіна Баскаў. Парламент Іспаніі праект завярнуў, аднак ніякіх вулічных пратэстаў не было. Цяпер іншы час.

Калі мы адзначаем падабенства працэсаў у СССР 1990-х гадах і ў цяперашняй Іспаніі, то ўзнікае лагічнае пытанне: ці не трэба чакаць развязкі ў форме путчу? Тут, быццам, сітуацыя іншая. У Іспаніі няма палітыкаў накшталт Ніны Андрэевай, Ягора Лігачова або генерала Сцерлігава. Акрамя таго, тут усе (у тым ліку вайскоўцы) памятаюць пра спробу фашысцкага перавароту ў 1981 годзе, які быў асуджаны ўсім грамадствам.

Таму ёсць надзея, што выхад Каталоніі са складу Іспаніі адбудзецца мірна. Пакуль сцэнар выглядае наступным чынам: 25 лістапада адбываюцца датэрміновыя выбары ў каталонскі парламент. У ім будзе сфармаваны блок незалежнікаў з удзелам партый «Канвергенцыя і саюз», «Рэспубліканская Левая» і «Зялёныя». Калі яны займеюць большасць, то будзе прызначаны дзень рэферэндуму пра незалежнасць. Калі меркаваць па грамадскай атмасферы, у Мадрыда няма інструментаў, каб сарваць гэты графік.



СВАБОДА СЛОВА

# РАЙ, ДЗЕ ГІНУЦЬ ЛЮДЗІ

Аксана КОЛБ

**«Калі хочаш пабачыць рай, у Азербайджан ты прыязджай!» — цягнуў выканаўца мугама (нацыянальнага песеннага жанру) на ўрачыстай вячэры, прысвечанай удзельнікам міжнароднай канферэнцыі «Нафта, газ і СМІ».**

Канферэнцыя, арганізаваная Міжнародным інстытутам прэсы (IPI) пры падтрымцы шматлікіх міжнародных і азербайджанскіх структур і фондаў, адбылася на мінулым тыдні ў Баку. Яе ўдзельнікамі сталі больш за 200 чалавек з 27 краін свету. Асноўнай мэтай канферэнцыі павінна было стаць аб'яднанне журналістаў, што асвятляюць тэмы нафты і газа, дзеля ўмацавання свабоды СМІ.

Менавіта таму і быў абраны Азербайджан — краіна, дзе далёка не ўсё добра са свабодай слова. І менавіта на міжнародную падтрымку разлічвалі і нешматлікія апазіцыйныя журналісты, што прыйшлі на першы дзень канферэнцыі. Але іх надзеі не спраўдзіліся. «Вярніце канфіскаваную маёмасць двум журналістам!» — гэта ўсё, што было сказана з высокай трыбуны дырэктарам



Ідрак Абасаў пасля збіцця аховай SOCAR

IPI Алісан МакКензі. Можа, таму на наступны дзень у вядучай апазіцыйнай газеце «Азадлыг» («Свабода») з'явіўся каментар пра канферэнцыю, дзе яе ўдзельнікі былі названыя «звычайным натоўпам з 27 краін».

Эмін Хусейнаў, кіраўнік Інстытута свабоды і бяспекі рэпарцёраў, у першы дзень канферэнцыі запытаўся ў арганізатараў: «Навошта вы нам расказваеце пра няшчасных птушак у Мексіканскім заліве, калі тут збіваюць журналістаў? Трэба расказваць пра гэта і гэта абмяркоўваць!»

Эмін меў на ўвазе збітага на горкі яблык Ідрака Абасава, які ў красавіку захацеў зняць на камеру, як прадстаўнікі дзяржаўнай нафтаздабываючай кампаніі SOCAR без рашэння суда зносяць дамы гараджан. Гэтыя дамы знаходзіліся на зямлі, на якую ўжо паклала вока SOCAR. Журналіста збівала нагамі ахова кампаніі, пакуль хлопец не страціў прытомнасць.

«За апошні год сітуацыя істотна пагоршылася, — распавёў Эмін. — Восем журналістаў пасаджаны па сфабрыкаваных справах. Журналістам падкідаюць наркотыкі, іх вінавацяць у хуліганстве і парушэнні грамадскага парадку. Да таго ж за рашоткай знаходзяцца 80 палітвязняў (9 чалавек нядаўна памілавалі). Людзі баяцца. Перыядычна праводзяцца масавыя акцыі пратэсту, якія жорстка душацца ўладамі. Улады пакутуюць на сіндром беспакаранасці. СМІ, у сваю чаргу, займаюцца самацэнзурай. Ёсць грамадскае тэлебачанне, але яно не выконвае сацыяльную замову, а дзейнічае па ўказцы ўлад. Нас, сапраўды незалежных апазіцыйных журналістаў, вінавацяць у працы на заходнія спецслужбы, у непатрыятычнасці, у тым, што мы выконваем замову армянскіх лабістаў».

Паводле ацэнак міжнародных праваабаронцаў, штогод у турмах краіны ад катаванняў памірае каля ста чалавек. І ўлады нічога з гэтым не робяць.

Спецдакладчыка па палітвязнях Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы Крыстафера Штрасера ўжо тры гады не пускаюць у Азербайджан, матывуючы адмову тым, што тут з правамі чалавека ўсё добра і няма ніводнага палітзняволенага. Між тым, даклады праваабаронцаў сведчаць пра іншае. Па ацэнках розных арганізацый, на сённяшні дзень у краіне налічваецца ад 15 да 80 палітвязняў.

Па словах журналіста Эйнулы Фатулаева, які таксама паспытаў на сабе ласку рэжыму Аліева, на сённяшні момант у краіне апазіцыйнымі засталіся адна газета, адзін тэлеканал і адна радыёстанцыя. Астатнія ўжо падкантрольныя ўладзе — хто дзеля грошай, хто дзеля ўласнага жыцця.

Да слова, у Азербайджане шырока распаўсюджана практыка спансавання недзяржаўных СМІ са спецыяльнага прэзідэнцкага фонду. Штогод недзяржаўнае выданне можа атрымліваць ад 10 да 100 тысяч манат (1 манат прыкладна роўны 1 еўра). Асноўнымі ўмовамі атрымання гэтага гранта, па сцвярджэнні афіцыйных прадстаўнікоў, ёсць сталы выхад і адсутнасць падатковых запазычанасцяў. Аднак на самай справе грошы атрымліваюць тыя, хто не надта крытыкуе ўладу.

«Гэта самая лепшая краіна ў свеце, мы заўсёды рады гасцям», — зноў цягнуў майстар мугама. І шматлікія журналісты з розных краін свету, седзячы за шыкоўнымі сталамі, пляскалі ў далоні. Яны не ведалі, што ў гэтым раю ў турмах гінуць іх калегі-журналісты. Ці не хацелі ведаць…

**P.S.** Пасля таго, як праўладныя журналісты ўбачылі, як я размаўляю з Эмінам Хусейнавым і Эйнулай Фатулаевым, у адным з перапынкаў некалькі чалавек самі падышлі да мяне і пачалі распавядаць, як добра жывецца журналістам у Азербайджане. А гэтыя, маўляў, якія сядзяць па турмах і ездзяць па замежжы, несапраўдныя журналісты, яны не любяць свой край і таму паліваюць яго брудам. І наогул, тыя, што сядзяць, сядзяць за злачынствы, а не за сваю прафесійную дзейнасць. І мне чамусьці ўзгадалася Беларусь…



Эйнула Фатулаеў

### Даведка:

30 кастрычніка 2007 года ў Баку Суд па справах цяжкіх злачынстваў прызнаў галоўнага рэдактара і заснавальніка незалежных выданняў «Рэальны Азербайджан» і «Гюндэлік Азербайджан» Эйнулу Фатулаева вінаватым. Журналіст быў асуджаны па трох артыкулах Крымінальнага кодэкса: 214.1 (пагроза тэрарызмам), 213.2.2 (ухіленне ад выплаты падаткаў), 283.2.2 (распальванне міжнацыянальнай варожасці) на восем з паловай гадоў пазбаўлення волі.

Абвінавачванні ў пагрозе тэрарызмам і распальванні міжнацыянальнай варожасці былі высунуты журналісту пасля выхаду яго артыкула ў «Рэальным Азербайджане», у якім Фатулаеў сцвярджаў, што падтрымка Баку амерыканскай пазіцыі па Іране робіць Азербайджан уразлівым для нападу з боку апошняга, і разглядаў верагодныя аб'екты іранскіх udараў.

Эйнула Фатулаеў знаходзіўся пад арыштам з 20 красавіка 2007 года па 26 траўня 2011 года, калі быў вызвалены паводле прэзідэнцкага ўказа пра памілаванне. Пасля вызвалення стварыў Грамадскі рух «За правы чалавека».



Эмін Хусейнаў

### Даведка:

14 чэрвеня 2008 года Эмін Хусейнаў быў арыштаваны ў кафэ «Алатурка» ў Баку, калі праводзіў маніторынг на імпрэзе 80-х угодак з дня нараджэння кубінскага рэвалюцыянера Эрнэста Чэ Гевара. Мірнае шэсце суправаджалася паліцыяй ад паліцэйскага ўчастку раёна Насімі ў Баку. Іншыя 21 удзельнік шэсця таксама былі арыштаваны. У паліцэйскім участку, пасля адмовы фатаграфавацца і здаць адбіткаў пальцаў разам з іншымі затрыманымі, Эмін Хусейнаў быў выведзены ў асобны пакой чатырма афіцэрамі паліцыі, і знаходзіўся там некаторы час. Адзін з афіцэраў пагражаў арыштаваць, забіць і закапаць яго. Яго некалькі разоў ударылі па галаве рукаяццю пісталета, пасля чаго журналіст страціў прытомнасць. Хуткая дапамога была выклікана ў паліцэйскі ўчастак толькі праз некаторы час. Пасля гэтага Эмін доўга не мог хадзіць. Зараз яму прызначана 2-я група інваліднасці.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### ВІКТАР МЕДВЕДЧУК



Лідар руху «Украінскі выбар» (прыхільнікі ўключэння Украіны ў склад Еўразійскага саюза) правапіў план свайго кума Уладзіміра Пуціна па стварэнні ў новай Вярхоўнай Радзе (ВР) уплывовай дэпутацкай групы, якая павінна была лабіраваць пуцінскія інтэграцыйныя праекты. Праўда, яго віна толькі частковая. Справа ў тым, што сфармаваныя традыцыйнымі данецкімі групоўкамі партыйныя і мажарытарны спісы вельмі ўскладнілі Медведчуку задачу вывесці арыентаваных выключна на Крэмль інтэгратараў у Вярхоўную Раду. На мажарытарных акругах еўразійцам супрацьстаяць больш прахадныя фігуры ад Партыі рэгіёнаў. Гэта значыць, што з усёй украінскай кагорты палымяных правадыроў ідэй еўразійскай інтэграцыі толькі Дзмітры Табачнік (№11 спісу «рэгіяналаў») стоадсоткава гарантаваў сабе месца ў новай ВР. Але гэта зусім не заслуга Медведчука. Такім чынам Партыя рэгіёнаў дала зразумець, што, як і раней, холадна ставіцца да еўразійскага праекту Пуціна. Медведчука, па чутках, чакае складаная размова ў Крамлі, дзе ён браў грошы, абяцаючы правесці ў 2012 годзе рэферэндум аб уступленні Украіны ў Еўразійскі саюз. Цяпер будучыня еўразійскага руху ва Украіне будзе залежыць ад вынікаў канферэнцыі ў Маскве. У снежні ў рамках святкавання 90-й гадавіны стварэння СССР тут збяруцца ўсе аматары рэінтэграцыі краін Садружнасці.

### КАРЛА МАРЦІНІ



Кардынал, біскуп Мілана Марціні памёр 31 жніўня ва ўзросце 85 гадоў, аднак дасюль вакол святара, якога пры жыцці называлі антыпапам, працягваюцца спрэчкі. На думку шмат каго, Марціні быў апошняй фігурай у Ватыкане, хто мог надаць ліберальны імпульс каталіцкай царкве, якая, па яго словах, адстала ад жыцця на 200 гадоў. Гэта заява была не самай скандальнай пры жыцці Карла. Ён таксама аспрэчваў ідэю святкавання царквой міленіуму, сцвярджаючы, што Ісус Хрыстос нарадзіўся за 6 гадоў да нашай эры. Або патрабаваў шлюбаў для гомасэксуалістаў і дазволу на аборты. Нядзіўна, што Марціні нажыў сабе шмат ворагаў з фракцыі кансерватараў. У прыватнасці, ён канфліктаваў з Папам Янам Паўлам ІІ і з цяперашнім Папам Бенедыктам. Аднак тыя нічога не маглі зрабіць, паколькі Марціні карыстаўся шалёнай павагай сярод простых італьянцаў. Нават левыя тэрарысты з групоўкі «Чырвоныя Брыгады» пагаджаліся ісці на перамовы, калі з імі хацеў размаўляць Карла Марціні. Аднак сваёй галоўнай мэты — правядзення новага ватыканскага Сабора, які б пачаў рэформы, — нябожчык так не дабіўся. Ён памёр, не пакінуўшы па сабе ніводнага аўтарытэта, хто б мог годна ўзначаліць ліберальную фракцыю ў Ватыкане.

### ГЕЛЬМУТ КОЛЬ

Упершыню за апошняе дзесяцігоддзе былы канцлер ФРГ, якому стукнула 82 гады, выйшаў на публіку, каб сустрэцца з аднапартыйцамі з Хрысціянска-дэмакратычнага саюза (CDU). Пайсці ў «падполле» яго прымусіў гучны фінансавы скандал вакол яго роднай партыі, які выбухнуў 10 гадоў таму. Колю, які быў фігурантам скандалу, нават давялося адмовіцца ад мандата дэпутата Бундэстага. Зноў паказацца людзям былога канцлера прымусіў юбілей — менавіта 30 гадоў таму, у верасні 1982-га, ён узначаліў урад ФРГ, якім кіраваў аж 16 гадоў. Цікава, што з гадавінай абрання Гельмута асабіста павіншавала канцлер Ангела Меркель, якая, на думку прэсы, здрадзіла Гельмуту ў час згаданага фінансавага скандалу. Тады, будучы сакратаром партыі, яна не абараніла экс-канцлера, які, дарэчы, дапамог ёй зрабіць кар'еру. Сыход Коля з палітыкі адчыніў для Меркель магчымасць стаць лідарам партыі. Натуральна, падчас святкавання юбілею старыя канфлікты не згадвалі. Застаецца сказаць, што Гельмут Коль на сустрэчы з аднапартыйцамі таксама зрабіў палітычную заяву — заклікаў зрабіць усё, каб захаваць адзіную Еўропу.



ПАМЯЦЬ

# ТРАГЕДЫЯ 1939-ГА ПРАЗ ЛЮДСКІЯ ЛЁСЫ

Ігар МЕЛЬНІКАЎ,
кандыдат гістарычных навук

**Пасля публікацыі артыкула «Катынская трагедыя не чужая Беларусі» на сваю электронную скрыню я атрымаў шмат лістоў, у якіх людзі дзяліліся інфармацыяй датычна сталінскіх рэпрэсій супраць польскіх грамадзян на тэрыторыі Заходняй Беларусі пасля далучэння яе да СССР. Тады галоўнымі ворагамі савецкай улады перш за ўсё лічыліся афіцэры Войска Польскага і супрацоўнікі дзяржаўнай паліцыі. Прапаную чытачам некаторыя трагічныя эпізоды тых часоў.**



Вацлаў Варышак



Люцыян Менке



Станіслаў Кох с сям'ёй, Гродна, 1936 г.

Жыхар Брэста Мікалай Кацёл у сваім лісце распавёў мне пра трагедыю, якая разыгралася каля вёскі Алтуш Брэсцкай вобласці падчас «вызваленчага паходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь». У верасні 1939 года яго дзядзьку Дзмітрыю Яўстаф'евічу было 14 гадоў. У адзін з дзён разам з сябрамі ён пасвіў кароў і раптам убачыў, як па шашы едзе грузавік з чырвонаармейцамі. Машына спынілася, і з яе выйшлі людзі. Сярод нязграбных савецкіх шынялёў выдзяляўся чалавек у прыгожай польскай афіцэрскай форме. Праз некалькі хвілін прагучаў стрэл. Цела забітага паляка бальшавікі скінулі ў канаву і пакінулі месца злачынства.

Хлопцы адразу пабеглі ў вёску і паведамілі пра трагедыю дарослым. Жонкі мясцовага настаўніка і ўрача забралі труп афіцэра Войска Польскага і пахавалі на мясцовых могілках.

Як аказалася, ахвярай чырвонаармейцаў стаў Вацлаў Варышак, паручнік 84-га Палескага палка Войска Польскага, які дыслакаваўся ў Пінску. Гэты чалавек нарадзіўся ў 1911 годзе. У 1932–1934 гадах вучыўся ў Школе падхарунжых пяхоты ў г. Востраў-Мазавецкі. 15 жніўня 1934-га ў званні падпаручніка накіраваны ў 84-й полк пяхоты ў Пінск у якасці камандзіра ўзвода. Праз некалькі гадоў Варышак атрымаў званне паручніка. Падчас вераснёўскай кампаніі 1939 года ён быў камандзірам 4 роты. Прымаў удзел у абароне Кобрына ад нямецкіх войскаў, быў паранены.

Падчас адступлення ў Маларыце падраздзяленне Вацлава Варышака трапіла ў палон да чырвонаармейцаў. Аднак 28-гадовы паручнік адмовіўся аддаць сваю зброю, і калі бальшавікі паспрабавалі абяззброіць яго сілай, Варышак застрэліў савецкага афіцэра. Вацлава збілі, вывезлі за горад і забілі…

Ужо пасля вайны, у 1960-х гадах, у вёску Алтуш, якая ўжо знаходзілася ў савецкай Беларусі, прыехала нявеста Варышака. Ёй паказалі месца, дзе быў пахаваны яе каханы, і хутка на тым месцы быў устаноўлены надмагільны помнік. Больш полька не прыязджала. Зараз магілу даглядаюць мясцовыя жыхары.

Але паглядзіце на здымак помніка. У яго нізе змешчана таблічка, на якой адзначаецца, што ў магіле пахаваны «невядомы польскі салдат, які загінуў у 1939 годзе». Ці гэта значыць, што разам з Варышакам быў пахаваны іншы вайсковец Войска Польскага? Пры якіх абставінах ён загінуў? На гэтыя пытанні зараз ужо вельмі цяжка знайсці адказы.

Малады паручнік польскай арміі Вацлаў Варышак да апошняй хвіліны свайго жыцця заставаўся верным дзяржаве, якой даваў вайсковую прысягу. Для чырвонаармейцаў ён быў увасабленнем «панскай улады», аднак, на самай справе, ён быў звычайным салдатам, які мужна абараняў сваю, сцякаючую крывёй, айчыну. І яго трагедыя не чужая для нас, беларусаў.

Гэта ж можна сказаць і пра лёс польскага паліцэйскага з Гродна Станіслава Коха. У горадзе над Нёманам сёння жыве яго ўнук, Артур Пятрэвіч, які, прачытаўшы мой артыкул, напісаў мне і расказаў гісторыю свайго дзеда. Нарадзіўся будучы старшы пастэрунковы камісарыяту паліцыі ў Гродна ў 1892 годзе каля Станіслававa (сёння Івана-Франкоўск, Украіна). Кох быў адным з першых польскіх паліцэйскіх у Львове, аб чым сведчыць яго службовае пасведчанне. Пасля польска-бальшавіцкай вайны 1920 года Станіслаў пераехаў у Заходнюю Беларусь і працягваў працаваць у дзяржаўнай паліцыі ў Верцелішках, каля Гродна. За выдатную і бездакорную службу ў 1929 годзе ён быў узнагароджаны медалём «Дзесяцігоддзе аднаўлення незалежнасці». У чэрвені 1938-га паліцэйскі з Гродна з рук ваяводскага каменданта паліцыі атрымаў бронзавы медаль за шматгадовую службу. Праз месяц Кох быў пераведзены ў камісарыят паліцыі ў Гродна ў якасці старшага пастэрунковага.

Пасля нападу Германіі на Польшчу паліцэйскі застаўся ў горадзе над Нёманам. Польска-нямецкі фронт рухаўся на Усход вельмі хутка. Гродна пачало рыхтавацца да абароны. Аднак змагацца давялося не з вермахтам, а з часткамі Чырвонай Арміі. У складзе роты дзяржаўнай паліцыі Кох удзельнічаў у баях за Гродна, якія працягваліся з 20 па 22 верасня 1939 года. Сілы былі няроўнымі: танкі супраць вінтовак. Польскім абаронцам горада давялося капітуляваць. У савецкі палон трапіла каля тысячы польскіх вайскоўцаў, паліцэйскіх і цывільных асоб. Чырвонаармейцы схапілі Станіслава Коха ўжо каля яго дома і забілі на месцы. «Мой дзед не «даехаў» да Катыні, але яго Катынню стала ціхая гродзенская вулачка. Колькі было такіх беларускіх Катыняў, не ведаюць нават гісторыкі», — падкрэслівае ў электронным лісце Артур Пятрэвіч. Цяжка штосьці дадаць да гэтых слоў. Сапраўды, да сённяшняга дня мы не ведаем усю праўду пра сталінскія злачынствы на тэрыторыі Беларусі.

Супрацоўнікі Камендатуры сталічнай паліцыі Варшавы даслалі мне даволі цікавыя ўспаміны пра аднаго з польскіх паліцэйскіх, які ў красавіку 1940 года быў забіты НКУС у Калініне (зараз Цвер) і пахаваны ў Медным. Камісар дзяржаўнай паліцыі, камендант аддзялення паліцыі ў г. Апочна (Лодзькае ваяводства) Люцыян Вацлаў Менке нарадзіўся ў 1887 годзе ў Мінску. Удзельнічаў у рабоце розных польскіх арганізацый. Падчас Першай сусветнай вайны служыў у рускай арміі. Пасля абвяшчэння незалежнасці Польшчы ўступіў у шэрагі Паліцыі Крэсаў Усходніх у Мінску. У 1920 годзе ў Варшаве пераведзены ў распараджэнне дзяржаўнай паліцыі. Менке ўзначальваў Камісарыят паліцыі ў Слоніме. Пасля гэтага была адукацыя і курсы павышэння кваліфікацыі. У 1925 годзе Люцыян быў намеснікам павятовага каменданта паліцыі ў Баранавічах. Ён актыўна ўдзельнічае ў фізічным выхаванні супрацоўнікаў паліцыі, за што атрымлівае ад МУС падзяку. У пачатку 1930-х Менке працаваў на кіраўнічых пасадах у Луцку і Улошаве. У сакавіку 1939 года ён быў прызначаны на пасаду павятовага каменданта паліцыі ў Апочне. Менке асабіста ўдзельнічаў у затрыманні трох нямецкіх дыверсантаў, якія былі накіраваны ў Лодзькае ваяводства дзеля збору інфармацыі аб дыслакацыі Войска Польскага.

З самага пачатку Другой сусветнай вайны Менке ўдзельнічаў у арганізацыі парадку ў горадзе. Хутка прыйшоў загад аб эвакуацыі на Усход. Паліцэйскія на чале з Люцыянам Менке павінны былі ахоўваць пераправы на Бугу. Апошнім заданнем супрацоўнікаў дзяржаўнай паліцыі з Апочна была арганізацыя калідора для праезду калоны грузавікоў, якія эвакуавалі польскі залаты запас у Румынію.

Пасля 17 верасня 1939 года паліцэйскія спрабавалі пакінуць ахопленую вайной Польшчу, аднак трапілі ў савецкі палон. Менке, ведаючы, як бальшавікі ставяцца да польскіх афіцэраў і паліцэйскіх, спароў пагоны, апрануў салдацкі шынель і пілотку. Аднак на адным з пастояў супрацоўнікі НКУС распазналі, што сярод радавых знаходзіцца афіцэр паліцыі, і адправілі Менке ў Асташкаўскі лагер.

Апошні ліст ад блізкага чалавека сям'я Менке атрымала ў студзені 1940 года. Яго жонка спрабавала пісаць у Польскі і Нямецкі Чырвоны Крыж, у савецкую амбасаду, але адказ быў аднолькавы: «Аб лёсе Люцыяна Менке нічога не вядома».

…У 1991 годзе на месцы масавых расстрэлаў польскіх паліцэйскіх у Медным каля Цверы пачаліся працы па эксгумацыі парэштак ахвяр сталінскіх рэпрэсій. Відавочцы гэтага, супрацоўнікі сталічнай камендатуры паліцыі Варшавы, апавядалі мне, што забітых было так многа, што зямля на месцы прац была цёмна-сіняй ад колеру паліцэйскіх мундзіраў. Адным з тых, каго забілі ў Медным, быў і ўраджэнец беларускага Мінска Люцыян Вацлаў Менке.

Вось такія тры трагічныя чалавечыя лёсы. У гісторыі сталінскіх злачынстваў на тэрыторыі Беларусі яшчэ шмат нявывучаных старонак. Да сённяшняга дня застаецца шмат «белых плям» і ў гісторыі савецкіх рэпрэсій супраць грамадзян Польшчы на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў 1939–1941 гадах. Праўда пра тыя жудасныя падзеі патрэбна не толькі палякам, але і нам, беларусам, таму што без яе не магчыма паўнавартаснае разуменне савецкага перыяду гісторыі Беларусі.



Магілкі ў Медным, 2011 г.

Свае меркаванні, а таксама інфармацыю па гісторыі сталінскіх злачынстваў на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў 1939–1941 гадоў можна дасылаць на электронны адрас аўтара: katyn_blr@gazeta.pl

ПЕРАСЯЛЕНЦЫ

# СІБІРСКІ БЕЛАСТОК

Ігар КУЗНЯЦОЎ




**Некалькіх стагоддзяў пры ўсіх урадах і рэжымах катаржнікі, высыльныя і дэпартаваныя спазнавалі пакутны шлях у Сібір. Але знаходзіліся і тыя, хто ехаў у той суровы край добраахвотна — у пошуках лепшай долі.**

У канцы XIX стагоддзя сібірскі рэгіён Расіі імкліва развіваўся і ўзмоцнена каланізаваўся: на будаўніцтва Вялікай транссібірскай чыгуначнай магістралі накіравалася мноства добраахвотных перасяленцаў, у тым ліку беларусаў. Сярод іх было шмат сялян з малазямельных заходніх губерняў Расійскай імперыі: Гарадзенскай, Віленскай, Віцебскай, Седлецкай, Курляндскай. У Томскім павеце перасяленцы заснавалі беларускія паселішчы — Андрэеўка і Ламавіцкае, Петрапаўлаўка і Полазава. У 1899 годзе ў наноў утворанай Нова-Аляксандраўскай воласці з'явілася вёска Беласток.

Не ад добрага жыцця адважваліся нашы землякі на перасяленне ў далёкую Сібір. Беззямелле ды неўрадлівая мясцовая глеба не дазвалялі пракарміцца вялікім сялянскім сем'ям. Царскі ўрад быў зацікаўлены ў перасяленні сялянства ў Сібір, абяцаў падтрымку, льготы і спрыянне ва ўладкаванні на новым месцы. І ў 1896 годзе ў Томскую губерню ў якасці хадака-выведніка прыехаў Аляксандр Іоч.

У Перасяленчым упраўленні яму прапанавалі агледзець участкі тайгі ў Нікалаеўскай воласці Томскага павета, якія адводзіліся пад засяленне. Што гэта былі за месцы, паведамляў томскаму губернатару чыноўнік па сялянскіх справах Райскі: «Што да ўчасткаў у Нікалаеўскай воласці, на якія прызначаецца прыблізна 800 сем'яў, то яны маюць горшыя ўмовы, чым іншыя перасяленчыя ўчасткі, як у параўнанні шляхоў зносін, так і паводле магчымасці набыць на там хлеб і земляробчыя прылады...»

Паўнаводная рэчка Шагарка падчас разліву аддзяляла гэтыя ўчасткі ад найбліжэйшых вёсак месяцы на паўтара-два. Аднак гэтыя землі чымсьці прывабілі Восіпа Ханевіча, яго аднавяскоўцаў Гераніма Мазюка і Восіпа Маркіша, братоў Аляксандра і Івана Іочаў. Яны абралі гэты кавалак тайгі — Рыбалоўскі перасяленчы ўчастак, дзе акрамя векавой тайгі было колькі еланяў — выгаралых месцаў (менш працы спатрэбіцца для раскарчоўкі пад пашу) ды яшчэ стаялі дзве хаткі пчаляроў суседняй Малчанаўскай воласці. Відавочна, спадабалася і глыбокая паўнаводная рэчка побач...

Запісаўшы за сабой і сваімі сваякамі гэтыя надзелы, вярнуліся хадакі за сем'ямі. Па вясне, калі атрымалі перасяленчыя пасведчанні і пад'ёмныя, выправіліся ў дарогу. Да Томску ехалі чыгункай у таварных вагонах разам са скацінай і правіянтам, сялянскімі прыладамі працы і начыннем (на сям'ю давалі па адным вагоне-таварняку). Далей да вёскі Малчанава плылі на параходзе па вялікай «сібірскай Місісіпі» — Обі, а там — сваім ходам праз тайговыя ўрманы і балоты да месца. На карце Томскай губерні ў 1899 годзе з'явілася яшчэ адно новае паселішча — Нова-Рыбалоўскае з 13 двароў.

На новым месцы абжываліся цяжка: суровая сібірская зямля з неміласэрным тайговым гнюсам улетку і нябачанымі маразамі ўзімку. Скаціна здыхала ад бяскорміцы. Ад дызентэрыі, холаду і голаду паміралі дзеці. Пякельная праца па раскарчоўцы тайгі пад ворыва вымотвала дарослых. Аднак працавалі з імпэтам: кожны абрабляў уласную зямлю, ведаў, што дабрабыт сям'і зараз залежыць толькі ад яго самога, а не ад пана ці чыноўніка.

Плынь перасяленцаў і хадакоў была аграмаднай. З 1884 па 1889 гады ў Томскую губерню прыехала з Беларусі 43 тысячы чалавек, а ў наступныя пяць гадоў — больш за 48 тысяч. У 1907 годзе, у перыяд найбольшага размаху зямельнай рэформы Пятра Сталыпіна, за год у губерню прыбыло 30 тысяч перасяленцаў.

Аднак шмат хто не вытрываў выпрабаванне Сібір\ю. Плынь тых, хто вяртаўся назад у Беларусь, год ад года ўзрастала: у 1901-м з Сібіры вярнулася на радзіму больш за 5 тысяч сем'яў, у 1907 годзе з Томскай губерні — 800 сем'яў. Улады на гэта глядзелі спакойна і цвяроза, папярэджвалі ахвотнікаў перасяліцца ў Сібір у часопісе «Сибирское переселение», што «дрэннага гаспадара Сібір на добрага не пераробіць».

Тыя, хто не спалохаўся цяжкасцяў, потым уладкаваліся, прыжыліся, паставілі моцныя пяцісценкі, свірны і гумны, выкапалі студні з высокімі «жураўлямі» — усё, як у роднай Беларусі. Абгарадзілі мястэчка.

Ва Усерасійскім сельскагаспадарчым перапісе канца 1916 года пазначана, чаго дамагліся нашы землякі за паўтара дзясятка гадоў гаспадарання ў Сібіры.

Паводле перапісу, у вёсцы Беласток налічвалася 95 сялянскіх самастойных гаспадарак, пражывала 516 чалавек, пад пашай было 285 дзесяцін апрацаванай зямлі. Ва ўсіх гаспадарках налічвалася 267 коней і 374 галавы буйнай рагатай скаціны. Невялікае багацце — 3–4 дзесяціны пашы на сям'ю з 7–10 чалавек, па два кані ў стайні ды тры каровы ў статку!.. У параўнанні з тубыльскімі сялянамі нашы выхадцы былі небагатымі. Але менавіта яны і такія, як яны, сяляне накармілі перад вайной Расію, а масла сібірскіх каровак стала папулярным у Еўропе.

У Сібіры памешчыкаў не было: кожны працаваў на сябе. Дабрабыт залежаў ад працавітасці і колькасці працоўных рук у сям'і. Але грамадзянская вайна, калчакоўшчына, продразгортка адбіліся на жыцці вяскоўцаў. Тады сем'і пазбавіліся шматлікіх карміцеляў. Тым не менш усё ішло сваім парадкам — неяк трэба было жыць...

Скончылася такое гаспадаранне напачатку трыццатых гадоў — падчас калектывізацыі па-сталінску: селяніна-хлебароба змянілі калгаснік і саўгаснік з зусім іншай псіхалогіяй і іншым стаўленнем да зямлі і працы. Калі штосьці першапачатковa і захавалася ад ранейшага селяніна — апантанасць у працы, ашчаднасць, гатоўнасць прыйсці на дапамогу ўсёй грамадой, то з часам, паступова, усё гэта знікала...

Масавая калектывізацыя ў краіне пачалася, як вядома, у канцы 20-х — пачатку 30-х гадоў. У Беластоку ж калгас упершыню быў створаны толькі ў красавіку 1935 года. Пра тое, чаго каштавалі вяскоўцам гэтыя пяць гадоў супраціву калектывізацыі, можна толькі здагадвацца. Пазбаўленне выбарчых правоў, цяжар падатковага прэса, распродаж маёмасці і раскулачванне, асуджэнне — вытрывалі ўсё.

Мабыць, не было толькі высылкі сем'яў раскулачаных з Беластоку далей — у Васюганскія балоты. Затое не адзін год назіралі вяскоўцы за тым, як высылалі іншых: ад трыццатага года па Нарымскаму тракту, праз вёску даволі часта ішлі ўзімку на поўнач Нарымскай акругі абозы раскулачаных. Ды і ў самой вёсцы знаходзілі часовы прытулак адміністрацыйныя высыльныя, тыя ж раскулачаныя.

Калгас у Беластоку назвалі «Чырвоны штандар» — па-свойму, насуперак волі начальства. Вясковыя ўлады імкнуліся хутчэй адрапартаваць пра завяршэнне суцэльнай калектывізацыі, таму сталі раскулачваць свавольных, шантажаваць тых, хто сумняваўся: адбіралі надзелы зямлі, прысядзібныя ўчасткі і агароды абразалі да самага ганка, павялічвалі планы здачы збожжа. А калі былі незадаволеныя, «дапамагала» міліцыя. Прайшлі першыя арышты: каго за «доўгі язык» упяклі, каго за нежаданне ўступаць у калгас.

З 1937 года пачалі забіраць «па лініі НКУС». У першую чаргу ўзялі дырэктара школы П.Д. Чырвонага, настаўніка І.П. Барысаўца і заўгаса школы Н.М. Карэліна. Разам з імі была арыштавана група калгаснікаў. Тады ж арыштавалі яшчэ некалькі чалавек, у тым ліку і сябра выканкама сельсавета І.С. Назарука. Але самай страшнай была ноч з 11 на 12 лютага 1938 года, калі арыштавалі амаль усіх мужчын ва ўзросце ад 17 да 70 гадоў, што яшчэ заставаліся.

Так былі «пераможаныя ворагі народа» з вёскі Беласток. Засталіся ў ёй толькі дзеці ды жанчыны, што сталіся ўдовамі задоўга да вайны. Ніхто з іх так і не дачакаўся сваіх мужоў, бацькоў, братоў.

Пасля арышту беластоцкія жыхары, што яшчэ заставаліся на волі, поўнай чарай выпілі лёс адрынутых. Шмат што ім давялося перажыць, як і дзясяткам сасланых у Беласток у гады вайны латышоў, немцаў, малдаван.

Жанчын вёскі рэпрэсіі па так званай «лініі НКУС», праўда, не закранулі. Мацяркам іх дзецям давялося доўгія гады несці на сабе цяжкую пячатку жонак і дзяцей «ворагаў народа».

Вывучэнне архіўна-следчых спраў перыяду 30-х гадоў у дачыненні да жыхароў Беластоку паказала, што з 30 жніўня 1937 года па 12 лютага 1938 года было арыштавана органамі НКУС 88 чалавек. Лічба ўражвае, бо ў вёсцы па выніках перапісу 1937 года налічвалася ўсяго 127 мужчын ад васямнаццаці гадоў да зусім старых.

Большасць арыштаваных абвінавачваліся як удзельнікі нацыяналістычнай контррэвалюцыйна-дыверсійнай паўстанцкай арганізацыі пад назвай «Польская арганізацыя вайсковая». Усе справы былі ліпавыя, сфабрыкаваныя супрацоўнікамі НКУС. Такога кшталту арганізацыі былі «абясшкоджаны» ў шмат якіх раёнах як Заходне-Сібірскага краю, так і Беларусі.

Паколькі прыператрусах не знаходзілі ніякай зброі, у абвінавачванні запісвалі, што гэта арганізацыя павінна была захапіць зброю падчас паўстання. Ад кожнага патрабавалі прызнацца ў здзяйсненні якога-небудзь шкодніцтва ці дыверсіі. Тым, хто быў больш пісьменны, прышывалася «контррэвалюцыйная прапаганда, падрыў аўтарытэту Савецкай улады і калгаснага ладу, упраўленне тэрорам».

Арыштаваныя ў жніўні 1937 года былі расстраляныя 5 лістапада 1937-га. Тыя ж, хто быў арыштаваны 11–12 лютага 1938 года, былі знішчаны 9–10 красавіка. Усе яны былі расстраляныя ў горадзе Калпашава (адміністрацыйны цэнтр Нарымскага краю — І.К.)

«Судзіла» сялян Беластоку не «тройка» НКУС Заходне-Сібірскага краю, а Асобая нарада. Усе паперы пра прысуды падпісвала высокае начальства ў Маскве, відавочна, для большай пераканаўчасці і значнасці сфабрыкаваных спраў.

Усе рэпрэсаваныя жыхары Беластока былі рэабілітаваны пасмяротна ў гады хрушчоўскай «адлігі».

Немагчыма паіменна назваць усіх рэпрэсаваных жыхароў Беластоку, як не ведаем мы прозвішчаў і імёнаў катаў, якія падпісалі прысуды пра расстрэл у Маскве, як не вядомыя нам і тыя, хто прыводзіў гэтыя прысуды ў выкананне на месцах.

Дзесьці на стэлажах Цэнтральнага архіва ФСБ у Маскве знаходзіцца на вечным захоўванні крымінальная справа № 830458 у трох тамах па абвінавачванні жыхароў вёскі Беласток. Ці адкрые яна свае таямніцы? Будзем спадзявацца.



Палякі, сасланыя ў Сібір у XIX ст. (ЮВ/IAR)

### КОНКУРС

## «БЫЦЬ БЕЛАРУСАМ: АДШУКАЙ СВОЙ RE1iKT»

Восень — найлепшы час для дзвюх рэчаў: крэатыўнага пошуку і ўтульных канцэртаў добрага року. Менавіта з гэтай нагоды грамадская кампанія «Будзьма беларусамі!» і гурт Re1ikt запрашаюць вас узяць удзел у конкурсе «Быць беларусам: адшукай свой Re1ikt» і завітаць на канцэрт гурта ў вашым горадзе.

Да канца кастрычніка мы разам абярэм найлепшую выяву рарытэтнай і дарагой вам рэчы, якую можна ахарактарызаваць як сапраўдны беларускі рэлікт. Гэта можа быць нешта з бабулінага куфра, ваш дзіцячы малюнак, зроблены ў 3 гады, падарунак з асаблівай гісторыяй, любімая кашуля з сэканд-хэнду ці плыта гурта «Уліс» «Чужаніца», якая змяніла вашае жыццё. На конкурс прымаюцца фотаздымкі (з арыгінальным каментарамі і без), крэатыўныя калажы і нават зафіксаваныя ў малюнку «тыя самыя словы».

Каб узяць удзел у конкурсе, вам трэба далучыцца да афіцыйнай суполкі кампаніі «Будзьма беларусамі!» УКантакце і дадаць свой фотаздымак у альбом конкурсу «Быць беларусам: адшукай свой Re1ikt».

Памятныя прызы ад гурта Re1ikt і кампаніі «Будзьма беларусамі!» атрымаюць дзесяць пераможцаў. Пяць чалавек — тыя, хто набярэ максімальную колькасць «лайкаў» пад сваімі малюнкамі ў альбоме, і яшчэ пяць — абраныя арганізатарамі конкурсу. Вынікі конкурсу будуць падведзеныя 31 кастрычніка.

Гурт Re1ikt мае 3 студыйныя альбомы, 2 DVD і шэраг афіцыйных і аматарскіх відэакліпаў. Сёння музыкі дзеляцца сваім фотаздымкам з «рэліктавай» кнігай, без якой, па іх прызнанні, «рэкі б ніколі не прабілі лёд у іх жыцці», ды запрашаюць усіх да ўдзелу ў конкурсе і чакаюць на сваіх канцэртах.

**Кампанія «Будзьма беларусамі»**

### КІНО

# БЕЛАРУСКІЯ СТУЖКІ ПА АМЕРЫКАНСКІМ РЭЦЭПЦЕ

**Андрэй РАСІНСКІ**

**Шэсць кароткаметражных фільмаў знялі выпускнікі Моладзевай кінашколы, што завяршыла сваю працу летам.**

Цяпер стужкі з'явіліся ў сеціве. Кінашкола працавала паўгады пры падтрымцы «Беларусьфільму», Цэнтру беларускай драматургіі і дзякуючы праграме малых грантаў амбасады ЗША. Дырэктарка Люба Журомская, кінакрытык Ала Бабкова, рэжысёры Ірына Пісьменная і Эла Мілава і прадзюсар Юры Будзько арганізавалі навучанне, а выкладалі ў школе Аляксандр Сакураў і Андрэй Кудзіненка, Віктар Аслюк і Аляксандр Качан, Піп Ходараў і Павал Фін.

У кінашколе, дэвізам якой было: «Прыходзь з ідэяй — сыходзь з фільмам!» На грошы, вылучаныя на самыя цікавыя праекты, выпускнікі школы паставілі чатыры карціны. А яшчэ два творцы зладзілі фільмы на ўласныя сродкі.

У выніку фільмы не саступаюць дэбютным карцінам выпускнікоў вядомых кінашколаў.

Карціна «Фанатка» Яўгена Ісачэнкі — стылёвая замалёўка пра жыццё і мастацтва. Дзяўчына прыводзіць на тэатральную рэпетыцыю свайго знаёмага. Неўзабаве той становіцца знакамітым, а кінутая каханка губляецца ў шэрагах фанатак. Жарсці на сцэне кантрастуюць з панылай штодзённасцю, мары згасаюць на гарадскіх вуліцах.

Стужка Максіма Багдановіча «Пераход», знятая на ўласныя сродкі, — сціплы эцюд пра вулічных музыкаў, таксама звяртаецца да тэмы мастацтва. А вось карціна «Механізм» Аляксандра Шупенькі з чорна-белымі кадрамі і пустымі ходнікамі — партрэт бесчасоўя, калі герой не ведае, што рабіць і дзеля чаго жыць. Падобныя фармальныя стужкі часта з'яўляюцца ў іншых кінашколах.

Адзіны дакументальны і адзіны беларускамоўны фільм — «Вандроўнік не вернецца» Алеся Лапо. Гэта адна з сама моцных карцінаў выпускнікоў. Фільм распавядае пра чалавека, які аб'ездзіў свет, але асеў у забытай беларускай вёсцы, дзе марыць адрадзіць жыццё. Да яго прыязджаюць такія ж апантаныя сябры-мастакі. Стужка нагадвае фільмы Віктара Аслюка, якімі Алесь Лапо захапляецца. Нягледзячы на драматургічныя шурпатасці, фільм прываблівае густоўнымі кадрамі, знятымі Філіпам Жукавым (дзеля якіх ён нават залазіў у студню), дакладнай аўтарскай пазіцыяй і харызмай героя.

Акрэсленай маральнай пазіцыяй вылучаецца і стужка Алесі Пагарэлавай «Пясочніца». Хаця фільм здымаўся без усялякіх грошай — і тэхнічныя чыннікі ягоныя далёка не гламурныя — у фільме дакладная гісторыя і кранальная гульня дзетак. Хлопчык і дзяўчынка гуляюць у пясочніцы; дзяўчынка выхваляецца сваім татам, хлопчык марыць, каб тата ў яго быў. Калі з'яўляецца бацька дзяўчынкі (мясцовы п'яніца), хлопчык вісне на ім: тата вярнуўся!

Зусім іншая маральна-псіхалагічная сітуацыя ў карціне Алены Алексане.

«У траве сядзеў конік» пачынаецца як ідылія. Раніца. Загарадная хатка. Клапатлівы бацька ловіць для дачушкі коніка, абдымае і цалуе жонку. Герой — міліцыянт, і гэта другая, кантрасная частка карціны. На працы ён страляе асуджаным у патыліцу.

Стужкі маладых мастакоў яшчэ не атрымалі належнага розгаласу. Але пераканаўчыя заяўкі ў партрэтную галерэю кінатворцаў ужо пададзеныя.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл.: 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае унітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1-1234.
Тэл.: +375 29 651 21 12, +375 17 268 52 81
novychas@gmail.com; www.novychas.org

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 981

Падпісана да друку 28.09.2012. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.

Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.

Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.